# САВЕЦКАЯ КРАІНА





ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО
КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ
БЕЛАРУСКАЙ
АКАДЭМІІ
НАВУК

ЛІПЕНЬ
№ 7
(9)
1931

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*



# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД-ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ

Ліпень

№ 7 (9)

МЕНСК — 1

# Да ўсіх навуковых установ БССР.

Кастрычнікавая рэволюцыя зьявілася моцным штурхачом бурнага разьвіцьця беларускай соцыялістычнай культуры і навукі. За гады рэволюцыі ў БССР утвораны Беларуская Акадэмія Навук і шматлікія навукова-дасьледчыя інстытуты, у якіх працуе больш тысячы навуковых працаўнікоў. Разьвіцьцё навуковых установ яшчэ раз відавочна сьведчыць, што толькі дыктатура пролетарыяту пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі забясьпечвае сапраўднае разьвіцьцё навукі. Яшчэ большае значэньне набывае навука ў рэконструкцыйны пэрыод, калі шырокае разьвіцьцё навуковай думкі зьяўляецца аднэй з асноўных умоў посьпеху нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Задачы, якія стаяць перад навукай у рэконструкцыйны пэрыод, калі разьвіцьцё навукі павінна знаходзіцца ў цясьнейшай органічнай сувязі з нашым соцыялістычным будаўніцтвам, у сваю чаргу патрабуюць узмоцненай увагі і да пытаньняў організацыі навукова-дасьледчай работы ў БССР. Распыленасьць і паралелізм, якія практыкаваліся да гэтага часу ў навукова-дасьледчай працы, ніякім чынам ня могуць быць прызнаны нормальным зьявішчам. Зараз у нас наглядаецца, што вялізарныя сумы, якія адпускаюцца ўрадам БССР на навуковыя мэты, нярэдка расходуюцца на распрацоўку адных і тых-жа проблем радам навуковых установ, якія ня зьвязаны паміж сабою і часам знаходзяцца нават ва ўмовах недапушчальнай конкурэнцыі. Гэтыя хваробы бурнага росту нашай навукі неабходна хутчэй зьліквідаваць. Дырэктывы нашай партыі ў пляна- ваньні навукова-дасьледчай работы набываюць для БССР асабліва вялікае значэньне, бо толькі правільная організацыя навукова-дасьледчай справы і рацыянальнае скарыстаньне вялізарных сродкаў, якія адпускаюцца ўрадам, забясьпечаць сапраўдную органічную сувязь навукі з нашым соцыялістычным будаўніцтвам і дазволяць нашым навуковым установам яшчэ больш пасьпяхова разгарнуць сваю работу. Наадварот, ізоляванасьць розных навуковых установ, саматужніцтва ў іх рабоце зьмяншаюць ролю навукі і навуковых працаўнікоў у справе соцыялістычнага будаўніцтва. Не дарма былое нацыянал-дэмократычнае кіраўніцтва Акадэміі патурала існуючаму саматужніцтву і паралелізму навуковых установ.

Савет Народных Камісараў БССР, улічваючы неабходнасьць палепшаньня пастаноўкі навукова-дасьледчай работы БССР, сваёй пастановай ад 3 чэрвеня кладзе пачатак у справе ўпарадкаваньня організацыі навукова-дасьледчай работы ў БССР. Адзначаючы, што ў сувязі з пасьпяховым ходам соцыялістычнага будаўніцтва, у сувязі з рэконструкцыяй народнай гаспадаркі „задача соцыялістычнага пляна- ваньня навукі і навукова-дасьледчай работы набывае выключна важнае

значэньне“, — Савет Народных Камісараў усклаў на Беларускую Акадэмію Навук кіраўніцтва навукова-дасьледчай работай у БССР. „Устанавіць,—гаворыцца ў гэтай пастанове ўраду—што Беларуская Акадэмія Навук павінна зьявіцца адзіным навуковым рэспубліканскім цэнтрам, у якім концэнтруецца агульнае кіраўніцтва ўсёй навукова-дасьледчай работай у БССР“.

У мэтах ажыцьцяўленьня гэтай задачы Савет Народных Камісараў пастанавіў „даць Беларускай Акадэміі Навук права:

а) плянаваньня работы ўсіх навукова-дасьледчых установ, якія працуюць на тэрыторыі БССР, незалежна ад таго, пад чыім ведамам знаходзяцца гэтыя навукова-дасьледчыя ўстановы;

б) устанаўленьня марксыцкай мэтодолёгіі ў рабоце ўсіх навукова-дасьледчых установ;

в) устанаўленьня тэматыкі;

г) сыстэматычнага контролю ўсіх навукова-дасьледчых установ у галіне выкананьня зацьверджаных імі плянаў і мэтодаў работы.

Абавязаць усе народныя камісарыяты і рэспубліканскія ўстановы, пад веданьнем якіх знаходзяцца навукова-дасьледчыя ўстановы, а таксама філіалы ўсесаюзных інстытутаў, якія працуюць у БССР, своечасова прадстаўляць пляны работ навукова-дасьледчых інстытутаў, станцый і інш. у Прэзыдыум Беларускай Акадэміі Навук“.

Прыступаючы да выкананьня задач, ускладзеных урадам на Беларускую Акадэмію Навук, Прэзыдыум БАН зьвяртаецца з прапановай да ўсіх навукова-дасьледчых установ, станцый і інш. навуковых установ у 2-дэкадны тэрмін з дня надрукаваньня гэтай адозвы прадставіць у Беларускую Акадэмію Навук наступныя весткі:

1) дакладная назва навукова-дасьледчай установы, яе структура, бюджэт і колькасьць навуковых працаўнікоў;

2) у веданьні каго ўстанова знаходзіцца;

Увага: Для філіалаў усесаюзных установ паказаць, у якой сувязі знаходзіцца філіал з мясцовымі наркаматамі ці адпаведнымі гаспадарчымі ўстановамі.

3) пляны навуковых работ інстытуту з паказаньнем іх выканаўцаў і даты выкананьня (каляндарны плян);

4) кароткая справаздача аб працы за 1930 год;

5) ці маецца бібліотэка пры інстытуце і наколькі яна задавальняецца выпіскаю замежнай літаратуры;

6) наколькі інстытут задаволены замежнымі камандыроўкамі;

7) ці зьяўляецца здавальняючай матар‘яльная база інстытуту, наколькі інстытут забясьпечаны памяшканьнем і лябораторыямі;

8) якія неабходны практычныя мерапрыемствы па палепшаньні працы інстытуту і якая дапамога павінна быць аказана Акадэміяй у справе далейшага разьвіцьця інстытуту.

На падставе пастановы ўраду ад 3-га чэрвеня гэтыя весткі прапануецца прадставіць у Беларускую Акадэмію Навук у абавязковым парадку. У той-жа час Беларуская Акадэмія Навук зьвяртаецца з заклікам да ўсіх навуковых працаўнікоў прыняць актыўны ўдзел ва ўпарадкаваньні навукова-дасьледчай работы ў БССР. Беларуская Акадэмія Навук будзе ўдзячна кожнаму навуковаму работніку, які дапаможа Акадэміі сваімі практычнымі ўказаньнямі ў справе пасьпяховага правядзеньня ў жыцьцё пастановы Савету Народных Камісараў.

Беларуская Акадэмія Навук упэўнена, што нашы навуковыя кадры кроўна зацікаўлены ў стварэньні больш спрыяючых умоў для разьвіцьця навуковай работы і добра ўсьведамляюць, што задачы, ускладзеныя на Акадэмію, агульная справа ўсіх навуковых працаўнікоў БССР, якія змагаюцца за пасьпяховае будаўніцтва соцыялізму і за тое, каб навука і навуковыя працаўнікі былі ў авангардзе нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Прэзыдэнт Беларускай
Акадэміі Навук *П. Горын.*

---

# РЭЗОЛЮЦЫЯ

## аб становішчы на філёзофскім фронце БССР.

*(Прынята на агульным сходзе Таварыства Ваяўнічых Матар'ялістаў Дыялектыкаў Беларусі 1/VI-31 г.).*

Пасьпяховае соцыялістычнае будаўніцтва ў нашай краіне, уступленьне ў пэрыод соцыялізму, завяршэньне ў гэтым годзе фундаманту соцыялістычнае экономікі, ліквідацыя кулацтва, як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі, разгорнутае наступленьне соцыялізму па ўсяму фронту — усё гэта адбываецца ў абстаноўцы абвостранай клясавай барацьбы, у абстаноўцы росту супраціўленьня з боку эксплёататарскіх клясаў, якія зараз зьнішчаюцца.

Ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі, якая кіруе клясавай барацьбой пролетарыяту, высоўвае з вялікай вастратой неабходнасьць самай жорсткай барацьбы з рознымі ухіламі ад генэральнай лініі.

Пасьпяховае ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі немагчыма без рашучай барацьбы з рэакцыйнымі буржуазнымі і дробна-буржуазнымі ідэолёгіямі ва ўсіх галінах тэорыі, ідэолёгіямі, якія імкнуцца рэвізаваць марксызм-ленінізм, прыкрываючыся марксыцкай фразэолёгіяй.

У галіне філёзофіі рэвізія марксызму знайшла свой выраз, з аднаго боку, у мэханістычнай концэпцыі, якая ў асноўным зьяўляецца мэтодолёгіяй правага ўхілу і таму на даным этапе зьяўляецца найбольш небясьпечнай, з другога боку — у форме меншавіцтвуючага ідэалізму.

Барацьба з меншавіцтвуючым ідэалізмам, якая была праведзена пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі, выкрыла яго антымарксыцкую сутнасьць. Меншавіцтвуючы ідэалізм адмаўляў партыйнасьць у філёзофії і наогул у навуцы, не падпарадкоўваў тэорыю справе соцыялістычнага будаўніцтва і рэволюцыйнай барацьбы пролетарыяту; ён ня толькі не выкрываў палітычнай і тэорэтычнай сутнасьці ўхілаў ад генэральнай лініі партыі, у прыватнасьці троцкізму і „левых“ загібаў, але прыкрываў і ў асобе паасобных кіраўнікоў выступаў супроць генэральнай лініі партыі, ня вёў разам з партыяй барацьбы з меншавіцкімі тэорыямі ў політэкономіі (Рубін), у літаратуразнаўстве (пераверзеўшчына) і іншых галінах тэорыі, а адносіўся да іх прымірэнча і прыкрываў іх.

Меншавіцтвуючы ідэалізм адмаўляў ленінскі этап у разьвіцьці тэорыі марксызму-ленінізму, замазваў тэорэтычныя памылкі Пляханава і іх сувязь з яго меншавізмам, рэвізаваў Леніна, і ў прыватнасьці скажаў тэстамэнт Леніна ў яго артыкуле „Аб задачах ваяўнічага матар'ялізму“, ігнараваў тэорэтычную ролю партыі, яе ЦК і тав. Сталіна.

Кіраўніцтва соцыялістычным будаўніцтвам, ускрыцьцё складаных законамернасьцяй пераходнага пэрыоду, аналіз клясавых зрухаў у нашай краіне — словам кіраўніцтва клясавай барацьбой пролетарыяту патрабуе правільнага ўжываньня марксыцка-ленінскай тэорэтычнай зброі.

Філёзофы павінны вучыцца ў партыі ўжываньню тэорэтычнай зброі марксызму-ленінізму, чаго не жадаў і ня мог зразумець меншавіцтвуючы ідэалізм.

Партыя ў асобе тав. Сталіна дапамагла партыйцам, якія працуюць ў галіне філёзофіі, выкрыць рэвізіянісцкую сутнасьць меншавіцтвуючага ідэалізму.

Ужо ў 1924 г. т. Сталін даў ацэнку ленінізму, як новаму этапу ў разьвіцьці тэорыі марксызму. Тав. Сталін на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў у 1929 г. указаў на адставаньне тэорыі ад задач соцыялістычнага будаўніцтва, што паслужыла непасрэдным штуршком да філёзофскай дыскусіі. Нарэшце, вялізарнейшае значэньне мае гутарка тав. Сталіна з Бюро ячэйкі ІЧП ФЕ ў сьнежані 1930 г., у якой тав. Сталін з асаблівай яскравасьцю ўскрыў палітычную сутнасьць дэборыншчыны, як меншавіцтвуючага ідэалізму, падняўшы тым самым дыскусію на большую вышыню.

Барацьба, якую партыя вядзе супроць меншавіцтвуючага ідэалізму, не атрымала яшчэ ў БССР неабходнай прынцыповай пасьлядоўнасьці, глыбіні і рашучасьці. У цэлым радзе філёзофскіх прац БССР мелі месца грубыя мэханістычныя, позытывісцкія, эклектычныя памылкі і элемэнты меншавіцтвуючага ідэалізму.

Організацыя і ход дыскусіі, якая праходзіла ў канцы 1930 г., не адпавядала задачам ускрыцьця гэтых памылак. Дыскусія пачалася з вялікім спазьненьнем. У той час, калі партыя пачала разгортваць барацьбу з меншавіцтвуючым ідэалізмам, кіраўніцтва ТВМДБ заняла опортуністычна-чакальную позыцыю, не дааценіўшы палітычнага сэнсу гэтай барацьбы. Гэта-ж опортуністычная позыцыя выявілася і на самым сходзе і зьмесьце дыскусіі, якая атрымала вузка замкнуты характар, у яе ня былі ўцягнуты шырокія масы і асабліва партыйны актыў, ня была разгорнута бальшавіцкая крытыка і самакрытыка.

Выступленьні супроць дэборыншчыны насілі дэклярацыйны характар, ня выкрылі яе палітычнай сутнасьці. Асобныя выступленьні кіруючых таварышоў (у прыватнасьці Выдры) былі об'ектыўна накіраваны супроць павароту і перашкаджалі партыі ў яе барацьбе з дэборыншчынай. Замест концэнтраванай увагі на неабходнасьці рашучай барацьбы з дэборыншчынай, тав. Выдра выступаў пад лёзунгам „павярачваць з галавой з захоўваньнем завяяваных позыцый, а з другога боку, выступаў супроць некаторых артыкулаў (з часопісу „Рэволюцыя і культура“), накіраваных на барацьбу з дэборыншынай, за партыйнасьць у філёзофіі, — тым самым об'ектыўна садзейнічаў дыскрэдытацыі новага філёзофскага кіраўніцтва. Гэтыя выступленьня ня сустрэлі патрэбнага адпору і ня былі выкрыты да канца.

Ня глядзячы на ўказаны ход дыскусіі, пад нажымам партыі і масы членаў ТВМДБ напрамак работы на паасобных вучастках філёзофскага фронту часткова зьмяніўся: колектыў філёзофаў самавызначыўся ў напрамку барацьбы з дэборыншчынай, зьмяніліся тэматыка і формы працы інстытуту філёзофіі ў сэнсе набліжэньня да актуальных задач соц. будаўніцтва і колектыўных мэтодаў працы, праведзена дыскусія па мэтодолёгіі троцкізму і прароблена вялікая праца па выкрыцьцю контррэволюцыйнай сутнасьці беларускага нацдэмократызму, узмац-

ніўся ўдзел філёзофаў у антырэлігійнай працы, пэдагогічная практыка вядзецца з пункту погляду барацьбы на два фронты ў тэорыі, хаця гэта праца не пастаўлена на належную вышыню.

Аднак, на чале гэтай работы ня стала Праўленьне ТВМДБ, дзякуючы чаму яна ішла самацёкам, а ТВМДБ, як організацыя, не ажыцьцявіла павароту ў БССР да апошняга часу і ня выканала пастаўленых партыяй задач у галіне філёзофіі.

Гэта тлумачыцца характарам і ходам дыскусіі, складам Праўленьня, якое было абрана ў той час, калі недастаткова чотка вызначылася позыцыя паасобных таварышоў пры наліччы перажыткаў меншавіцтвуючага ідэалізму ў паасобных членаў ТВМДБ.

Бальшавіцкая крытыка і самакрытыка ня стала мэтодам працы ТВМДБ да гэтага часу, дзякуючы чаму яшчэ не разгорнута крытыка філёзофскіх прац БССР (Вольфсона, Быхаўскага і інш.), ня гледзячы на вынесеныя пастановы.

Сход ТВМДБ асуджае опортуністычную лінію кіраўніцтва ТВМДБ і лічыць неабходным зьмяніць кіруючы склад яго, узмацніўшы яго маладымі філёзофскімі кадрамі.

Такое становішча прывяло да новай дыскусіі, якая супала з падвядзеньнем вынікаў усесаюзнай нарады ТВМДБ. Гэта дыскусія, якая пачалася ўнутры Праўленьня і фракцыі актыву, упяршыню падвяла вынікі мінулага этапу, разгарнуўшы па гэтым пытаньні партыйную крытыку, дзякуючы чаму частка таварышоў фракцыі ў цэлым прызнала свае памылкі. Гэта дыскусія мела сваёй мэтай стварыць карэнны паварот у бок выкананьня вялізарных партыйных задач, якія стаяць перад філёзофскім фронтам у БССР.

Побач з агульнымі задачамі, якія ставіць партыя ў галіне філёзофіі — барацьба за генэральную лінію партыі на два фронты: супроць мэханіцізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць меншавіцтвуючага ідэалізму, супроць прымірэнцтва да іх, за марксыцка-ленінскую філёзофію, за падпарадкаваньне ўсёй тэорэтычнай працы задачам соцбудаўніцтва, задачам барацьбы за пролетарскі атэізм, — ва ўмовах БССР выдзяляюцца спэцыфічныя моманты гэтых задач: барацьба з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, беларускім нацдэмократызмам і шовінізмам іншых колераў ва ўсіх галінах тэорыі і практыкі; распрацоўка проблем будаўніцтва культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу, распрацоўка тэорытычных проблем рэволюцыйнага руху Заходняй Беларусі, найхутчэйшая падрыхтоўка пролетарскіх беларускіх тэорэтычных кадраў, якая мае ў сучасны момант вельмі важнае значэньне для БССР.

Філёзофскія організацыі БССР павінны ўвязаць сваю працу як з агульнасаюзнымі організацыямі, так і з іншымі навуковымі організацыямі БССР, практыкуючы супольную распрацоўку паасобных проблем. У мэтах большай концэнтрацыі сіл і больш глыбокай распрацоўкі конкрэтных задач гадавы плян павінен уключыць у сябе некалькі вузлавых проблем (нацыянальнае пытаньне, законамернасьці пераходнага пэрыоду антырэлігійнай працы, вывучэньне ленінізму, як новага этапу філёзофіі), над якімі павінен працаваць увесь філёзофскі колектыў. Тэмпы працы павінны намячацца, выходзячы з вучоту спэцыфічных запатрабаваньняў БССР і павінны быць абавязкова ўзгодненыя з агульнасаюзным плянам. Агульны сход ТВМДБ лічыць неабходным асабліва падкрэсьліць, што барацьба супроць ухілаў ад лініі партыі па нацыянальнаму пытаньню павінна быць паднята на яшчэ большую прынцыповую вышыню і цясьней увязана з усёй тэорэтычнай

працай. Адным з важнейшых момантаў дзейнасьці ТВМДБ павінна быць перабудова ўсёй філёзофскай працы на колектыўных пачатках.

ТВМДБ павінна разгарнуць шырокую пропагандысцкую працу сярод партыйцаў, рабочых, колгасных мас на падставе барацьбы за генэральную лінію партыі ў галіне філёзофіі. Адначасова з гэтым павінна быць пашырана організацыйная база ТВМДБ, шляхам прыцягненьня ў ТВМДБ працаўнікоў іншых вучасткаў марксыцка-ленінскага тэорэтычнага фронту, практычных партыйных працаўнікоў, шляхам організацыі ячэек ТВМДБ на буйных прадпрыемствах, у колгасах і ВНУ БССР. У мэтах разгортваньня працы ТВМДБ лічыць неабходным склікаць Усебеларускую нараду ТВМДБ. Падрыхтоўчая кампанія да нарады павінна весьціся на падставе шырокай пропаганды і популярызацыі пастаноў усесаюзнай нарады ТВМД на падставе крытыкі і самакрытыкі філёзофскай продукцыі БССР.

Для разьвіцьця тэорэтычнай думкі БССР, распрацоўкі і пропаганды марксызму-ленінізму лічыць неабходным стварэньне пры ЦК КП(б)Б тэорэтычнага часопісу.

У мэтах выданьня ідэолёгічна-вытрыманай тэорэтычнай продукцыі, а таксама для папярэджваньня зьяўленьня на кніжным рынку варожай продукцыі — лічыць неабходным устанаўленьне сувязі Белдзяржвыдавецтвам з адпаведнымі марксыцкімі навуковымі організацыямі.

Паставіць задачу перад філёзофскімі організацыямі распрацаваць програмы па дыялектычнаму матар'ялізму, выходзячы з установак Усесаюзнай нарады ТВМД, а таксама ўстанавіць контроль за пэдагогічнай працай, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на провінцыяльныя ВНУ і Комвузы.

Інстытут філёзофіі і ТВМДБ павінны чотка разьмежаваць сваю дзейнасьць, пакідаючы за Інстытутам у асноўным навукова-дасьледчую працу, а за ТВМДБ масава-пропагандыцкую.

Лічыць неабходным асьвятліць на старонках часопісу „Бальшавік Беларусі" і газэты „Зьвязда" становішча на філёзофскім фронце БССР і яго чарговыя задачы.

Выкананьне ўсіх пастаўленых задач магчыма пры ўмовах разгортваньня бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі філёзофскай продукцыі БССР, пры ўмове колектыўных мэтодаў працы, пры ўмове консолідацыі ўсіх філёзофскіх сіл вакол распрацоўкі актуальных філёзофскіх проблем на падставе маючайся чоткай партыйнай лініі, будуючы сваю працу на падставе пастаноў ЦК УсеКП(б) па дакладу Ком. Акадэміі і аб часопісу „Под знаменем марксизма" і пастановы ЦК КП(б)Б аб працы комуністаў навуковых працаўнікоў.

---

**Ротман.**

# Афіцыйны гісторык нацдэмаў.

„История есть политика, обращенная в прошлое.“

*М. Н. Покровский.*

Быць можа ніколі ў гісторыі гэтае палажэньне выдатнага гісторыка-марксыста не знаходзіла сабе такога бліскучага пацьвярджэньня, як зараз, у эпоху разгорнутага будаўніцтва соцыялізму. Клясавыя супярэчнасьці паміж СССР і капіталістычным сьветам надзвычайна абвастрыліся, але і ўнутры Савецкай краіны ўсе варожыя сілы аб'ядналіся ў адзіны фронт контр-рэволюцыі. Шахцінская справа, процэс „Промпартыі“, процэс „Саюзнага Бюро“—яскрава ўскрылі гэтую агентуру міжнароднага імпэрыялізму.

Выкрыцьце контррэволюцыйнай організацыі беларускіх нацыянал-дэмакратаў—гэтых агентаў польскага імпэрыялізму і фашызму, падкрэсьлівае ўсё той-жа процэс консолідацыі ўсіх варожых сіл супроць дыктатуры пролетарыяту. Гэта і зразумела. Клясавы вораг аказвае шалёнае супраціўленьне, калі ў парадак дня пастаўлена пытаньне аб выкарчоўваньні рэштак капіталізму асабліва, калі ліквідуецца кулацтва як кляса на базе суцэльнай колектывізацыі. Гісторыя—самая палітычная навука; яна дае ў рукі пролетарыяту моцную зброю ў змаганьні з ворагамі пролетарскай дыктатуры, вялізную ўпэўненасьць і яснасьць; яна ўскрывае і паказвае, як гістарычны процэс, клясавая барацьба ў Эўропе і Амэрыцы і інш. краінах з няўхільнасьцю вядзе да дыктатуры пролетарыяту. Але і ворагі заўсёды бягуць да гісторыка і імкнуцца знайсьці падмацаваньне для свайго існаваньня, для сваёй контррэволюцыйнай справы. Так да гісторыі зьвярнуліся і нацдэмы—гэтыя рэстаўратары капіталізму на Беларусі, каб там, у глыбіні вякоў, у далёкай мінуўшчыне адшукаць „падставы“ сваім поглядам, сваёй політыцы. У фэўдальна-прыгоньніцкай монархіі Жыгмунтаў яны бачылі пачатак „адраджэньня“ Беларусі (якой?) і ніткі гэтых тэорый цягнулі да Савецкае Беларусі, да дыктатуры пролетарыяту. Яны гэтым хацелі давесьці „няміну.часьць“ рэстаўрацыі капіталізму. Нацдэмы рыхтавалі крывавую лазьню рабочым і сялянам, і ў сваёй дзікай нянавісьці гэтыя прыхільнікі „народу беларускага“ аб'ядналіся з Рамзінымі, Ларычавымі, Капланамі, Громанамі і г. д. і з адкрытымі чорнасоценцамі, як Сапуноў, экспортаваны з-за граніцы Дурнаво і інш. Гэтыя агенты польскага фашызму хацелі зьнішчыць усе заваёвы Кастрычніка, на шыю рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкіх мас яны хацелі вярнуць памешчыкаў і капіталістаў. Але стаўка нацдэмаў біта. Пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва зьмятае ўсе варожыя сілы.

Гістарычна ўгрунтаваць контр-рэволюцыйную політыку нацдэмаў узяўся проф. Доўнар-Запольскі, які да Кастрычніка ў сваіх асноўных працах стаяў за „единую, неделимую“ і свае дасьледваньні абапіраў на вядомую троххвостку—праваслаўе, самаўладзтва і народнасьць, разумеючы апошнія два зьвяны па-буржуазнаму, — ён за самаўладзтва крыху на ангельскі манэр, за народнасьць—„хлебароба-кулака.“ Доўнар-Запольскі за 45 год сваёй працы даў не адну сотню прац *усякага* зьместу і разьмеру [1]). Яго кар‘ера таксама align="left"розн астайна: доктар гісторыі, профэсар, дырэктар комэрцыйнага інстытуту ў Кіеве, пасьля 1905 г. буйны дамаўласьнік, пасьля Кастрычніка афіцыйны гісторык нацдэмаў [2]) і дыплёмат, організатар гандлёвай ізбы беларускай у Кіеве, разам з А. Цьвікевічам піша ноты Савецкаму ўраду аб разьдзеле граніц Беларусі з РСФСР для пабудовы буржуазнай Беларусі [3]), профэсар БДУ і працаўнік Дзяржпляну, абгрунтоўваўшы нямінучасьць рэстаўрацыі капіталізму на Беларусі — вось кароткае кола дзейнасьці Доўнар-Запольскага, якое паказве твар хамэлеона і буржуазнае нутро гэтага вучонага. Цяпер трэба прыпадняць на момант заслону мінулага. Трэба адзначыць, што ў пачатку сваёй літаратурнай дзейнасьці Доўнар-Запольскі ў сваіх этнографічных і інш. нарысах схіляе на ўсе лады Беларусь. Быў кароткатэрміновы пэрыод, калі ён імкнуўся выступіць у постаці ідэолёга беларускай буржуазіі і кулацтва, але і тут ужо заўважаюцца ноты вялікадзяржаўнасьці. Так, у „Белорусском Прошлом„ ён піша:

> „Польское начало вносило в Белоруссию шляхетскую и аристократическую республику; московское начало—боярскую олигархию. То и другое государство совершенно исключало демос, тогда как белорусский народ был прежде всего по своим историческим и бытовым традицыям в высшей степени демократичен [4]).

Перед намі ясна нібы постаць ідэолёгіі маладой беларускай буржуазіі і кулацтва (гэта пісана ў 80-х гг.), але ў тым-жа артыкуле ўжо намячаецца перялом. Доўнар-Запольскі дае вельмі цікавую формулу, якая па сутнасьці зьяўляецца мостам да вялікадзяржаўнага шовінізму. Папікаючы дыплёматыю і вучоных, у прыватнасьці Карамзіна, што яны не заўсёды мелі яснае ўяўленьне аб мінулым і сучасным становішчы Беларусі, ён піша:

> ... там живет народ, который имеет *большое сходство с великороссами, там тоже Русь (только не Великоруссия)* (курсіў мой—Р. [5]).

У сваёй працы „Государственное хозяйство Великого Княжества Литовского при Ягеллонах“ (т. 1, Киев 1901 г.) Доўнар-Запольскі выступіў ужо ў позе вялікадзяржаўнага шовініста. Ён піша:

> „В Литовско-Русском государстве укоренилось господство старинного русского права — частью писанного, но большей частью обычного.

---

[1]) Бібліогр. Працы клясы гісторыі, т. III Менск, стар. 566-570 (хаця вельмі няпоўная).

[2]) Доўнар-Запольскі М. В.—„Асновы дзяржаўнасьці Беларусі“, выд. Мін. Бел. Спраў. Горадня 1919 г.

[3]) Турук—„Рэвол. движ. в Белоруссии“ Москва. 1921 г. Прилож. Ст. 117, нота делегации.

[4]) Доўнар-Запольскі—„Исследования и статьи“, т І. стар. 334-335.

[5]) Там-жа, стар. 337.

І ... прежде всего среди особенностей сложения Литовско-Русского государства, на первое место надо поставить то, что оно образовалось не только под господствующим влиянием русской национальности, но и сохранилось и впитало в себя все главнейшие черты удельно-земского строя древне-русской истории" [1]).

У заключэньні сваёй кнігі, як і на ўсім працягу яе, Доўнар-Запольскі ўсюды паказвае свой вялікадзяржаўны шовінізм. Так, на стар. 103 ён падкрэсьлівае:

„настаивая на коренном значении древне-русского начала в деле образования Литовского-Русского государства".

Махрова-вялікадзяржаўны шовінізм, нават з нахілам да чорнасоценства можна знайсьці і ў напісаных яшчэ ў 80-90 гг. артыкулах; поўная бяспрынцыпнасьць пануе ў іх. Доўнар-Запольскі вышаў на заклік узрастаўшай беларускай буржуазіі, але потым вельмі хутка пайшоў да пануючай сілы—самаўладзтва разам з расійскай буржуазіяй, бо там, зразумела, лепш плацілі. Нельга ня прывесьці яшчэ адной цытаты, якая поўнасьцю апраўдвае колёніяльную політыку царызму і дыктатуры прыгоньнікаў. Вось як ён тлумачыць (зусім ў стылі Каяловіча) далучэньне Беларусі і Украіны да Расійскае імпэрыі:

„Когда белоруссы и малоруссы понялі, наконец, невозможность претерпевать польско-католическое иго, они стали искать внешней точки опоры, внешней силы, которая поддержала бы их в предстоящей борьбе. Такой *силой была Москва, единоверная и родственная,* на которую и обратили свои взоры *западноруссы* [2]) (адна тэрмінолёгія чаго каштуе! Курсіў аўтара).

Але аб гэтым даволі. Мы ня думаем уступаць у полеміку па поваду прыведзенай цытаты, для нас важна адно, што офіцыйны гісторык нацдэмаў у недалёкім мінулым быў проста заядлым вялікадзяржаўным шовіністам, які абараняў інтарэсы дзікага рускага імпэрыялізму і самаўладзтва.

Мы ня можам у маленькім артыкуле агледзець усе творы Доўнар-Запольскага, пакажам толькі некаторыя его тэорыі і ўстаноўкі якія нам ясна пакажуць, што гэты вялікадзяржаўны шовініст пасьля Кастрычніка хутка пераафарбоўваецца ў нацдэма і жонглюе іншы раз марксыцкімі тэрмінамі, пад якімі цалкам прасоўвае буржуазныя тэорыі. Беларускія нацдэмы, вёўшыя ўзброеную барацьбу супроць улады Саветаў, лізаўшыя боты і кайзеру і французскім інтэрвэнтам і шчыра вітаўшыя ката рабочых і сялян — Пілсудзкага, пакаяўшыся і папаўшы ў БССР павялі далей сваю шкодніцкую работу. Яны пастараліся захапіць у БССР усе камандныя вышыні на культурным фронце. Засеўшы, галоўным чынам, у Інбелькульце, потым у Акадэміі Навук — гэтыя псэўда-вучоныя высмоктвалі свае „тэорыі" літаральна з пальца, абы яны былі супроць бальшавікоў. Доўнар-Запольскі ў сваёй брошуры і іншых працах па гісторыі Беларусі (першая, між іншым, была перакладзена на тры эўропейскія мовы) даводзіў, што Беларусь можа разьвівацца толькі ідучы па шляху капіталізму. „Тэорыя самабытнасьці", якая знайшла свой адбітак і ў падручніках Ігнатоўскага, была разьвіта

---

[1]) Доўнар-Запольскі—„Государ. хозяйство", т. I, стар. 27.
[2]) Доўнар-Запольскі — „Исследования и статьи", т. I — „Белорусское прошлое".

Доўнар-Запольскім. Так, у памянёнай брошуры ён (Доўнар-Запольскі) піша:

„Беларусы — гэта бадай адзіны народ (мо' толькі апрача палякаў), які з прадвечных часоў жыве ў сваёй старонцы, нікуль сюды ня прыходзіў, дык і не набраўся чужацкіх элемэнтаў. З тэй прычыны паводлуг сваіх гістарычных і географічных асобнасьцяй беларусы становяць *найбольш чыстае славянскае племя* (курсіў аўтара), захаваўшае і зьверхні выгляд славяніна і шмат адзнак яго псыхікі і быту“ [1]).

Мы ня будзем закранаць пытаньня „аб чыстаце“ нацыі; уся бязглуздасьць такой пастаноўкі пытаньня ня раз адзначалася ў друку; мы спынімся на бясклясавасьці беларускага народу. Гэту „тэорыю“ Доўнар-Запольскі разьвівае і ў „Народном Хозяйстве Белоруссии“ 1861—1914 гг. (выдан. Дзяржпляну 1926 г.). „Беларусы—гэта народ, які жыве ад крывічоў да Савецкай Беларусі“ — тут нацыянальнай ідэяй падменена клясавая барацьба і кляса, гістарычнае разьвіцьцё Беларусі — ёсьць выяўленьне гэтай нацыянальнай ідэі. Мы-ж ведаем, што нацыя ёсьць продукт творчасьці капіталізму, а не катэгорыя вечная, што такой пастаноўкай пытаньня ўсе нацдэмы і іх вялікадзяржаўны гісторык — выкрываюць свой клясавы твар. У. І. Ленін ня раз адзначаў, што няма нічога больш характэрнага для буржуа, як пераняcеньне рыс капіталістычных парадкаў на ўсе часы і ўсе народы [2]). Ды ня толькі чыстата фізыолёгічная характарызуе „беларусаў“, але і асаблівы „дэмократызм“ і „жаданьне дайсьці да вольнага *дэмократычнага* ладу (чытай буржуазнага — *Р.)* — вось асноўныя рысы гістарычнай мінуўшчыны „беларускага народу“ [3]).

Доўнар-Запольскі сьпявае гімны вечу, ня спыняецца перад простай ідэалізацыя фэўдалізму, прыгоньніцва і самым грубым чынам скажае гістарычную рэчаіснасьць. Буржуазную мэтодолёгію мы ўжо крыху бачылі, цяпер праілюструем фальсыфікацыю гісторыі Доўнар-Запольскім. Так, характарызуючы „Літоўска-Беларускую Дзяржаву“, ён піша:

„Панаваўшы ў Літоўска-Беларускім гаспадарстве дзяржаўны лад — гэта лад *рэспубліканскі* (курсіў Д.-З.), з выбарным дажывотна *прэзыдэнтам, которы называўся вялікім князем*. Так у новай форме адрадзілася традыцыя *народнай* уласьці старой Русі“ (курсіў аўтара) [4]).

Назваць фэўдальную монархію, дыктатуру прыгоньнікаў народнай рэспублікай — гэта верх навуковай фальсыфікацыі і бессаромнасьці. Мы напомнім толькі (бо вышэйпрыведзенае месца не патрабуе комэнтарый), што ў сваёй магістэрскай працы — „Государственное хозяйство пры Ягеллонах“—Доўнар-Запольскі гаварыў крыху іншае. Возьмем хаця-б такое пытаньне, як назва „Літоўска-Руская дзяржава“— гэты тэрмін з запалам абараняў Доўнар-Запольскі супроць польскіх гісторыкаў і абараняў погляд вялікадзяржаўных расійскіх гісторыкаў. Такім чынам, у Доўнар-Запольскага мы маем пасьля Кастрычніка поўную ідэалізацыю эпохі разлажэньня фэўдалізму, прычым ідэалізуюцца ня толькі тыя сілы, якія развальвалі фэўдалізм, але і самая дыктатура прыгоньнікаў.

---

1) Доўнар-Запольскі — „Асновы дзяржаўнасьці Белар.“, стар. 2.
2) Ленин В. И., вып. II, т. I, стар. 73.
3) Доўнар-Запольскі — „Асновы дзяржаўн. Беларусі“.
4) Доўнар-Запольскі — „Асновы дзяржаўн. Беларусі“, стар. 9

Буржуазнае нутро аўтара ня спыняецца ні перад чым, абы ўгрунтаваць палітыку нацдэмаў.

Дзяржава ў Доўнар-Запольскага выступае ва ўсіх яго работах, як нешта надклясавае; гэта чыста буржуазнае ўяўленьне знайшло сваё адлюстраваньне ў кожнай працы яго. Не дарма-ж Доўнар-Запольскі вывучаў Міля і ангельскіх утылітарыстаў і, як відаць, вельмі імі захапляўся [1]).

Тэорыямі аб надклясавасьці дзяржавы, адшуканьнем элемэнтаў буржуазнай дзяржаўнасьці Доўнар-Запольскі запаўняе цалкам сваю магістэрскую працу „Государственное хозяйство при Ягеллонах" і іншыя працы ўжо пасьля Кастрычніка. Гэтых ідэй ён шукаў яшчэ ў сівыя часы крывічоў і ў XIV-XVI ст. пры дыктатуры фэўдалаў-прыгоньнікаў.

Гэтая праца цалкам праводзіць і адбівае ідэолёгію буржуазіі і нават лібэральных памешчыкаў. Доўнар-Запольскі больш маралізуе, чым дае аналізу, больш „скардзіцца" на памылкі гісторыі, чым выкрывае сапраўдны гістарычны процэс. Ён усімі сіламі змазвае клясавасьць дзяржавы; ён хаця і ўжывае іншы раз слова „кляса", але ў зусім іншым сэнсе, чым гэта разумеем мы. Дзяржава ня ёсьць у яго „продукт няпрымірымых клясавых супярэчнасьцяй" (Ленін); дзяржава стаіць у яго над клясамі і народамі. Тым часам Ленін пісаў:

> „По Марксу государство есть орган кляссового *господства*, орган *угнетения* одного класса другім, есть создание „порядока", который узаконяет и упрочивает это угнетение, умеряя столкновение классов" (курсіў Леніна) [2]).

Дзяржава — катэгорыя гістарычная, а ня вечная; толькі буржуазныя ідэолёгі ўяўляюць дзяржаву, як непахісную вечную, бо гэта вельмі выгодна буржуазіі, якая падобнымі „ісьцінамі" затуманьвае галовы пролетарыяту ў сваіх клясавых мэтах.

Клясавая барацьба глыбока праціўна Доўнар-Запольскаму; для яго яна сынонім разбурэньня і гістарычнага рэгрэсу. Так, у артыкуле „Да юбілею Беларускага кнігадруку" (надрукавана ў Акад. Навук у 1927 г.) ён піша:

> „Так сакавіта зацьвітае беларуская думка на глебе ажыўлёнага экономічнага ўздыму (у XVI в. — *Р.*). Праўда, гэта быў кароткатэрміновы росквіт, які загінуў потым у XVIII ст. *ва ўмовах клясавай барацьбы*" (курсіў аўтара) [3]).

Мы добра ведаем, і гэта даведзена ўжо тысячы раз, што клясавая барацьба ёсьць рухавік гісторыі, што гістарычны процэс ідзе ў моцных клясавых бойках. Ленін піша:

> „Революции — локомативы истории, — говорит Маркс; революции — праздник угнетенных и эксплоатируемых" [4]).

Ідэолёгу буржуазіі пасьля Кастрычніка нявыгодна прызнаваць клясавую барацьбу і гэтым самым падпісаць сьмяротны прыгавар сваёй клясе (Доўнар-Запольскі, да рэчы, бачыў калісьці гэтую барацьбу клясаў, зразумела, ня выходзячы з рамак буржуазнага ідэолёга). Доўнар-Запольскі сваімі творамі цалкам выконваў социяльны заказ

[1]) Гл. „Исслед. и статьи", т. I, выд. Сапунова.
[2]) Ленин В. И., выд 2. т. XXI, стар. 373.
[3]) Гіст. Археол. зб., № 1, стар. 95, выд. ІБК, Менск, 1927 г.
[4]) Ленин В. И. — Соч., т. VIII, кн. 2, стр. 104.

нацдэмаў і адбіваў клясавыя інтарэсы і жаданьні кулацтва і буржуазіі.

Але ўсё-такі, на якія клясавыя групоўкі апіраецца Доўнар-Запольскі ў сваіх апошніх творах, надрукаваных у Акадэміі і Дзяржпляне? Па Доўнар-Запольскаму, асноўным рухачом у гісторыі было „сялянства“ (чытай кулацтва—*Р.).* Так, Доўнар-Запольскі лічыць, што запрыгоненьне сялянства было гістарычнай памылкай (!), з XVI ст. бяднела сялянства, бяднела дзяржава і пан?!

„Мы павінны прызнаць факт зьбядненьня дзяржавы. Перш за ўсё — гэта выяўляецца ў зьбядненьні сялянскае клясы“ [1]).

І ў другім месцы:

„Даныя паказваюць вельмі значнае зьбядненьне сялянства. Гэткім чынам багацьце пана было адносным, фактычна ён бяднеў, бо зьніжаліся сяляне, якія трымалі панскую гаспадарку“ [2]).

Гэта ўсё „фокусы“ вучонага, каб больш напусьціць туману, каб кулацтва зрабіць клясай, якая (а не пролетарыят) мусіць уладаць і кіраваць. Капіталізм, раскладаўшы прыгоньніцка-фэўдальную гаспадарку, тым самым ствараў буржуазію, ствараў багацьце на адным полюсе і беднасьць, жабрацтва мас на другім. Свой буржуазна-кулацкі твар асабліва паказвае Доўнар-Запольскі на ацэнцы аграрнай рэформы 1861 г. Гэтай памешчыцкай рэформе Доўнар-Запольскі сьпявае дыфірамбы, і гэта друкуецца ў 1926 г. і выпускаецца Дзяржпляням:

*„Белорусский народ получил возможность самостоятельно и для себя разрабатывать свою скудную землю в момент величайшего оскудения его хозяйства“* (курсіў аўтара) [3]).

Што гэта, як не апалёгія памешчыцкай рэформы, аграбіўшай сялянскую масу, адрэзаўшай у сялянства самыя лепшыя землі і адціснуўшай селяніна на „пясочкі“ (Ленін). Зусім зразумела, што рэформа дала магчымасьць больш шпаркага разьвіцьця сельска-гаспадарчай буржазіі, якая цалкам стала на шлях эксплёатацыі батрацтва. „Беларускі народ“, „сялянста“ — гэта толькі вуаль, якою прыкрываецца Доўнар-Запольскі; фактычна-ж ён сьпявае пры савецкай уладзе дыфірамбы кулацтву і капіталістычным элемэнтам. Доўнар-Запольскі ідзе куды далей, ён лічыць „сялянства“ асноўным рухачом гістарычнага процэсу на Беларусі і што нават Кастрычнікавая рэволюцыя створана *„сялянствам“*(?!).

Гэтыя ўстаноўкі падае Доўнар-Запольскі ў ненадрукаваных працах па гісторыі Беларусі XIX і XX ст.

Кастрычнікавай рэволюцыі ён дае такую ацэнку:

„По внешней форме победоносное революционное направление было рабочим, по существу настоящим революционером и настоящим победителем явился трудовой элемент деревни“ [4]).

Зразумела толькі прастака можна злавіць на слова „трудовой“ (успомнім, што аб гэтым слове гаварыў Ленін) — гэта толькі маска, пад якой хавае Доўнар-Запольскі вясковую буржуазію. А раз буржуазія вёскі была асноўнай клясавай сілай у Кастрычнікавай рэволюцыі,

---

1) Д.-З. „Соц. структура“ Гіст. зб. № 1, стар. 88.
2) Там-жа, стар. 12.
3) Доўнар-Запольскі — „Народ. хоз. Белоруссии 1861—1914 гг.“. Госплан. 1926 г., ст. 7, крытычны арт. на гэту тэму. гл. Марксыцкі зборн. II, артыкул Бондара.
4) Газ. Правда. № 357-30 г. арт. Сякерскай, Поташа, Сэрбэнты.

значыць, па Доўнар-Запольскаму, і панаваць і кіраваць павінна яна, а не рабочая кляса, не дыктатура пролетарыяту — вось ход думак Доўнар-Запольскага. Клясава-буржуазны твар ускрываецца ў поўнай меры. І што гэта іменна так, даволі прачытаць радкі з „Народного хозяйства“, дзе Доўнар-Запольскі піша, што сельская гаспадарка можа разьвівацца толькі пры наяўнасьці трох фактараў: „інтэлігентнасьці, капіталу і рабочай сілы“ — гэта значыць, што сельская гаспадарка можа разьвівацца толькі капіталістычным шляхам. Колектывізацыя, пабудова саўгасаў, соцыялістычная рэконструкцыя с/гаспадаркі немажліва, па Доўнар-Запольскаму. Гэтыя палажэньні знайшлі сваё адлюстраваньне і ў 5-гадовым прышчэпаўскім пляне, у насаджваньні хутароў; гэта зьяўлялася фактычна працягам політыкі Сталыпіна. Цікава адзначыць, што варожы, з чыста буржуазнай устаноўкай, артыкул Доўнар-Запольскага быў надрукаваны і ў Вялікай Савецкай Энцыклёпэдыі т. 5.

Як бачым, усімі гэтымі ўстаноўкамі Доўнар-Запольскі выконваў соцыяльны заказ нацдэмаў і разам з Кандрацьевым, Чаянавым, Громанам і К-о падрыхтоўваў глебу для інтэрвэнтаў, для звароту капіталізму і эксплёатацыі.

Яшчэ адно пытаньне патрабуе разгляду — пытаньне „адраджэньня“ Беларусі, пытаньне культурнага ўздыму ў XVI в. Чаму так сталася, што нацдэмы з асаблівай пышнасьцю сьвяткавалі юбілей Скарыны — сярэднявяковага схолястыка, пераклаўшага біблію на „беларускую“ мову (гэтую працу нацдэмы лічаць асабліва карыснай; справу Скарыны пры савецкай уладзе працягваў Красінскі, які некалькі год працуе над перакладам бібліі на беларускую мову). Сакрэт гэты выдаў нам Доўнар-Запольскі. Выхваляючы ў сваім артыкуле „Да юбілею беларускага кнігадруку“ Скарыну перад „беларускім народам“, Доўнар-Запольскі піша:

> „Зразумела, такія думкі робяць эпоху ў гісторыю народу (біблія для простага народу. — *Р.)* і беларускае грамадзянства (нацдэмаўскае, зразумела — *Р.),* сьвяткуючы юбілей Скарыны, сьвяткавала тым самым *ня столькі юбілей зьяўленьня кнігі*, колькі юбілей пачатку новае адукацыі, адраджэньня і *грунтаваньня нацыянальнае ідэі“* (падкр. аўтарам). [1])

Такім чынам, ня столькі важны сам Скарына і яго працы, колькі сьвята — дэманстрацыя нацдэмаў, якія зьбіралі і консолідавалі свае сілы для барацьбы супроць савецкае ўлады і комуністычнай партыі.

За буржуазную Беларусь, супроць дыктатуры пролетарыяту — вось сэнс усяго гэтага „сьвята“.

У нацдэмаў — рэстаўратараў капіталізму — усе сродкі прыгодны, абы яны вялі да пастаўленай політычнай мэты. Доўнар-Запольскі ідэалізуе фэўдалізм — гэта мы паказалі вышэй; зараз у лік беларусаў, якія ішлі па шляху Скарыны, ён залічае князёў, фэўдалаў, буйных прыгоньнікаў-паноў — усіх тых, хто доўгія вякі смактаў кроў з сялянства. Трэба мець верх бессаромнасьці, каб людзей, якія жорстка вялі клясавую політыку на карысьць дыктатуры фэўдалаў і прыгоньнікаў, узводзіць на п‘едэстал „благодетелей“ народу. Гэтых „дзеячоў“, якія вялі выразную клясава-прыгоньніцкую політыку ў XVI ст., Доўнар-Запольскі залічае ў ранг „беларусаў“ і дзеячоў „беларускага народу“. Вось маленькі сьпіс іх: Міхайла Глінскі, Сапега, Сьвірскі, Міхайла

[1]) Доўнар-Запольскі — „Да юбілею“ Гіст. археол. зб., № 1, стар. 95.

Агінскі, Пётра Фальчэўскі, Фёдар Скулін, Язэп Валовіч — фігуры вельмі вядомыя, як прадстаўнікі фэўдальна-панскай клясы, у большасьці князі і буйныя магнаты, эксплёатаваўшыя тысячы душ сялянства, праводзіўшыя выразна клясавую палітыку. Большасьць з іх праводзіла аграрную рэформу, ці іначай, проста экспропрыявала сялянства і яго землі. Гэта ўсё *тыя*, хто доўгія вякі смактаў кроў сялянства і на касьцях апошняга будаваў вялізныя прыгожыя палацы; гэта тыя, супроць каго ня раз падымалася сялянства ў часы разлажэньня фэўдалізму (успомнім казацкі рух); гэта тыя, хто кіраваў і ўладаў пры дапамозе „внеэкономического“ прымусу.

Перастараўся „паважаны“ профэсар у сваіх довадах, аргумэнтах, у сваёй ідэалізацыі.

Паўстае пытаньне: для чаго патрэбны былі Доўнар-Запольскаму ўсе гэтыя ўстаноўкі? Зразумела для таго, каб давесьці, што гістарычны шлях Беларусі ляжыць не з СССР, а з буржуазным Захадам; ня з чырвонай бальшавіцкай Масквой, а з фашысцкай Польшчай. Гэтай орыентацыі зусім не хавае Доўнар-Запольскі; ён, наадварот, высоўвае яе наперад. Так, свой артыкул „Да юбілею беларускага кнігадруку“ ён пачынае так:

> „Беларусь у сваім гістарычным мінулым была краінай, зьвязанай у сваіх экономічных і культурных адносінах з Заходняй Эўропай. *Яна* (Беларусь — *Р.*) *займала ўсходнія рубяжы* заходняй культуры“ [1]).

Палітычны сэнс гэтых установак абсолютна ясны: нацдэмы хацелі бачыць Беларусь не савецкай краінай, якая ў злучнасьці з іншым савецкімі рэспублікамі будуе соцыялізм, а абярнуць Беларусь у пляцдарм польскага фашызму і імпэрыялізму, зрабіць *яе форпостам у змаганьні з дыктатурай пролетарыяту*. Цікава, як гэта гучыць у вуснах профэсара, які да рэволюцыі абараняў „тэорыі“ вялікадзяржаўных шовіністаў-гісторыкаў, і як хутка пераафарбаваўся „вучоны“ ў нацдэмаўскі колер. Што зрабіла гэтае аб'яднаньне магчымым? Як сталася, што шовінізмы злучыліся? Іх аб'яднала агульная нянавісьць да пролетарскай дыктатуры. Кастрычнікавая рэволюцыя знайшла ў іх заядлых ворагаў; працуючы ў савецкіх установах, яны пачалі зноў зьбіраць свае сілы, рабіць падрыўную работу, каб зьнішчыць краіну, дзе будуецца соцыялізм.

Доўнар-Запольскі выступае перад намі, як хамэлеон. Ён надзвычайна хутка мімікруецца, прымае адпаведны колер, але буржуазная сутнасьць яго мэтодолёгіі і ідэолёгіі, думаецца, паказана даволі выразна. І калі яго монографіі могуць быць скарыстаны, як матар'ял, то пісаніна яго пасьля Кастрычніка цалкам контррэволюцыйна. Іншы раз Доўнар-Запольскі прабуе ўставіць два-тры марксысцкіх тэрміны, але ня трэба быць асабліва празарлівым, каб убачыць, што гэта толькі маскіроўка буржуазнай сутнасьці.

Трэба сказаць, што па часьці контррэволюцыйнай пісаніны Доўнар-Запольскі пачаў практыкавацца яшчэ ў 1905 годзе. Мы напомнім яго брошуру „Церковь і духовенство до монгольской Русі“ (изд. Сытина). Цікава адна дата: „дозволено цензурой, Москва, 26 февраля 1906 г.“ Гэта значыць, што брошурка напісана ў разгар рэволюцыі 1905 г., калі пролетарыят і сялянства штурмавалі самаўладзтва, калі патокі рабочай крыві ліліся па вуліцах Масквы, Менску і ўсёй б. Расіі,

[1]) Там-жа — „Да юбілею“, стар. 85.

калі расстрэльвалі вёскі і г. д. Палітычны сэнс ясны, і чорнасоценны дух гэтай кніжкі зусім выразны. Ён усхваляе „якасьць“ архіпастыраў і асабліва за тое, што епіскапы ўмешваліся ў спрэчкі з князямі і г. д. Духавенства, гэтую правую руку самаўладзтва, мракабесаў, благаслаўляўшых расстрэлы рабочых і сялян, Доўнар-Запольскі імкнецца прадставіць ў ролі „спасіцеляў“ дзяржавы ад „смут“.

Ня менш цікава і брошурка „Страницы из истории крепостного права с XVIII-XIX ст., Москва 1906 г.“, дзе Доўнар-Запольскі паказвае прыгоннае права і ўвесь прыгнёт сялянства пры ім, але ў той-жа час чуць не палову кніжкі прысьвячае „рэформам“ Хрэбтовіча ў маёнтку Шчорсы XVIII ст. і ўсхваляе якасьці гэтага „гуманнага“ чалавека. Зноў-жа палітычны сэнс гэтых выказваньняў абсолютна ясны. Прыкладамі з мінуўшага ён хацеў пабудзіць дыктатуру прыгоньнікаў у 1905 г. зрабіць такія-сякія рэформы, каб папярэдзіць рэволюцыйны ўзрыў. Тут з усёй выразнасьцю сказалася трусасьць расійскага буржуа, расійскага лібэрала перад пролетарыятам і працоўнымі масамі сялянства, пайшоўшымі ў бойку з самаўладзтвам.

Можна было-б прывесьці яшчэ тысячы аргумэнтаў, якія-б падкрэсьлілі і вялікадзяржаўны, і беларускі шовінізмы.

Перад намі буржуазны ідэолёг, які выступае ў залежнасьці ад надвор'я — то пад маскай вялікарасійскага гісторыка, то пад маскай нацдэма.

Усе варожыя пролетарыяту сілы пры наступленьні соцыялізму аб'ядналіся ў адзіны фронт контррэволюцыі. Але пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва зьмятае ўсе варожыя сілы і буржуазію, і яе ахвосьце, і яе агентаў, і ідэолёгаў.

Пролетарыят, колгасьнікі і бядняцка-сераднякія масы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі будуюць культуру, нацыянальную па форме і соцыялістычную па зьмесьце, і ўсім тым, хто хацеў-бы нацыянальную форму проціставіць соцыялістычнаму зьместу, даюць рашучы адпор, як і ўсёй буржуазнай мэтодолёгіі, пад якімі-б маскамі яна ні выступала. Толькі карыстаючыся мэтодам Маркса—Энгельса—Леніна магчыма пабудаваць сапраўдную гістарычную навуку; толькі на падставе ленінізму можна ўзьняць гісторыю, як навуку, на вышэйшую ступень. Толькі ўзброіўшыся востраю зброяй ленінскай мэтодолёгіі можна выкрыць розныя псэўда-тэорыі і даць ім рашучы адпор.

---

**В. Серафімаў.**

# Аб клясавай барацьбе на вёсцы.

## 1. Выкрыць і выгнаць кулака з колгасу.

Кулак яшчэ не дабіт і будзе аказваць шалёнае супраціўленьне правядзеньню колектывізацыі (з пастановы XVI зьезду партыі).

Колгас у в. Рудакова Хойніцкага р. зорганізаваўся ў пачатку лістапада 1929 г. Тады ў колгас ўвайшла амаль уся вёска ў тым ліку і 16 кулацкіх гаспадарак. Агульны сход аб утварэньні колгасу адбыўся 1 лістапада, 9 лістапада ўстаноўцамі падпісаны статут арцелі, а 20 лістапада пастановай прэзыдыуму Хойніцкага РВК колгас зацьверджаны пры наліччы ў ім 16 кулакоў. Хойніцкі РВК і Райколгассаюз змазалі дырэктыву партыі аб тым, што кулакі ў калгас ня прымаюцца і што кулак у калгасе—вораг калгасу. РВК стаў на практыку правага опортунізму і пачаў урашчваць кулакоў у соцыялізм. РВК зусім не зьвярнуў увагі на тое, што нават статут арцеі быў падпісаны адным з кулакоў і што кулак рабіў манэўр, каб узарваць колгас знутры, дыскрэдытаваць яго перад шырокімі бядняцка-серадняцкімі масамі. Адначасова, былі дапушчаны перагібы „лявацкага“ характару ў напрамку колектывізацыі вёскі ў адзін замах, у напрамку пагалоўнага абагульненьня ўсяго, што пад руку папала.

Дзякуючы таму, што кулацка-заможная частка падабрала да сваіх рук опортуністычнае кіраўніцтва колгасу, уся работа ў колгасе была накіравана на дыскрэдытацыю колгасу, на шкодніцтва, на тэрорызаваньне беднаты, на зьдзекі над беднатой і серадняком у колгасе. Працоўным дням вучот ня вёўся, а калі і прабавалі запісваць, то іх запісвалі тым, хто зусім не хадзіў на работу, травілі канюшыну, разбазарвалі кармы, безгаспадарча зьдзекваліся над жывёлай. Калі бедната і сераднякі рабілі заўвагі аб безгаспадарчасьці і іншых агіднасьцях, то былы старшыня колгасу—кулацкі рупар (зьняты, аддадзены пад суд) крычаў, што „замаўчы кулацкая морда“. Бедната зусім ня была організавана на барацьбу з кулацкім шкодніцтвам у колгасе і на выгнаньне кулака з колгасу, а кулак і знутры і знадворку вёў работу па развалу колгасу. Вынікам усяго гэтага зьявіўся выхад у часе севу вясною 1930 г. 40 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак з колгасу. Старшыня колгасу зьняты і аддадзены пад суд. Але яшчэ патрэбнага пералому ў колгасе няма, і кулак у тэй ці іншай форме выяўляе свой контррэволюцыйны твар; кулак манэўруе па-рознаму, вядзе справу на развал колгасу. Праваопортуністычная тэорыя і прак-

тыка аб устанаўленьні кулака ў соцыялізм з боку партыйнай ячэйкі яшчэ не разьбіта нашчэнт.

Што прадстаўляе колгас імя Сталіна ў в. Рудакова на сёньня, яго соцыяльна-клясавы твар сёньня? У в. Рудакова 124 двары, з якіх: зволеных ад падатку 32 гаспадаркі, з іх у когасе 17 і па-за колгасам 15 гаспадарак; плацячых падатку да 10 рублёў 33 гаспадаркі, з іх колгасьнікаў 9 і па-за колгасам 24; плацячых падатку да 20 руб. 13 гаспадарак, з іх у колгасе 4, па-за колгасам 9; плацячых падатку да 30 руб. 11 гасп., з іх 5 у колгасе і 6 па-за колгасам; плацячых падатку да 50 руб. 7 гаспадарак, з іх у калгасе 5 і па-за колгасам 2 гасп.; заможных, плацячых падатку да 100 руб. 3 гаспадаркі, з іх у колгасе 2 і па-за колгасам 1 гасп.; з цьвёрдым заданьнем 5 гаспадарак, з іх у колгасе 2 і па-за колгасам 3; індывідуальна абкладзеных кулакоў 6 гаспадарак, з іх 4 у колгасе і 2 па-за колгасам. Як бачым з прыведзеных лічбаў, якія праверапы па акладных лістох, пачынаючы з 1928 г., на сёньня палова беднаты (15 чал.) па-за колгасам і асноўная маса серадпякоў, пляцячых падатак да 20 руб., таксама па-за колгасам (46 чал.). У колгасе, за выключэньнем 17 чалавек беднаты, галоўным чынам, заможная частка вёскі, і да таго-ж колгас засьмечаны кулакамі і заможнікамі з цьвёрдым заданьнем. Калі да соцыяльнага складу дадаць яшчэ тое, што на сёньня адсутнічае работа з беднатой, то стане зусім зразумелым, чаму і зараз заўважаюцца яўныя агіднасьці ў колгасе, чаму і на сёньня колгас стаіць на мёртвым пункце ў адносінах прыліву, чаму і па сёнешні дзень лепшыя колгасьнікі кідаюць колгас і ніводзін чалавек ня ідзе ў яго. У чым тут сутнасьць, дзе корань зла, што зрывае практычнае правядзеньне дырэктыў партыі, савецкай улады? „Раскулачаныя“ кулакі, самыя дзікія зьвяры, дзякуючы сваяцкім сувязям, ператварылі праўленьне колгасу ў свой рупар і на сёньня яшчэ арудуюць у колгасе, на сёньня яшчэ досыць сьмела і нагла праводзяць сваю кулацкую політыку. Кулак някіроўвае свой удар на беднату. Дабіўшыся выхаду з колгасу 15 беднякоў у тым ліку і актыву, які змагаўся за організацыю колгасу, кулак вядзе свой, часта нагла няпрыкрыты, націск на беднату. Бедната ўпарта змагаецца за колгас, застаючыся ў колгасе, кулак прабуе ўжыць тэрор. Бедняка актывіста т. Апанасенку за тое, што ён з суседняй вёскі прышоў у колгас, заможнікі-падкулачнікі організавана зьбіваюць да паломy рэбраў, і Апанасенка кідае колгас, падае ў суд, але справу наглага тэрору замяў былы старшыня колгасу Хацішчанка. Адзінага батрака ў колгасе т. Новіка кулак таксама „памаленьку“ ўзяў за грудзі за тое, што Новік хацеў узяць у канюшні каня вазіць гной. „Ты—заявіў яму кулак—тут каня не паставіў і браць ня сьмей“. На гэты факт таксама ніхто не рэагаваў, і т. Новік прымушаны быў пакінуць колгас. Быў выкінуты ні за што ні пра што з колгасу батрак раней, а потым бядняк т. Фядун. Кулакі накіроўвалі свой агонь, галоўным чынам, на „непакойных“ людзей, якія адкрыта крытыкавалі кулацкую дзейнасьць у колгасе. Бясспрэчна, што кулакі ў колгасе таксама шырока скарыстоўвалі мэтод запужваньня. Тав. Алейнікаву, які адкрыта выкрываў кулацкую дзейнасьць у колгасе, кулакі сталі пагражаць тым, што ён будзе вісець так, як качаны капусты.

Запужаўшы і дэзорганізаваўшы беднату, кулак пры дапамозе опортуністаў з праўленьня ўмацаваў свае позыцыі ў вытворчым жыцьці колгасу. Кулак і заможнік захапілі ў свае рукі падрыхтоўку кадраў. На курсы рахункаводаў пасылаецца кулак, які потым пра-

цуе рахункаводам колгасу. На курсы паляводаў быў пасланы кулак, які потым працуе палявадам колгасу. На курсы трактарыстаў быў пасланы кулак (сын кулака). Пляменьнік высланага кулака Каваленкі пасланы на курсы будаўнікоў. У якасьці мельніка працуе сын высланага кулака. Конюхам працуе кулак. На сьвінарні працуе жонка высланага кулака, а яе дзеці вучацца ў Бабчынскім тэхнікуме як колгасьнікі.

Залезшы ў колгас, кулак вядзе скрытую і адкрытую работу па развалу колгасу. Праўда, за апошні час партыйная ячэйка ўзмацніла работу з беднатой колгасу, да колгасу даведзена дырэктыва партыі аб ачыстцы яго ад кулацкіх элемэнтаў. Кулак адчувае гэты наступ і формальна сёньня прымае актыўны ўдзел у працы, выехаў у поле і г. д.; але адначасова вядзе падрыўную працу ў колгасе, агітуе супроць колгасу і ўсямерна тармозіць прыліў у колгас. Засеўшы ў камісіі па разьмеркаваньні прамтавараў, кулацка-заможная частка разьмяркоўвае іх сярод заможнай часткі сваіх сваякоў, часта сярод тых, якія ніколі ня выходзілі на работу. А на просьбу батрачкі-ўдарніцы Валі даць ёй чаравікі б. старшыня адказвае: „тваё рыла да чаравікаў не падыходзіць“. Такі падыход абурае беднату, якая працуе і нічога не атрымлівае. Ёсьць выпадкі выхаду з колгасу беднякоў таму, што абсолютна нічога не даюць з прамтавараў. У дні Першага Мая кулакі выступалі з распальваньнем рвацкіх настрояў сярод астатняй часткі колгасьнікаў: „У нас усё забіраюць, а нам нічога не даюць, вось да першага мая не далі грошай на гарэлку“. Знаходзячыся ў колгасе, кулак адкрыта агітуе супроць колгасу: задушылі „ўсю“ вёску гэтым колгасам“. Кулак выступае абаронцам „усіх“, каб не застацца аднаму ня толькі ў колгасе, але і па-за колгасам. Калі было пастаўлена пытаньне аб звароце бядняцка-серадняцкіх мас у колгас і было растлумачана, што ні кулакоў ні „цьвёрдазадых“ (так называюцца ў Хойніцкім раёне атрымаўшыя цьвёрдыя заданьні) у колгас прымаць ня будуць, то кулак выступіў зычліўцам усіх: „усе“ мы ўмесьці выходзілі і толькі „ўсе“ ўмесьці будзем варочацца, ніякіх кулакоў у нас няма“. Калі сход беднаты абгаварваў кандыдатуры для вычысткі з колгасу, то кулак зараз-жа пусьціў пагалоску па вёсцы, што чысьцяць многа і гоняць „тружанікаў“, а „лодыраў“ пакідаюць, серадняку няма месца ў колгасе. Такім чынам, кулак провокаваў небясьпеку для серадняка ў колгасе, моў, сёньня выганяюць мяне, а заўтра цябе, і ў той-жа час распальваў групавую барацьбу ў колгасе паміж бедняком і серадняком.

Агітуючы супроць колгасу, кулак ня спыняе шкодніцкай работы ў колгасе. Раздуваючы сярод аднаасобнікаў кожны факт колгасных непарадкаў, кулак усямерна імкнецца ствараць гэтыя непарадкі, напрыклад, наўмысьля выпускаюць сьвіней на жыта, і калі кажуць, што трэба іх сагнаць, то кулак заяўляе: „чорт з ім з жытам, усё гэта ня наша, няхай ядуць“.

Замацаваўшы свае позыцыі ў колгасе, кулак з імем колгасьніка імкнецца прабрацца і ў сельсавет, а на пленумах сельсавету ён актыўна абараняе заможна-кулацкую частку ад індывідуальнага абкладаньня і цьвёрдых заданьняў, высоўваючы на іх месца маламоцна-серадняцкую частку. Калі ставіцца пытаньне аб барацьбе сельсавету за прыліў, кулак выступае супроць прыліву: „цяпер сеем і некалі тут гаварыць аб прыліве ў колгасы“.

Дзякуючы кулацкай агентуры ў сельсавеце, заможна-кулацкая частка ня мела патрэбнага наступу з боку с/савету і ўмацоўвала свае

позыцыі. У в. Высокае „раскулачаныя“ кулакі сядзяць па сваіх сялібах у сваіх будынках і атрымалі па 7—9 га лепшай зямлі, рад заможнікаў не атрымалі цьвёрдых заданьняў, наяўныя кулакі не абкладзены ў індывідуальным парадку. Заможнік і кулак ня выконвалі цьвёрдых заданьняў як па загатоўках, так і па пасеве. Такое становішча ў с/савеце цягнуцца далей не магло. Раённыя організацыі ўдзялілі максымум увагу Рудакоўскаму с/савету для таго, каб нашчэнт разьбіць тэорыю і практыку правага опортунізму як у асобных работнікаў у с/савету, так і ў асобных комуністаў. Партыйная ячэйка ў цэлым аказалася баяздольнай у барацьбе за лінію партыі і пад кіраўніцтвам РК КП(б)Б стала на шлях рашучай і найхутчэйшай ліквідацыі прарываў.

## 2. На бальшавіцкіх позыцыях.

Мобілізацыя бядняцка-серадняцкіх мас на прыдушэньне кулацтва і ліквідацыю прарываў пачалася разгорнутай сыстэматычнай працай сярод беднаты як у колгасе так і па-за колгасам. Дырэктывы VI зьезду Саветаў, красавікоўскага пленуму ЦК КП(б)Б былі пераломлены на конкрэтных задачах кожнай вёскі, пачынаючы з цэнтру Рудакова, на конкрэтнай штодзённай працы. Організаваная бедната, яе стойкасьць дапамагла згуртаваць і павесьці за сабой серадняка. У першую чаргу быў нанесены руйнуючы ўдар кулацкай агентуры ў колгасе, колгас быў ачышчаны ад кулакоў, прыцягнуты да адказнасьці шкоднікі і ворагі, якія зрывалі колгаснае будаўніцтва.

Партыйная ячэйка і сельсавет забясьпечылі опэрацыйнасьць у разгортваньні бальшавіцкага севу і сыстэматычнай рабоце ў барацьбе за колгасны прыліў.

Барацьба за кармовую базу для забесьпячэньня цягавай сілы была першай задачай, якую вырашылі колгасы Рудакоўскага сельсавету. Для стварэньня кармовай базы колгасы змаглі мобілізаваць ня толькі ўнутрыколгасныя рэсурсы, але шырокая мобілізацыя ўвагі вакол гэтага пытаньня дала магчымасьць папоўніць кармовую базу і з індывідуальных запасаў як колгасьнікаў, так і аднаасобнікаў. Организаваная перакідка кармоў дала магчымасьць забясьпечыць усе колгасы кармовай базай і поўнай цягавай сілай.

З дапамогай саўгасу Рудакова колгасы прывялі ў парадак увесь свой інвэнтар, поўнасьцю ліквідаваўшы абязьлічку ў карыстаньні цягавай сілай, машынамі, інвэнтаром. Забясьпечыўшы ўсе кіруючыя пасты вытворчай працы колгасу адданымі справе колгаснага будаўніцтва беднякамі і сераднякамі, колгасы ўдарылі па тэй безгаспадарчасьці, якая мела месца, галоўным чынам, ад шкодніцкай кулацкай „працы“. Гаспадарчы аўторытэт колгасаў азначна вырас сярод бядняцка-серадняцкіх мас с/савету. На сходах сталі радзей успамінаць тую безгаспадарчасьць, якая панавала раней і якую кулак скарыстоўваў для антыколгаснай агітацыі.

Кулак і варожыя элемэнты імкнуліся разьвіць антыколгасную агітацыю ў другім напрамку: „мала ў іх сілы, усё роўна ня справяцца пасеяць, застанецца пуставаць зямля“. Аднак-жа, надзеі кулацтва былі біты. Колгасьнікі разгортвалі сапраўды бальшавіцкія тэмпы сяўбы. Мэтод ударніцтва і соцспаборніцтва ахапіў ня толькі асобныя перадавыя групы колгасьнікаў, але і ўсе колгасы, уключаныя ў барацьбу за пераходны сьцяг на пяршынства ўдарных тэмпаў севу. Пастанова ЦК КП(б)Б аб разгортваньні ўдарніцтва партыйнай ячэйкай была даведзена да кожнага колгасьніка. Колгасы далі сапраўды герояў-энтузыяс-

таў другой бальшавіцкай вясны, якія вялі за сабою ўсю колгасную масу. Поўны пераход на зьдзельшчыну і сыстэматычны вучот працы ў самадзельных кніжках (да канца чэрвеня кніжкі Колгасцэнтру не дайшлі да когасаў Рудакоўскага с/савету) стымулявалі разгортваньне ўдарных тэмпаў і рост рабочай сілы ў колгасе. Хто раней выходзіў раз у месяц на працу, то з пераходам на зьдзельшчыну не прапускаў ніводнага дня. Прэміяваньне лепшых ударнікаў-энтузыястаў ахапіла ўсе колгасы і, бязумоўна, зьяўлялася стымулюючым фактарам у разгортваньні ўдарных тэмпаў севу. Колгас імя Сталіна прэміяваў старыка Дзянісенку Гаўрылу 63 гадоў, які не прапусьціў ніводнага дня і перавыконваў нормы. Ударніцтва разгортвалася зьнізу і самі ўдарнікі высоўвалі лепшых для прэміяваньня.

Бясспрэчна, асноўны ўдар у разгортваньні тэмпаў быў накіраваны на выкананьне і перавыкананьне пасеўных плянаў і гэты масавы ўдар пад кіраўніцтвам парторганізацыі сапраўды разьбіў усякія опортуністычныя настроі аб немагчымасьці выкананьня плянаў. Пасеўныя пляны былі выкананы і перавыкананы ў тэрмін, а колгас Чырвоны Партызан, перавыканаўшы плян, скончыў сеў да тэрміну першым ў сельсавеце.

Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР і СНК СССР была скарыстана партыйнай ячэйкай для мобілізацыі мас на сустрэчны плян па тэхнічных культурах. Была абвешчана пяцідзёнка штурму за сустрэчны плян у пасеве тэхнічных культур. У разгортваньне перавыкананьня пляну тэхнічных культур былі ўцягнуты ня толькі колгасы, але і аднаасобнікі, а ў цэлым па сельсавету прырост плошчы пасева лёну і канапель даў болш як 30 га.

Адначасова разгортвалася праца па ліквідацыі прарываў у хлебазагатоўках. На сходах колгасьнікаў сумесна з аднаасобнікамі беднякамі і серадняками шырока растлумачвалася значэньне хлебазагатовак і добраахвотнае продажы хлеба, у выніку чага пачалася масавая здача (продаж) хлеба коопэрацыі. Ужо ў першую пяцідзёнку кампаніі здача хлеба дасягнула 1000 пудоў зярна і каля 3000 пуд. бульбы. Кулакі і заможнікі аказвалі шалёнае супраціўленьне ў хлебазагатоўках, вывозілі хлеб у другія раёны, развозілі па млынох, прадавалі сваяком і г. д. Былі выпадкі, калі кулакі па 200—300 пудоў развозілі па млынох і сваякох. Бедната выкрывала кулацкія манэўры і сельсавет рашуча ўдарыў па кулаку і заможніку. Нагнаць прапушчанае было цяжка, але кампанія дала ня менш 100 проц. раней выкананага заданьня. Асаблівую актыўнасьць у добраахвотнай здачы выявіў колгасьнік, сапраўды моцная апора рабочае клясы. Ня было колгасьніка, які-б ня здаў магчымага; колгасная маса адыграла вядучую ролю ў ліквідацыі прарываў па хлебазагатоўках; штодня плылі чырвоныя абозы з зярном і бульбай.

Забесьпячэньне баяздольнасьці на галоўнейшых вучастках работы, рашучы і руйнуючы ўдар па кулаку і кулацкай агентуры, організацыя беднаты і сыстэматычная работа з ёй, поўная ліквідацыя прарываў і поўны пераход на бальшавіцкія тэмпы работы забясьпечылі прыліў у колгасы. Колгас Чырвоны Партызан вырас больш чым на 100 проц., у в. Нарыманава зорганізаваўся новы колгас, вышаўшая раней беднята і серадня́кі з колгасу пачалі зноў варочацца. Разьбіта праваопортуністычная стаўка на самацёк, нанесены руйнуючы ўдар тэорыі і практыцы ўрашчваньня кулака ў соцыялізм.

---

Ул. Мяжэвіч.

# Людзі зямлі.

*(Нарыс).*

## Аб героях другой большавіцкай вясны

### I.

На прасторах сьпявала вясна, будзіла, клікала да плённай працы, нараджала новае ў шэрых вёсках, раскіданых на пладароднай Случчыне.

Спрадвеку было так:

Прыходзіла вясна, яе радасна сустракалі старыя і маладыя і ўсё жывое ў прыродзе. Вясна нараджала ў кожнага чалавека бяз выключэньня новыя надзеі, мары, лятуценьні. Кожны ад вясны чакаў нечага новага, што павінна зрабіць жыцьцё больш радасным сьветлым, прыгожым, што павінна зьмяніць смутак, тугу і бядоту нечым неакрэсьленым, нявызначаным, але патрэбным і прыемным.

У кожнага надзеі і мары набывалі свае асабістыя формы; укладваліся ў пункты і параграфы мяркуемага будучага жыцьця. Кожны па-свойму сустракаў доўгачаканую вясну, радаваўся ёй, як змучаныя салдаты доўгімі пакутамі, жахам сьмерці, голадам, хваробамі на перадавых позыцыях у акопах імпэрыялістычнай бойкі радуюцца чуткам аб хуткім замірэньні. Якая можа быць радасьць больш за гэтую!

Аб чым марыў і якія ўскладаў надзеі на вясну селянін-бядняк у старыя часы, якія яшчэ жывуць у нашай памяці, ня сьцёртыя голадам, холадам, вайной, разбурэньнем? Ён марыў аб самым звычайным, простым, самым блізкім і дарагім. Засеяць свой вузкі шнурок, добра яго запахаць. Мары прымалі зусім конкрэтны і просты характар. Ускласьці надзеі на міласьць і ласку божжу, прасіць „усявышняга“ аб дапамозе, вымаліць у яго добры ўраджай, каб хапіла на „дзяржаву Расійскую“, на падаткі, на рамонт падранага ветрам даху і гаршкамі выбітага поду ў печцы, на соль, дзёгаць і іншыя патрэбы. Каб хапіла да наступнага ўраджаю.

Так марылі далёка ня ўсе, у кожнага мары ўкладаліся ў свае асабістыя формы. Далёка ня ўсе так радасна сустракалі восень, як раньнюю вясну, цяплыню гарачага сонца, маладую, буйную зелень. Вясна аднолькава грэла, ласкала ўсіх, а восень, ой, не аднолькава. Ня ўсім ухмылялася і ня ўсім весела ківала галавой залатая восень. Не для ўсіх яна была залатой.

Бедняку і серадняку восень паказвала іншыя ўзоры. Глядзела пахмурая, сьвінцовая, даждлівая і халодная. Скрыпелі някутыя і ня-

мазаныя калёсы, цякла падраная хата, пераварочваліся гаршкі ў печы і за падаткі зьдзіралі скуру людзі „дзяржавы Расійскай".

Аб чым марыла вёска Кляпчаны, сустракаючы вясну ў часе белапольскай окупацыі, калі над хатамі гучэлі трохцалёвыя гарматы, пад знарадамі ламаліся дрэвы, правальваліся будынкі і спапамі клаліся на вуліцы ня ў чым непавінныя людзі? Марыла аб тым, каб вясна была апошняй і горкай восеньню для белых.

II.

Васіль Іванавіч быў звычайным вясковым хлопцам. Ліха па вечарох у сьвяточныя дні на вуліцы выкідваў тонкія ногі, круціўся пад гармонь, захоплены моладасьцю ў свае 17 год. Гэта было на прадвесьні яго жыцьця. Ён яшчэ быў малады, каб адчуваць сапраўдную вясну ў сваім жыцьці. Ішоў насустрач сваёй маладой вясьне, але вясны ня сустрэў, насустрач яму ішла халодная сьдюдзёная, нудная восень. Жабрацкае жыцьцё яго кінула ў далёкую паўночную краіну за акіянам, у Чыкага на скатабойню.

Шмат год сваёй моладасьці, якой не адчуваў, якая яго абышла, ён правёў у сутарэньнях Чыкага, у шуме і гомане вуліц амэрыканскага гораду. Зранку і да позьняга вечара выконваў усякую чорную работу, каб зарабіць на хлеб, трымаючы моцна ў грудзях надзею набыць кваліфікацыю, каб больш зарабляць, каб дапамагаць сваім, падтрымаць жыцьцё напалову жабракоў, сваіх бацькоў. А ўначы валяўся ў бруднай і мокрай яме. Са столі капала зялёная вада, за ноч прамочвала наскрозь, і на падлозе муцьцю зелянелі лужы.

Суровае, цяжкае жыцьцё шмат чаму навучыла Васіля Іванавіча. Гады работы на скатабойнях ня згінулі дарма. Васіль Іванавіч, вярнуўшыся ў нашу краіну ў самы разгар грамадзянскай вайны, знайшоў сабе месца ў радох чырвонай арміі і быў у першых радох пролетарскіх батальёнаў.

Першы раз Васіля Іванавіча мне давялося бачыць у габінэце сакратара Слуцкага партыйнага камітэту. Здаецца, у ім няма нічога асаблівага, што-б магло прыцягнуць да сябе пільную ўвагу незнаёмага чалавека. Звычайны, самы звычайны, чалавек, па-простаму грубавата апрануты. Але досыць углядзецца ў твар, каб пераканацца ў тым, што ў ім ёсьць нешта асаблівае, што ўласьціва найбольш адважным, сьмелым людзям—змагаром. Энэргічны твар, парэзаны невялічкімі складкамі-моршчынкамі, тонкі, даўгі нос і быстрыя гарачыя вочы. Колькі ў гэтым чалавеку адвагі, энэргіі, упэўненасьці ў перамозе тэй справы, за якую ён героічна змагаецца.

Васіль Іванавіч вельмі скупы на словы. Гаворыць рэдка, у выпадку крайняй патрэбы. Калі ў яго папрабаваў запытаць, як арганізоўваў ён колгас, Васіль Іванавіч няўважліва выслухаў мяне, паглядзеў некуды ў далёкую сінь лесу і яшчэ больш няўважліва адказаў.

— Звычайна.

Калі мне расказвалі як Васіль Іванавіч на працягу некалькіх месяцаў героічна змагаўся з кулацтвам за права існаваньня будучага „Комбайну", я ня мог не паверыць гэтым праўдзівым расказам.

Вы ўяўляеце сабе, як капітан сочыць за капітальным рамонтам свайго судна, як правярае кожную дэталь, шрубок і дробязь, як хварэе за кожную няўдачу і радуецца посьпехам перамогі. Такім быў і Васіль Іванавіч, толькі з тэй розьніцай, што ён не рамантаваў і не сачыў, не назіраў, а непасрэдна будаваў, скалачваў колгас. Скалачваў

так, як скалачваюць судно, якому належыць вытрымаць вялікія націскі, стаць на цяжкі шлях жыцьцёвых іспытаў, цяжкасьцяй. Васіль Іванавіч орыентаваўся ў абставінах, ва ўмовах, у якіх трэба было праводзіць работу. Кожны чалавек, які мог колькі-небудзь быць выкарыстаны для цяжкай пачэснай работы, Васілём Іванавічам старанна выкарыстоўваўся, ён пад яго кіраўніцтвам праходзіў гарніла клясавай барацьбы, вытрымліваў баі з кулацтвам. Той, хто пад кіраўніцтвам Васіля Іванавіча выкрываў і паказваў масам беднякоў і сераднякоў сапраўдныя намеры кулацтва, хто ў змаганьні за колгас аддаваў усяго сябе, сваё жыцьцё, заносіўся Васілём Іванавічам у асаблівы сьпіс, у якім хаваўся касьцяк будучага колгасу.

У асяродку гэтага касьцяку цэнтральнымі фігурамі былі сучасныя ўдарнікі-энтузыясты, якія далі дзесяткі прыкладаў героічнай работы і змаганьня: Казёл Васіль і Марта, Маглыш Пётра, Саргавец Цімох, Лясун Зьмітрок, Каролік Хама, Каролік Алеся і Давыдовіч Сяргей.

Гэта група людзей паўстала проці старой жабрацкай вёсцы, вышла на змаганьне з ёю, з яе традыцыямі, звычаямі, ня гледзячы на выключную перавагу і моц старога. Маладое, новае пакуль што цярпліва, з замілаваньнем і ўпартасьцю несла на сваіх плячох гэтых некалькі ўпартых энтузыястаў. Яны не ігноравалі ніякіх форм і мэтодаў барацьбы для перамогі сваёй справы, выкарыстоўвалі ўсякую зброю, якая магла аказацца карыснай, ня спыняліся ні перад якімі цяжкасьцямі.

— Мы доўга мацалі і правяралі глебу, ці моцна яна пад старой вёскай—гаварыў Цімох.

* * *

Прадвесьне 1930 г. прынесла буйны вецер, які загуляў па вёсцы, „прайшоў сквазьняком у сялянскіх галовах". Кожны дзень для вёскі быў годам. З кожным днём вёска губляла сваё старое аблічча, але яшчэ моцна трымалася, хоць глеба пад ёй і ня была такой моцнай, як раней. Сьпіс Васіля Іванавіча значна вырас за час прадвесьня, але ўсё яшчэ заставаўся мізэрным, усё яшчэ сілы старой вёскі былі значна большымі.

Энтузыясты пайшлі адкрытым боем супроць кулацтва. Кожны дзень вёска з цікавасьцю чакала вечара. Да вечара рыхтаваліся абодвы лягеры, выцягвалі захаваныя оргумэнты, правяралі вострасьць сваёй зброі, рыхтавалі падарожнікаў якія былі ў абодвух лягерах. Вёска ніколі ня жыла такім бурным жыцьцём, як у тыя часы, ніколі ня бачыла такіх жорсткіх схватак дзьвёх сыстэм, дзьвёх процілеглых груп людзей. Схваткі былі гарачымі, поўнакроўнымі.

Вельмі часта здаралася, што пабітыя ў схватках кулакі накідваліся на людзей з ініцыятыўнай групы, на іх падарожнікаў з мэтай фізычнай расправы. У такіх выпадках не праходзіла і хвіліны, як каля свайго, якому пагражала небясьпека, стаяў Цімох з моцна сьціснутымі кулакамі, са зьбялеўшым тварам. Яго вочы гарэлі нейкім асаблівым агнём. Наўрад ці быў гэта агонь помсты, ці жаданьня фізычнай расправы з кулацтвам—агонь перакананьня ў перамозе сваёй справы, гарачага жаданьня абараніць сваіх блізкіх і, мабыць, толькі напалохаць ворагаў.

— Кінь!—вырывалася з маўклівых Цімохавых грудзей.

І перад гэтым моцным словам людзі апускалі рукі, адыходзілі, як пабітыя, абясьсіленыя. Цімох столькі ўкладаў сілы, энэргіі ў гэтае слова, што яно абрушвалася на галовы вінаватых, як цяжкі і грозны

молат. І доўга пасьля гэтага не наладжвалася гутарка, доўга маўчалі і цягнулі цыгаркі падкулачнікі, захутваючы хату хмарамі дыму.

Пасьля кожнай схваткі, кожнага бою сыходзіліся ініцыятары, падводзілі вынікі прайшоўшага дня, выкрывалі свае ўласныя недахопы, радаваліся дасягнутым перамогам і адзначалі паслабленьне процілеглага лягеру. Нельга сказаць, каб уся вёска была на баку кулакоў і падкулачнікаў. Вёска стаяла на раздарожжы, яна назірала за барацьбой, устаўляла свае кароткія, лаконічныя сказы, якія ў большасьці выпадкаў былі не ў карысьць колгасьнікаў. Вёска чакала. Кожны з сялян ня мог вырашыць для сябе жыцьцёвага пытаньня, быў зьвязаны сваяцтвам з сваёй гаспадаркай, на якой жылі продкі.

Жыў дзед, бацька, а чым я горшы за іх?

Колгасьнікі бачылі, што вёска трэснула, разышлася як лёд на раце перад бурнай паводкай, забушавала. Хоць звонку гэта ня зразу можна было ўгледзець. Клясавая барацьба вялася ня толькі з адкрытых позыцый, але і ў глыбокім падпольлі. Сын паўставаў супроць бацькі, мужык супроць жонкі.

— Вёска закруцілася ў калаўроце.

Яшчэ задоўга да вясны Кляпчаны супроць сваёй волі вымушаны былі прызнаць права на жыцьцё „Комбайну". З 115—9 назвалі сябе гэтым, далёка не для ўсіх зразумелым, імем.

— Чаму „Комбайн"?

— Гэта сымболь нашых імкненьняў—неяк па-навучнаму гаворыць Цімох Саргавец.

Найбольш адсталым, непадатлівым вучасткам сярод сялянства вёскі былі жанчыны. Яны акуратна хадзілі на сходы, слухалі прамоўцаў, згаджаліся іківалі галовамі, але як толькі справа даходзіла да ўступленьня ў колгас, падымалі такі гвалт і тарарам, што нельга было зразумець, чаго яны хацелі, чаго баяліся. Крычалі адначасова дзесяткі жанчын, кожная з іх імкнулася перакрычаць сваю суседку, паказаць сябе, як чалавека, які нізавошта не прамяняе свайго сучаснага жыцьця на невядомае колгаснае. Гэта было лейт-мотывам усіх выступленьняў на ўсіх сходах, зборышчах і вечарынках. Спрэчкі ня толькі адбываліся на сходах, яны пераходзілі ў быт, у сям'ю і ў кожную хату.

* * *

Пілікае музыка, дзесяткі хлапцоў і дзяўчат змучаныя ў невялічкай душнай хаце круціліся ў „вальсах" і „тустэпах", і раптам зусім нечакана для ўсіх зьяўляўся колгасьнік. Музыка абрываў сваё піліканьне, і спыняліся распараныя пары сярод хаты.

— Чаго прышоў, чаго трэба?

— Паглядзець на вашы скокі...

— Прашу вас, зачынеце, калі ласка, з таго боку дзьверы!— выкрыкаў сіпатым голасам сын Філіпа.

— Няхай глядзіць, ці шкода! Давайце! Грай Мікіта!

Мікіта ня граў, ня ішоў ніхто скакаць. Вечарынка развальвалася, як картачны домік ад ветру. Ролю ветру ні адзін раз выконваў Васіль Іванавіч, Цімох і шмат іншых колгасьнікаў. Слова за словам наладжвалася гутарка, спачатку спакойная, ціхая, а потым бурлівая і шалёная, падобная больш на лаянку, на кірмаш, дзе цяжка зразумець, хто аб чым гаворыць.

Моладзь прыкметна адыходзіла ад сваіх ранейшых позыцый, пераходзіла па аднаму да колгасьнікаў. Музыка Мікіта паклаў пача-

так рэзкаму пералому сярод моладзі. Ён такі маўклівы, што на яго ніколі ніхто не зьвярнуў-бы ўвагі, калі-б ён ня быў музыкай. На вечарынках ён цэлымі вечарамі выводзіў старанна адны і тыя-ж мэлёды, часамі зусім дзікія і незразумелыя. Здарылася так, што Мікіта на аднэй з вечарынак устаў з лаўкі, паклаў на стол гармонь, абвёў сваім дзіўным поглядам хлапцоў і дзяўчат, якія стаялі ў хаце і сказаў.

— Досыць! Абрыдла! Больш я вам ня музыка...

— Мікіта! Чаму, што з табой?—захваляваліся хлопцы.—Выпіць хочаш?—Кузьма зьбегай барджэй, прынясі...

— Ня трэба!—перапыніў Мікіта.

— Няўжо ня будзеш граць?

— Ня буду! Заўтра прыходзьце да Цімоха, у яго будзе колгасная вечарынка. Я запісваюся да іх...

...Жанчыны не давалі ходу. Яны, гэтыя спакойныя, маўклівыя жанчыны на вёсцы сталі цэнтральнай фігурай, за іх і з імі ішла барацьба. Мужыкі ад усякіх пытаньняў адмахваліся:

— Што я, калі жонка супроць, гаварыце з ёй...

А жонкі сьпявалі на той-жа стары лад.

— Ці нам зараз дрэнна жыць. Толькі спакойна што зажылі, на табе, чорт прынясі ліха—колгасы. Далі нам зямлі—дзякуем. Дайце нам на ёй папрацаваць...

— Не чапайце нас! Пажывем, паглядзім, пройдзе год - два—самі прыдзем...

— Няхай ідуць, а мы пабачым...

III.

Марта паспытала жыцьця ў „цывілізаванай“ багатай Амэрыцы. Разам з Васілём правяла не адзін год свайго жыцьця на скатабойнях Чыкага. Ад Слуцкіх прастораў да патыхаючых сутарэньняў Чыкага. Ад прыгожай, бесклапотнай, маладой і вясёлай дзяўчыны з васількавымі вачыма, да сур'ёзнай, з маршчынамі на твары, з чорнымі, загрубелымі рукамі, засмучанай, замучанай жыцьцём жанчыны—такі шлях Марты.

І ўсё-ж яна заўсёды вонкава спакойная. Яе погляд — погляд чалавека, якому знакома суровае і цяжкае жыцьцё, знаёмы сотні драбніц, якіх ня бачылі і пэўна ня ўбачаць яе сучасныя суседкі. Ці не таму погляд Марты прымушае чалавека апусьціць вочы ў зямлю.

Марта з самага пачатку з Васілём і Цімохам хадзіла на сходы, была сьведкай усіх жорсткіх схватак з кулакамі, але сама ў іх удзелу ня брала, не хапала сьмеласьці.

Сялянкі часта глядзелі на Марту, нібы чакалі, што яна павінна гаварыць, а Марта не гаварыла. Але настала чарга і для Марты. Зараз асноўнае — жанчына. Узяць жанчын — значыць узяць вёску.

— Марта ідзі да баб — сказаў Васіль. І Марта пайшла.

Марту слухалі ўважліва з затоеным дыханьнем, зьдзіўляліся яе звонкаму голасу, прыгожым простым сказам, але ня верылі ёй, былой гарадзкой, як ня верылі ў тое, што яна праводзіла галодныя гады, выходзіла на шумныя, сьветлыя вуліцы Чыкага, станавілася пад электрычны ліхтар і жабравала. Жабравала, каб выратаваць ад галоднай сьмерці дзяцей. Ня верылі, бо самі гэтага не перажылі, не пераадчувалі.

— Памятаю — гаварыў мне аднойчы стары дзед Мірон — як пазалетась, я разам плакаў з Мартай. Быў сход, гаварыў Васіль, а больш Марта. Дужа разумна і талкова яна гаварыла, кожнае слова нібы на-

жом адразала і молатам уганяла ў бабскія галовы. Раптам узьнялася з лаўкі жонка Міколы, падышла да Марты, зьмерыла яе сваімі злымі вачыма, плюнула ёй у твар і закрычала.

— Патаскуха! Паскуда! Куды нас цягнеш? Што табе ад нас трэба? Вон адгэтуль!— Закрычала баба-дура.

— Марта стаяла нейкі час, зьбялела, зьмянілася ў твары. Маўчала. Раптам паглядзела навокал, ёй стала крыўдна і яна ня стрымалася. У яе пакаціліся сьлёзы. І я, стары, заплакаў. Стала неяк шкода. Я яе разумеў і, мабыць, толькі адзін з усіх прысутных. Гаварыць я ня ўмеў, а на сходзе гаварыў. Плакаў і гаварыў. Узьнялася Марта, абцерла вочы, падышла да мяне, ды і кажа так ласкава, як родная маці.

— Ня плач дзед, ідзі да нас — і я пайшоў.

— Што-ж я нюні распусьціла, спалохалася кулачкі—думала Марта і ёй станавілася крыўдна перад уважліва яе слухаўшымі сялянамі за сваю слабасьць.

— За гэта трэба помсьціць, але мы не такія, каб спаганяць сваю злосьць — гаварыла Марта. Выхад Праксэды супроць мяне лішні раз паказвае, што кулацтва адчувае сваю нямінучую пагібель, адчувае, што ня стрымаць яму вялізарнага нашага руху. Вораг, адчуваючы сваю пагібель, грызе рукі ад злосьці, скарыстоўвае ўсё што можна для барацьбы з намі.

Жанчыны шчыльнай сьцяной стаялі каля Марты, бачылі, як яна хвалюецца, як гарыць яе твар, яшчэ добра не абсохшы ад нядаўніх сьлёз. Шчырасьць, з якой гаварыла Марта, лютая нянавісьць да кулакоў, якая вылівалася ў кожным слове Марты, прастата і блізкасьць паступова ламалі сьцяну паміж Мартай і сялянскамі-бяднячкамі.

Усё часьцей і часьцей у хаце Марты зьяўляліся госьці, раней зусім рэдкія ў хаце Казла. Прыходзілі і садзіліся на дубовыя лаўкі, дзівіліся на кут, у якім ня было ніводнай іконы, а віселі портрэты, прыгожа ўбраныя клапатлівай рукой, азіралі чыста вымытую падлогу, ня гледзячы на зусім гнілыя і трухлявыя дошкі. Дзяцей, замарданых жыцьцём, жоўтых, бяз крывінкі, але апранутых чыста ва ўсё бенядаўна памытае.

— У яе і дзеці якіясьці асаблівыя — ціхія — гаварылі сялянкі. Дзівіліся, як спраўляецца Марта за ўсімі даглядзець, напаіць і накарміць дзяцей, прыбраць хату, пачытаць газэту і кожны вечар быць вольнай для размовы з імі, бабамі.

* * *

Дні сталі больш доўгімі, карацелі ночы, пачынала грэць сакавіцкае сонца. У адзін з такіх прыгожых дзён, калі сьнег разьліваў аксаміты срэбра, да Марты ў хату прышло 6 жанчын, сярод іх былі Волька, Алеся Каролік, Наста Гур і Сямёнава Марыля.

— Мы, Марта да цябе, па справе — сказала найбольш баявая Наста.

— Ну, гаварыце што — ахвотна дапамагу.

— Напішы нам заяву...

— Якую, куды?

— У калгас мы парашылі... Думалі, думалі і парашылі.

— Гэта добра, вельмі добра. Даўно трэба было — вясёла загаварыла Марта — а як-жа мужыкі?

— Дзе яны дзенуцца, мы з мужыкамі. Усе разам, калі прымуць?

— Каго-ж прымуць, калі ня нас—сказала Марыля — мы самая галота на вёсцы.

— Пішы, Марта — і Марта пісала.

Марта з гонарам выканала сваю ролю сярод жанчын, бліскуча давяла дзесяткам сялянак перавагі колгасу над паасобнай дробнай гаспадаркай. Сваёй настойлівай ды ўпартай, няспыннай ні на хвіліну работай дамаглася ўступленьня ў колгас больш дзесятку бядняцкіх гаспадарак.

## IV.

Іх было 26. Дваццаць шэсьць сьмелых і адважных змагароў на фронце соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі. Некалькі тыдняў таму назад іх было болей. Мабыць, трыццаць, мабыць, трыццаць пяць. Але сіла ня ў колькасьці. Адышлі, зноў зарыліся ў свае кротавыя норы адвечнай цемры і тугі...

— Мабыць, бяз іх лепш будзе. Яны непатрэбныя, толькі здольныя перашкаджаць. Гэта сёньня. Заўтра будзе інакш. Яны прыдуць...

Як зьмяняюцца людзі, пераафарбоўваюцца, прыстасоўваюцца. Тыя, што пераафарбаваліся і прыстасаваліся, яны не зьмяніліся, засталіся такімі-ж, як і раней, толькі вонкава зьмянілі сябе, каб завесьці ў зман, паказаць сябе героямі нашых дзён, застрахавацца на ўсякі выпадак. Але іх вялізныя, асьлiныя вушы выдаюць з галавой і яны гінуць як мухі ў піліпаўскі мароз, жалкія, бясьсільныя. Такіх адзінкі, дзесяткі, сотні. А большасьць, пераважная большасьць тых, якія яшчэ ўчора і сёньня гавораць:

— Хочацца пажыць на новай зямлі, папрацаваць сумленна для сябе і для дзяржавы, на сваёй гаспадарцы самастойна. Хочацца пабачыць, як іншыя, ці будзе там добра. Мабыць, скочыш з агню, ды пападзеш у полымя.

— Гэтыя зьмяняюцца.

26 яшчэ нядаўна былі такімі. І Цімох з Волькай, і Пятро з Алесяй, і крыху даўней Васіль з Мартай. Яны, як сотні і тысячы іншых, шкадавалі сваёй—хоць і жабрацкай—але ўсё-ж сваёй уласнай гаспадаркі. Іхнае жыцьцё, розум, увесь уклад былі пабудаваны так, што думка аб жыцьці па-за межамі сваёй гаспадаркі дзесьці ў колгасе здавалася вар'яцтвам. Больш за ўсё пужала невядомасьць і неакрэсьленасьць будучыні. Праходзілі дні і ў іхным кіпучым, бурлівым патоку раствараліся старыя традыцыі, пачуцьці, думкі, пачынала фармавацца новая думка, будавацца як каменны волат мэтаімкненьня.

Сёньня 26 з свайго асяродзьдзя рашуча выгналі ўсё, што імі ўчора ўладала, адкінулі ўсякія мары, якія ня былі непасрэдна зьвязаны з марамі і імкненьнямі арганізацыі веснавых работ.

Спачатку красавіка кожны з 26 праводзіў усе свае дні на колгасных дварох, у пунях, у сьвірнах, на малочнай. Рамантавалі інвэнтар, чысьцілі насеньне, складалі і правяралі пасеўныя пляны, разьбівалі свой колектыў на брыгады, дэталёва прапрацоўвалі праграму працы кожнай брыгады, кожнага колгасьніка.

— Паехалі, хлопцы — гаварыў Васіль Іванавіч, камандзір колектыву 26.

— Паехалі! Давай пярэдні!

Стройнай колёнай з першага дня 26 вышлі на поле першай бальшавіцкай вясны. Жылі ня марамі і лятуценьнямі, якія раней ня збываліся, жылі радасьцю колектыўнай працы, упіваліся вынікамі сваіх перамог за кожны прайшоўшы дзень.

— Ой, хто гэта мог думаць, што з колектывам так добра працаваць—часамі гаварыў Мірон, і над ім рагаталі колгасьнікі.

Чорная зямля ўзьнімалася вострымі лемяхамі і клалася пакорліва ў роўныя блішчастыя ланцугі. Гэтымі ланцугамі пакрываліся колгасныя палі. Яны расьлі, а іржышча з кожным днём зьмяншалася.

Вёска спачатку адгарадзілася ад колгасьнікаў моцнай сьцяной. Але калі колгасьнікі падышлі да сядзіб і сталі іх падымаць сваімі вострымі лемяхамі, вёска зноў загаварыла. Кулакі сталі прыбіраць да сваіх рук найбольш няўстойлівых беднякоў і сераднякоў. Нацкоўвалі іх на колгасьнікаў. Аднаасобнікі на чале з падкулачнікамі і кулакамі выходзілі на поле цэлымі групамі. Колгасьнікі, якія працавалі на полі, на сядзібах і сярод якіх была Марта з Васілём, Цімох і Волька, спакойна сустракалі сваіх ворагаў, усьміхаліся, гледзячы на іх, усхваляваных, раззлаваных.

Спакойныя паводзіны колгасьнікаў і нейкая шалёная прагнасьць да працы, якой наўрад ці можна паставіць рагаткі, устрымлівалі падкулачнікаў, прыводзілі да розуму заведзеных у зман беднякоў. Падкулачнікі са злосьцю кідалі самыя гарачыя лаянкі, як толькі можна, і ўсё-ж ні адзін з іх не асьмельваўся падняць рукі на колгасьнікаў. У замяшаньні, пераступаючы з нагі на ногу, падкулачнікі часалі патыліцу і ўходзілі да дому. Уходзілі, мабыць, таму, што сярод спакойных колгасьнікаў стаяла ў першых радох заўсёды Марта, зусім новая, незнаёмая, непадобная на тую, што хадзіла на сходы і плакала ад злосьці і крыўды! Марта зьмянілася. Яна сустрэла вясну першы раз за апошнія 20 год так, як людзі сустракаюць самую вялікую радасьць у сваім жыцьці.

Вёска чакала восені, каб ацаніць і ўзважыць работу колгасу, каб паглядзець, як зьбяруць колгасьнікі тое, што пасеялі.

—Пасеялі шмат. Не па сілах будзе, застанецца на полі няпрыбра ным.

Прышла румяная восень. Вярнуліся з заработку аднаасобнікі, якія вясной заявілі—„сеяць ня будзем, пойдзем зарабляць, пражывом, будзем рабочымі“. Ім ня было чаго ўбіраць. Яны выходзілі за гумны і глядзелі, як кіпела на полі работа, як людзі зьбіралі плады свайго поту і героічнай працы. Пад горла падступала крыўда на саміх сябе, на колгасьнікаў і на ўсё, што ёсьць на зямлі.

Яны зарываліся ў свае хаты і падоўгу не паказваліся на вуліцу. Іх у вёсцы было ня так ужо мала — чалавек 10. Яны чакалі, што іх пазавуць колгасьнікі для работы на полі, бо засумавалі па тым, да чаго прывыклі з маленства, і надзеі, што прыдуць колгасьнікі клікаць— суцяшалі іх.

Але колгасьнікі ня прыходзілі. Яны днём зьбіралі азіміну і ярыну, капалі бульбу, бралі лён, а ноччу звозілі збожжа, малацілі і высьцілалі лён на долу. Ня чулі стомленасьці,—змора іх ня брала—невядома калі яны спалі.

Поле гудзела жыцьцём, а жыцьцё рабілі колгасьнікі, новае, незнаёмае і невядомае для вёскі. З поля прыбралі ўсё да апошняга кілёграму ў час, у тэрміны, якія былі вызначаны агульным сходам.

Як ня дзівіцца і не гаварыць было вёсцы аб гэтым. Колгасьнікі, прадаўшы дзяржаве сотні цэнтнэраў збожжа, 2.000 цэнтнэраў бульбы, перавыканаўшы плян на 200 проц., пачалі напаўняць свае будынкі каровамі чырвона-нямецкай пароды, сьвіньнямі - ёркшырамі, малатарнямі, сеялкамі, плугамі і дзесяткам іншых сельска-гаспадарчых машын.

Вёска зноў загаварыла. Толькі ў гэтым говары ня было ўжо тэй няўпэўнянасьці, няведаньня, яхідных ухмылак. Вёска загаварыла па-

новаму, заставіўшы ў адзіноце кулакоў і падкулачнікаў. Па-новому, з новым.

На край вёскі, дзе зьмяшчалася праўленьне колгасу, пацягнуліся сяляне. Міма гэтай хаты не праходзілі ўжо, каб не зайсьці і ня прыслухацца, аб чым гавораць колгасьнікі. Дзесяткі аднаасобнікаў кароткія зімовыя дні праводзілі ў праўленьні колгасу, прысутнічалі на сходах, нарадах, пасяджэньнях. І адчувалі, як рушыцца паміж імі і колгасьнікамі раней пабудаваная моцная сьцяна, а зараз трухлявая, штучна пабудаваная на пяску. Паводка вымывала пясок і сьцяна рушылася!

Аднаасобнікі падыходзілі да Васіля Іванавіча, вымалі з-за пазухі заявы на паўжоўклай паперы, клалі на стол і глядзелі ў зямлю.

— Ты ўжо Васіль Іванавіч не пакрыўдзі... Прымі... Ці мы горшыя за іншых...

— Чаму-ж ты Арывон ня сеяў у мінулую вясну?

— Дурнем быў. Думаў ня будзе толку... Мітусьня адна, а яно, вон табе што...

V.

— Сёньня ў нас надзвычайны сход—гаварыў Васіль Іванавіч, стоячы за сталом і трымаючы ў руках ворах розных папер. — Па ўсіх галінах трэба праверыць нашу падрыхтаванасьць да выхаду ў поле і яшчэ раз абмеркаваць пасеўны плян. Надта ўжо мала мы вызначылі пасеяць тэхнічных культур. Лёну трэба сеяць больш, значна больш.

Колгасьнікі дружна выслухалі даклад прадстаўніка райкому партыі аб задачах другой большавіцкай вясны, які ўдала ў кароткіх рысах перад імі паставіў цэлы рад проблем на вырашэньне.

— Мы не сумневаемся, што „Комбайн“ па прыкладу мінулага году ў часе сяўбы займе адно з першых месц у раёне —ён зьвярнуўся да старшыні — ці ня прўда Васіль Іванавіч?

— Думаю так, але як скажуць хлопцы.

— Дык што там казаць, каб вось троху зямля падсохла, а там пабачым — гаварыў Мікола, што стаяў каля печы і частаваў сялянак едкім дымам самасейкі.

— Не пабачым, а пакажам!.. Пакажам, таварыш прадстаўнік — і Цімох вясёла расьсьмяяўся. Ён паціскаў свае рукі, паглядзеў на мазалі, нібы хацеў пераканацца ці хопіць сілы паказаць.

Коратка рапартавалі брыгадзіры: палявод, жывёлавод, сьвінавод, гароднік, пчаляр, дзесятнік па будаўніцтву і десятнік па торфараспрацоўках аб плянах і сваёй падрыхтаванасьці да выхаду ў поле. Гаспадарка ў разьрэзе іх дакладаў-рапартаў разьбівалася на шмат паасобных баявых вучасткаў. Па кожным з гэтых вучасткаў прыводзіліся лічбы кароткія, але выразныя, акрэсьленыя, для ўсіх зразумелыя.

Пабудаваць не пазьней пачатку жніўня сьвінарнік на 96 сьвінаматак.

Засеяць 60 га бульбы, каб забясьпечыць кармовую базу для разьвіцьця сьвінагадоўчай фэрмы...

— Трэба 70! — крычаў Мікола і яго падхоплівалі другія колгасьнікі — 70!

— Я згодзен, але ня хопіць зямлі...

— На балоце ячмень пасеем, на сядзібах бульбу...

— Засеяць лёну 5 га... — палявод спыніўся, абарваў недакончаны сказ, неяк няёмка паглядзеў на колгасьнікаў і прадстаўніка райкому партыі.

— Мала! — адначасова закрычала некалькі чалавек.

— Ну, колькі-ж будзем сеяць у такім выпадку? — запытаў палявод, адчуваючы, што яго становішча перад прадстаўнікам зусім няёмкае — яшчэ падумае, што я наўмысьля хачу скараціць сяўбу тэхкультур.

— Дзесяць трэба, а то і больш.

Гаварыў гароднік. Заднія, што стаялі ля дзьвярэй і ўвесь час праціскаліся бліжэй да стала, растлумачваючылі жанчынам, што мужыкі павінны такія справы вырашаць, а ня бабы.

— Розуму ня хопіць! Ішлі-б лепш да хаты—і крычалі:

— Мала! І садоўніку крычалі, што саду трэба больш пасадзіць, больш абрэзаць і пасадзіць яблынь. І пчаляру ківалі колгасьнікі.

— Глядзі, брат, упусьціш рой, ці не дагледзіш за трутнямі, штаны зьнімем і высечам.

І колгасьнікі ад душы сьмяяліся, а пчаляр ня ведаў, як разумець і за што прыняць сказаныя словы, ці як жарт, ці як праўду.

І Марта крычала на дзядоў, якія хацелі жонак адправіць да хаты.

— Ой, дзяды, глядзеце, барады павыдзеру.

— Не расхадзіся Марта, хопіць і табе—і Мікола рагатаў на сходзе ад душы, як на ігрышчы.

— Змаўкаў сьмех, станавілася ціха ў хаце, толькі сіпела ў люльках самасейка і зноў зарываліся з галовамі колгасьнікі ў справы ня толькі сёнешняга, але і зяўтрашняга дня.

— Рабочых коняй 70. Да кожнай пары прымацаваны асобны колгасьнік. На кожнага плуг, калёсы, збруя, запісаны, пранумараваны. Абязьлічка ўжо ліквідавана пэўна месяцаў пяць таму назад.

— Ну, і як? — пытаў прадстаўнік райкому.

— Добра. Коні ў нас зараз, як лялькі. Сена і наогул кормоў у нас хапае ўдоваль. Экономілі, бераглі, зараз даем узмоцнены паёк. Коні добрыя, няма чаго казаць — сьпяваў радасны брыгадзір за сваю работу і за спраўных коняй.

— Правільна, Іваныч, коні ў нас арлы!

— Ці будзем клікаць трактары на поле?... пытаўся Цімох і тут-жа сам адказаў. — Не, ня трэба. Яно вядома трэба, але нельга, ёсьць слабейшыя колгасы за наш, няхай там арудуе трактарная, а мы якнебудзь самі ўправімся.

— Правільна! — гудзеў сход.

І зноў увечеры сход. — „У нас зараз эпідэмія сходаў — гаворыць Васіль Іванавіч—інакш ніяк нельга. Трэба ўсё ўзьважыць абмеркаваць, разьбіць колгасьнікаў на брыгады, давесьці плян да кожнага, прыняць нормы выпрацоўкі, устанавіць расцэнкі. Трэба.

— Насеньне ачышчана цалкам, аўсу застанецца ад сяўбы прыкладна 30 цэнтнэраў, бульбы цэнтнэраў 40 і ячменю 10 цэнтнэраў.

— Трэба даць „Бальшавіку“, у іх, кажуць, не хапае.

І ніхто не супярэчыў.

Я падыходжу да колгасьніка з пажоўклай, сівой барадой і запытваю яго.

— А ці ня лепш прадаць насеньне, якое застаецца, і купіць мануфактуры, ці чаго іншага, што так патрэбна ў гаспадарцы?

— Прадаць? Справа, вядома, добрая і... патрэбная. Але як-жа ў іх ня хопіць... Трэба дапамагчы.

— А каб ты, дзед, у колгасе ня быў, збожжа, якое засталося, прадаў-бы, ці пазычаў такому-ж бедняку, як ты?

— У мяне ніколі не заставалася А каб і засталося — прадаў-бы...

— Нам Райколгассаюз прапанаваў сяўбу раньняй і позьняй ярыны скончыць за 50 дзён.

— Да пакрова ці што сеяць будзем?!..

— Занадта нешта многа дзён напісалі?..

Цімох формулюе думкі колгасьнікаў.

— 40! — гаворыць ён.

І ў протокол запісваецца 40.

— Будзем гаварыць аб нормах. Колькі ў дзень адзін араты можа ўзараць—пытае, нібы, ня ведае Васіль Іванавіч.

— Усяк, браце, араць можна. Можна сьнедаць гадзіну і можна сьнедаць 5 хвілін. Можна дваццаць раз у дзень садзіцца курыць, а можна і бяз гэтага абыйсьціся.

— Палову гектара вызначылі ў раёне.

— Сramата. На такіх конях і палову. Больш трэба...

І зноў пад стольлю вісіць слова — „больш“ і нясуцца выгукі—мала!

— Запішы Апанасенка — 0,75 га! — і Апанасенка запісвае.

І так па кожным об‘екце, па кожнай галіне работы.

* * *

Колгасьнікі былі ў поўным зборы. Коні стаялі ў хамутох, адбівалі капытамі нейкі нябывалы скок, ляніва адмахваліся хвастамі ад рэдкіх, але кусьлівых мух. Было 5 гадзін раніцы. Разыходзіліся туманы і над лесам сьвятлела сустракалі радасна дарагога госьця — сонца. Тыя, што раней складалі вёску, чакалі гасьцей. З-за ўзгорку загудзела машына, другая... прыехалі!

Т. т. Грабштэйн — сакратар Слуцкага райкому партыі, Вінаградаў — старшыня Райвыканкому і оркестар музыкі.

— Мы да вас з музыкай — жартаваў тав. Грабштэйн.

— Не пашкодзіць. Можна і з музыкай.

— На гнядым, толькі што купленым жарабцы з плугам выехаў Васіль Іванавіч. За ім гужам пацягнуліся 29 пар коняй з жалезнымі плугамі. Чалавек 500 людзей, у тым ліку і малыя дзеці, якія ў такую рань павінны спаць самым моцным сном, натоўпам пайшлі ўсьлед, адбіваючы нагамі мэлёдыі з песьні „Мы красная кавалерыя“.

— Вы, таварышы, па-бальшавіцку павялічылі пасеўны плян, вызначылі больш высокія нормы выпрацоўкі, ліквідавалі абязьлічку, спраўна сёньня вышлі ў поле — пакажэце на справе, што вы здольны ажыцьцяўляць генэральную лінію нашай партыі!..

Апошнія словы тав. Грабштэйна патанулі ў гуках Інтэрнацыяналу і ў моцных крыках колгасьнікаў.

— Пакажам!

— Выканаем!

— Не на словах, а справай пакажам!

Загулялі праменьні сонца на медных трубах, каўзанулі па сырой зямлі, па вострых лемяхох і адлівах плугоў. Васіль Іванавіч ударыў лейцамі па жарабцы і націснуў на ручкі плуга. Плуг вострым лемяхом урэзаўся ў сырую, яшчэ ліпкую, чорную зямлю і пачаў яе класьці роўнымі шнуркамі

— Ну, значыць, пачалі.

— З посьпехам жадаем скончыць!—крычаў тав. Вінаградаў уздагон 30 аратым.

VI.

Хата, у якой зьмяшчаецца праўленьне колгасу, абярнулася ў баявы опэрацыйны штаб кіраўніцтва работай па сяўбе. Кожны вечар, як згасаў дзень і ноч пачынала расьпісваць свае ўзоры, каля штабу зьбіраліся колгасьнікі, колгасьніцы. Тут правяралася выкананьне дагавораў па соцыялістычным спаборніцтве, тут кожны пазнаваў лепшых і горшых ударнікаў.

— Сёньня засеяна 8 га бульбы, $1^1/_2$ га ільну, 4 га позьняга ячменю, $^1/_8$ га памідораў і $^1/_8$ га табакі. Бліскучыя ўзоры работы паказалі брыгады Саргаўца Цімоха, Маглыша Пётры, яны перавыканалі заданьне на 150 проц. Адстаюць брыгады Гардзенчыка і Хвядотава. Першая — 101 проц., другая — 100,8 проц.

Заўтра будзем сеяць: 10 га бульбы, 3 га ільну, 1 га канапель, 5 га ячменю...

Тут-жа Апанасенка праводзіў падлікі з брыгадзірамі, выдаваў працоўныя кніжкі і правяраў, наколькі правільна брыгадзіры паказвалі ў кніжках выпрацоўку за дзень колгасьнікамі.

Колгасны колектыў разьбіты на дзесяткі брыгад: аратых, сяўцоў, гароднікаў, плотнікаў па будаўніцтву, разьбіўшчыкаў гною, возчыкаў і г. д. Паміж брыгадамі разгарнулася спаборніцтва, хваля якога захапіла кожнага з удзельнікаў брыгады, кожную жанчыну, кожнага падлетка.

— Ну, колькі ты сёньня падняў? — пытаў Цімох у Міколы.

— Здаецца, нішто. Вышаў другім. 1,09 га. А ты, як?

— Засеяў $3^1/_2$ га ячменю. Норму значна перавыканаў. Гавораць, Хвядотаў сёньня падкачаў. Учора ў яго бліскучыя паказьнікі былі... Цімох убачыў Хвядотава ў акружэньні сваіх брыгадзіраў.

— Што-ж гэта твае хлопцы качаюць. Зьнізілі выпрацоўку ды і значна. Дарма губляюць адно з першых месц!

— Ня ведаю, брат, і працавалі здаецца нішто. Лемяхі няважныя, а зямля сырая і цяжкая, адна гліна.

* * *

На дварэ стаяла ноч. Вёска, здавалася, спала. Не, толькі здавалася. Вёска ня сьпіць. Яна жыве толькі ёй знаёмым асабістым жыцьцём... На краю, дзе стаіць напалову разбураная хата, урослая ў зямлю, насыпалі на вазы бульбу. Зьвінелі вёдры, білі зямлю цяжкімі капытамі неспакойныя коні, шумелі і галасна перагукваліся людзі, расьлі вазы з бульбай, людзі парушалі спакой майскай ночы... Скрыпелі калёсы, уздымаўся ледзь прыкметны пыл ад зямлі і губляўся ў прахалодзе ночы. Зямля адпачывала ад пякельнага палу, стомленая, ляжала роўніцай без мяжы і краю. Узгоркі і хмызьнякі патанулі ў туманох, толькі вятрак стаяў на краю вёскі і яго палатняныя крыльлі ледзь уздрыгвалі ад ціхага цёплага ветрыку...

Марта сьмяялася звонкім, маладым сьмехам, купаючыся ў лунных туманох.

— Заўтра раніцою сеяць бульбу. Гной ня вывезены, а сеяць трэба. Прапаную організаваць 2-3 брыгады для работы ўначы — гаварыла Марта Васілю і Цімоху. І праз некаторы час Марта і Каролік Алеся з брыгадай у 30 жанчын хадзілі па хатах, выцягвалі колгасьнікаў, якія пасьля дзеннай работы ўлягліся ўжо спаць.

— Мікола, хутчэй уставай! Мікола!!

— Хто там? — пытаў Мікола, углядаючыся ў вакно. — Чаго вас ліха носіць ўначы?

— Ці выспаўся? — пытала Марта.

— Дзе там, толькі лёг — гаварыў Мікола, пазяхаючы.

— Апранайся барджэй, трэба гной вазіць. Заўтра сеяць бульбу! Бачыш, ужо разьбіўшчыкі ў поўным зборы!

І Мікола ішоў, і Цімох ішоў, і яшчэ дзесяткі людзей.

Брыгада Марты сёньня працуе на двух вучастках. Марта і 14 ударніц разьбіваюць гной, Каролік Алеся кіруе накідваньнем гною на вазы.

— Сьцеражыся Наста, віламі пракалю! — шуткуе Алеся — нешта вілы ў цябе ў гной ня лезуць. Глядзі, не засьні! І Наста зьвіхаецца, ня хоча застацца апошняй сярод таварышак. Яна толькі што ўзіралася на коняй, якія стаяць ўпрэжанымі ў калёсы, дрэмлюць, павольна паводзяць вушамі, прыслухоўваюцца да стукату і звону жалезных віл. Захацелася спаць, вочы пачалі сьціскацца — „ой, як добра было-б заснуць, хоць вось-бы тут, у куце, на саломе. Хоць-бы некалькі хвілін“ — і Наста пачула, як забалела сьпіна ад работы. Забылася пра ўсё. Яна сапраўды задрамала, заплюшчыла вочы, абапералася на вілы, якія былі ўторкнуты ў гной.

Звонкія і жартлівыя словы Алесі яе прабудзілі. Схамянулася, працёрла вочы рукой і адчула, як засьмяяліся дзяўчаты — „пэўна нада мной. Чаму ім ня хочацца спаць, чаму яны такія вясёлыя і вілы ў іх руках так бегаюць хутка“. А праз некалькі хвілін Наста ўжо забылася на свой сон, на дзявочы сьмех, які быў накіраваны супроць яе. Наста побач з таварышкамі змагалася за пяршынства.

... Ноччу на полі Марта афармляла дагаворы па соцыялістычным спаборніцтве, на лепшую якасьць работы, на выкананьне і перавыкананьне норм выпрацоўкі.

— Норма ў нас 14 шасьціцэнтнэравых вазоў. Разьбіваць 14, значыць зацягнуць, а мабыць і сарваць сяўбу ў колгасе. Гэта лічба нас ні ў якім разе ня можа задаволіць. Я прапаную высунуць сустрэчную норму—25 вазоў. Ну, як таварышкі разаб‘ем, ці не?

— Разаб‘ем!—першай сказала жонка Міколы, высокая, прыгожая, яшчэ зусім маладая жанчына. Астатнія 13 не засталіся ззаду і норму ў 25 прынялі. Дагавор быў заключаны бяз мітынгаў, рэзолюцый, без паперы,—віламі па сырой зямлі расьпісваліся ўдарніцы ў гатоўнасьці даць 25. І далі. Жонка Міколы дала 26, Марта — 27 — 200 працантаў нормы. І ні адна з ударніц ня дала менш 25.

А раніцою пасьля таго, як над вёскай празьвінеў званок і аратыя вышлі заворваць ноччу разьбіты гной і сеяць бульбу, сярод колгасьнікаў у 10 раніцы зноў была Марта, былі і Алеся, і Наста і 27, што працавалі ўначы на полі.

* * *

Спакойная і прыгожая вясна. Ні ветру, ні вялікіх дажджоў. Цяплынь якая.

Мы хадзілі з Васілём Іванавічам па палёх колгасу, аглядалі ўжо буйна каласаваўшае жыта, прыгожа і роўна ўзышоўшы авёс, лён, які раскінуў на паверхні мяккай і роўна запаханай зямлі маленькія зялёныя лісьцікі. Абапал дарогі за вёскай пад колгас Комінтэрн зялёным морам ляжыць некалькі дзесяткаў га канюшыны.

Яшчэ зусім нядаўна гэта ўпрыгожаная зямля была парэзана на вузкія шнуркі. Палоска за палоскай падзяляліся зялёнымі аброслымі травою, лазою і маладым хмызьняком бярозы—межамі. Межы! Колькі яны хаваюць у сабе чалавечага поту, крыві, роспачы і адчаю!

Васіль Іванавіч нібы зразумеў мае думкі, спыніўся і загаварыў:

— У нас прыбавілася на некалькі га высока-каштоўнай зямлі дзякуючы ліквідацыі межаў. Тут былі вельмі вузкія палоскі. Шмат якія гаспадары не маглі завярнуць на сваёй палосцы каня, упрэжанага ў плуг, ці барану, каб не закрануць засеву свайго суседа... Два гады таму назад вось тут—і Васіль Іванавіч паказаў на кавалак зямлі, што зелянеў пад аўсом каля млыну—праламіў адзін бядняк другому ворчыкам галаву...

— За што?

— Заараў мяжу. Адхапіў, мабыць, сантымэтраў 5 ці 10 зямлі. А што было раней?—запытаў Васіль Іванавіч і тут-жа сам адказаў—шмат было. Кулакі ў руках трымалі беднату, трымалі вёску і рабілі політыку.

У галаве Васіля Іванавіча паходная канцылярыя, у якой ляжаць справаздачы і плян разьвіцьця гаспадаркі на бліжэйшы год, опэрацыйны плян пасеўнай і ўборачнай кампаніі. Слухаючы яго аб тым, колькі будзе ў гэтым годзе раскарчавана ляда, культывавана балот, аб ураджаі і разьмеркаваньні бульбы, ільну, канапель, табакі, памідораў, жыта, аб будаўніцтве, аб колькасьці патрэбных працадзён на ўборачную—зьдзіўляешся многагранасьці гэтага чалавека, яго вострай памяці, дакладнаму веданьню кожнай дробязі вялікай гаспадаркі. Паміма волі ўспамінаецца дырэктар саўгасу „Івань“, які нам у часе разгару сяўбы ня мог бяз кніжак і без рахункавода прывесьці ніводнай лічбы, нават такой, якая-б характарызавала выкананьне саўгасам пасеўнага пляну.

Гаспадарка „Комбайну“ ніяк ня менш гаспадаркі „Івань“, ды і самы працэс кіраваньня колгасам больш складаны.

Каля рэчкі гагатала вялікае стада гусей.

— Іх зараз 200 штук. Увосень здадзім пролетарскім цэнтрам ня менш 1.000 штук.

На загуменьні ляжалі бярвеньні, якія належалі былым аднаасобнікам, сучасным колгасьнікам.

— Чаму ня зьвезены на будаўніцтва сьвінарніку? — сам у сябе пытаў Васіль Іванавіч і нешта запісваў у замусоленую кніжку.

Падняўся невялікі паўднёвы ветрык, павольна закалыхаў лісьце хмызьнякоў каля саду. Васіль Іванавіч паглядзеў на вятрак.

— Я пабягу малоць. Вецер рэдка бывае. Трэба не празяваць...

Чалавек, які ня толькі кіруе вялікай гаспадаркай, зьяўляецца яе камандзірам, сумленна і самаадданa выконвае свае абавязкі, як член бальшавіцкай партыі, але які літаральна згарае на рабоце разам з лепшымі ўдарнікамі-колгасьнікамі. У Комбайне няма ніводнага чалавека, які-б ня ведаў, не адчуваў і ня бачыў работы Васіля Іванавіча і які-б асабіста яго не прасіў адпачыць, захаваць свае сілы і кожны з іх заўсёды сустракаў спакойны і жорсткі адказ Васіля Іванавіча.

— Аба мне не клапаціцеся!

І працуе. Устае разам з золкам да ўсходу сонца, а калі кладзецца—невядома.

## VII.

Язэпу было 22 гады, калі ён стаў у рады „расійскага доблеснага воінства“. Тры гады жыцьця, калі гэта можна назваць жыцьцём, у акопах, на перадавых позыцыях агню. Галоднае, халоднае існаваньне пакінулі ў Язэпа свае нямінучыя адбіткі. Язэп Давыдовіч паклаў на аўтар „айчыны“ сваю нагу, застаўшыся на ўсё жыцьце інвалідам.

Тав. Давыдовіч! Ідзі, браток, адпачні, мы без цябе ўправімся. Тыя-ж ноч працаваў—гаварыў Мікола Язэпу, накідаючы гной.

— Адпачнем зімой...

— Ды як гэта зімой? Ты-ж так хутка зваліўся. Мы страцім каштоўнага працаўніка!

— На маё месца стане другі, ня горшы, чым я, а лепшы.

— Ну, што мне з ім рабіць?—пытае ў мяне Цімох.—З вечара і да ўсходу сонца ён стаіць на варце, ахоўвае колгасную маемасьць. Здавалася-б, што чалавек пасьля бяссоннай ночы павінен адпачываць. Дзе там было! Выходзіць на работу. Працуе бяз змору, ня горш, чым самыя лепшыя ўдарнікі. І я ведаю, што яму цяжка працаваць. Але на яго нічога ня дзейнічае—ня можна ўгаварыць...

Колектыў зьмяняе людзей, перарабляе псыхолёгію, зьнішчае, вырывае з карэньнямі вузкія погляды на жыцьцё, уласьцівае кожнаму ўласьніку, нараджае новыя соцыялістычныя ўзаемаадносіны паміж людзьмі, новыя адносіны да работы.

Язэп як дзесяткі і сотні такіх як ён, жывучы на сваёй гаспадарцы, ня меў ніякіх пэрспэктыў на заўтрашні дзень. Ён жыў толькі сёнешнім, далейшае было ня цікава, бо ў ім, акрамя цяжкага існаваньня, нічога не вызначалася, не акрэсьлівалася. Дні да дробязяй былі падобны адзін на другі, кожны з іх прыносіў ня радасьць, а нейкае сумнае, цяжкае адчуваньне горкага жыцьця і гэтая гарката хавалася ва ўсім укладзе гаспадаркі, у традыцыях, побыце і прывычках.

Чаму зараз стаў Язэп непадобны да таго, які цэлымі днямі ня злазіў з печы, крычаў адтуль на жонку, дзяцей, праклінаў жыцьцё і ўсё, што знаходзілася навокал?..

На гэта пытаньне словамі цяжка адказаць. Трэба бачыць змаганьне колектыву і вынікі яго. Трэба ня толькі бачыць, а ўдзельнічаць у гэтым змаганьні, каб зразумець сутнасьць і прычыны такіх зьмен у Язэпа. Ды ці толькі ў Язэпа, у кожнага з тых, хто прышоў у колгас не для прыгожых слоў, не для таго, каб шкодзіць, а каб працаваць так, як працуе Язэп, як працуе ўдарны колектыў Комбайну.

Колькі дзён прагульвала старая вёска ў часе самай гарачай летняй сьпекі у часе ўборкі, сяўбы, п‘яная, пабітая, з ігрышчамі, з кроўю на вуліцах і вёдрамі гарэлкі? Колькі старая вёска прастойвала „ў божых храмах“, у гарачыя дні, узьнімаючы рукі ўгару, просячы „всевышнего“ даць добры ўраджай?

— Нельга падлічыць! Раней у старыя часы інакш быць не магло. Зараз другія часы. Колькі ў гэтым годзе ў часе сяўбы ў Комбайне ня вышла на работу колгасьнікаў?—Такіх ня было. Колькі адсьвяткавана дзен?—Выходных на працягу 23 дзён змаганьня ня было, працавалі ўначы, ня толькі, каб сьвяткаваць.

І яшчэ адно пытаньне.

У мінулым годзе Язэп яшчэ ня быў у колгасе і ў яго валавы прыбытак з гаспадаркі падлічваўся рублямі—некалькі дзесятак—у суседа-колгасьніка—сотнямі. Дзевяцьсот восемьдзесят сем рублёў!

— У гэтым годзе болей будзе—зьдзельшчына. У мяне чацьвёра рабочых. Штодня выпрацоўваем 5-6 працадзён—гаворыць Мікола. Ды ня толькі Мікола—такіх дзесяткі.

* * *

Павольна згасаў яркі майскі дзень. Паружавеў захад, і сонца скацілася за сасновы бор. Згушчаўся блакітны змрок, акутваў прасторы і вёску. Вёска напаўнялася людзьмі, коньмі, калёсамі На прызбах зьбіралася групамі чорныя загарэлыя дзяўчаты, ішлі па вуліцы з ручнікамі мужчыны ад рэчкі. Яны мыліся сёньня першы раз ўволю пасьля цяжкай неперарыўнай работы, на працягу 23 баявых дзён.

З канца ў канец па вёсцы праехалі начлежнікі, пачулася недзе за крамай коопэрацыі калатушка Язэпа, зазьвінела ў паветры дзявочая песьня, абарвалася і зноў паплыла над вёскай.

Школа напаўнялася людзьмі, яны з сабой прыносілі шум і парушалі спакой у маўклівай залі, абціралі ногі каля парогу, садзіліся за дзіцячыя парты, вымалі кісеты з самасейкай, дымілі і перамаўляліся. У сенцах шумелі і сьмяяліся дзяўчаты, прасілі Мікіту пайграць сёньня пасьля сходу.

— На вуліцы, хоць трошкі, Мікіта.

— Пайграю. Кончым сход і пайграю. Што ўжо з вамі рабіць. Добра працавалі, як не пайграць?!.

Дзяўчаты патроху сталі заходзіць у школу і займаць заднія месцы. І вось школа набіта людзьмі, як селядцамі бочка, запоўнены сенцы, людзі павісьлі на вокнах і разьмясьціліся пад вокнамі.

— Мы сёньня, таварышы, скончылі сяўбу. Сустрэчны плян, які быў разьлічаны на 40 дзён работы, намі выкананы за 23 дні. Плян выкананы на 100 проц. па ўсіх культурах, а па некаторых перавыкананы—рапартаваў старшыня колгасу гаспадару сходу колгасьнікаў.

— Трэба паслаць рапарт цэнтральнаму камітэту партыі і баявому органу КП(б)Б газэце „Зьвязда“—прапанаваў Цімох. І яго дружна падтрымалі колгасьнікі.

Мы падаем тут гэты рапарт, як докумэнт, які сьведчыць аб вялізарнай дапамозе нашай партыі на фронце соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, як докумэнт, які пацьвярджае, што ў масах колгасьнікаў захаваны вялізарныя творчыя магчымасьці, нявычэрпныя крыніцы энэргіі, упартых жаданьняў ісьці да новых перамог, сталёвым крокам пад кіраўніцтаам ленінскай партыі.

## Рапарт ударнікаў-колгасьнікаў сельска-гаспадарчай арцелі Комбайн Слуцкага раёну.

„Азнаёміўшыся праз газэту „Праўда“ з бліскучымі посьпехамі, якіх дасягнулі колгасьнікі юрты Троіцкай ва ўдарным правядзеньні сяўбы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, мы, ударнікі-колгасьнікі арцелі Комбайн, скончыўшы сёньня 20 мая веснавую сяўбу, рапартуем аб нашых посьпехах і мэтодах працы, якія далі нам магчымасьць выйсьці пераможцамі ў барацьбе за другую бальшавіцкую вясну.

Асноўнай зарукай нашага посьпеху было тое, што мы добра зразумелі і ацанілі вялізарнае значэньне зьдзельшчыны ў справе ўшчыльненьня тэрмінаў сяўбы і ўзмацненьня тэмпаў колектывізацыі.

28 красавіка мы выйшлі ў поле, ліквідаваўшы абязьлічку ў карыстаньні коньмі, інвэнтаром і ўсёй колгаснай маемасьцю, перайшоўшы на зьдзельшчыну, ацэненую ў працаднёх, адразу наладзіўшы правільны ўлік працы.

Нашы нормы выпрацоўкі ў асноўным перавышалі на 20—40 проц. нормы іншых колгасаў Слуцкага раёну, ня гледзячы на тое, што нашы глебавыя ўмовы значна больш цяжкія, чым у іншых колгасах.

Да пачатку сяўбы мы пакончылі з існаваўшым у нас фармальным спаборніцтвам, разгарнуўшы на аснове зьдзельшчыны сапраўднае ўдарніцтва на палёх. Тады пачалася героічная барацьба соцень колгасьнікаў за рашаючую бальшавіцкую вясну. Ахопленыя магутным уздымам творчага энтузыязму, нашы колгасьнікі ў большасьці сваёй паказалі сапраўды ўдарныя тэмпы работы.

Выходзячы з разьмераў яравога кліну, наяўнасьці цягавай сілы і прынятых норм выпрацоўкі, мы прадугледжвалі сканчэньне сяўбы за 40 дзён. Аднак, ужо першыя дні ўдарнай работы колгасьнікаў на палёх паказалі на справе, што, ня гледзячы на вялікую напружанасьць пляну, намечаныя тэмпы могуць быць яшчэ больш павышаны. Плян не адпавядаў таму размаху, які быў узяты колгасьнікамі, дзякуючы ўдарніцтву.

І сапраўды, сярод 115 бядняцка-серадняцкіх двароў, якія яднае наш колгас, не знайшлося ніводнага чалавека, што не адгукнуўся-б на заклік партыі аб мобілізацыі ўсіх сіл і патраеньні тэмпаў, каб сваечасова выканаць і перавыканаць плян другой колгаснай вясны. Нашым агульным адказам на гэты заклік партыі была інтэнсыўная, самаадданая работа на палёх, колектыўная зацікаўленасьць да колгаснай гаспадаркі.

Дзесяткі лепшых ударнікаў-колгасьнікаў здолелі паказаць усёй колгаснай масе і наваколнаму сялянству, што ўдарная праца на колгасных палёх—ёсьць „справа гонару, славы і геройства“ і заразіць іх сваім прыкладам. Вось чаму мы сяўбу замест 40 дзён скончылі за 23 дні, скараціўшы тэрміны сяўбы на 17 дзён, цалкам выканаўшы плян па тэхнічных і кармовых культурах і перавыканаўшы агульны пасеўны плян на 12 гектараў. Дырэктыва партыі і ўраду аб пашырэньні яравога кліну супроць мінулага году на 17 проц. выканана.

Некалькі прыкладаў нашай барацьбы за бальшавіцкую сяўбу. У Слуцкім раёне ёсьць МТС, але мы не зьвярнуліся за трактарнай дапамогай, а праводзілі сяўбу сваімі ўласнымі сіламі, каб даць магчымасьць МТС скарыстоўваць трактары там, дзе яны больш патрэбны, у менш організаваных колгасах.

Мы ўсюды перавыконвалі нормы выпрацоўкі. Замест 0,75 га параконным плугам ўзорвалі больш 1 гектара; замест $2^1/_2$ гектараў высявалі па 3 і $3^1/_2$; замест 14 шасьціцэнтнэравых вазоў гною разьбівалі па 25-27 вазоў.

Вялізарная ўвага была намі аддана жывой цягавай сіле. Мы захавалі коняй працаздольнымі да вясны, мобілізавалі ўсе нашы кармовыя рэсурсы, рацыянальна іх выкарыстоўвалі.

Наша ўдарная работа на аснове зьдзельшчыны зьявілася лепшым агітатарам за колгас. Замест 26 гаспадарак у мінулым годзе, мы зараз налічваем ужо 115 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Колгас канчаткова і назаўсёды пахаваў старую раздробленую вёску Кляпчаны.

У сувязі з пасьпяховым сканчэньнем веснавой сяўбы мы бярэм на грамадзкі буксір адзін з адстаючых колгасаў у нашым раёне—колгас „1 Мая“. Заўтра мы пасылаем туды буксірную брыгаду ў складзе

12 лепшых ударнікаў і 12 пар коняй для дапамогі колгасу „1 Мая" ў хутчэйшым выкананьні пасеўных плянаў. Мы даручылі нашай буксірнай брыгадзе перанесьці ў колгас „1 Мая" нашу практыку зьдзельшчыны і організаваць правільны ўлік яе.

Мы бярэм на сябе абавязак паставіць колгас „1 Мая" ў рады перадавых колгасаў Слуцкага раёну.

У сувязі з тым, што ўстаноўленыя намі раней нормы выпрацоўкі, дзякуючы соцспаборніцтву і ўдарніцтву, засталіся далёка ззаду фактычных норм, якія мы далі на практыцы, мы даручаем праўленьню адпаведна павысіць нормы выпрацоўкі на ўсе об'екты работ.

Запэўняем ЦК КП(б)Б і газэту „Зьвязда", што бальшавіцкіх тэмпаў не здамо. Мы будзем непаслабнымі тэмпамі рыхтавацца да ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі, праводзячы іх такімі-ж мэтодамі работы, як і веснавую сяўбу, не адступаючы ні на крок назад ад таго, што намі заваявана ў часе штурму другой бальшавіцкай вясны.

Па даручэньні агульнага сходу:

ударнікі-колгасьнікі—Казёл Васіль, Маглыш Пётра, Саргавец Цімох, Пацікайлік Якім, Пацікайлік Кастусь, Давыдовіч Сяргей, Лясун Зьмітро, Каролік Хама, Каролік Алеся, Давыдовіч Ліза, Казёл Марта, Казёл Сяргей, Саргавец, Гэрман і Міханюк".

„Зьвязда", зьмясьціўшы рапарт, пісала ў „шапцы".

„Справу гонару, славы і геройства" паказаў ударны колгас „Комбайн" Слуцкага раёну".

І ніжэй:

„Ён („Комбайн") скончыў на 17 дзён раней тэрміну сяўбу і бліскуча перавыканаў пасеўны плян, на справе давёўшы вялізарныя магчымасьці зьдзельшчыны, соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

„Комбайн" павышае ўсе свае нормы выпрацоўкі і пераключаецца на практычную дапамогу адстаючай арцелі „1 Мая", паказваючы ўзор вялікай палітычнай сьвядомасьці і вышэйшых форм ударніцтва на палёх".

І праз некалькі дзён.

*„Прэм'яваць пераходным сьцягам імя газэты „Зьвязда" колгас „Комбайн" Слуцкага раёну, які датэрмінова і поўнасьцю скончыў веснавую сяўбу".*

## VIII.

Ад мінулай вёскі не засталося і сьледу. З 115 двароў 114 у колгасе.

Я бачыў гэтага адзінага прадстаўніка старой жабрацкай вёскі.

У памяшканьне праўленьня колгасу ўвайшла жанчына з дзіцём на руках. Яна моцна ўселася на лаўцы, аглядзела пакой і зьвярнулася да старшыні колгасу.

— Ну, што-ж мне рабіць Васіль Іванавіч?

Ледзь стрымліваючыся ад сьлёз, яна адвярнулася.

— Я ужо сказаў, каб табе дапамаглі засеяць бульбу—гаварыў старшыня, заняты абмеркаваньнем цэлай групы пытаньняў са сваімі брыгадзірамі.

— Заўтра раніцою засеюць.

— Ды гэта зусім ня тое. Не пра гэта я пытаюся. Адна я засталася, як былінка ў полі.

У жанчыны на вачох паказаліся сьлёзы.

Мы зразумелі, што гэта і ёсьць усё, што засталося ад старых Кляпчан.

— Ну, чаму-ж ня ідзеш у колгас?

— І хачу і не магу. Працаваць у мяне няма каму. Вось я, малыя дзеці і дзед, якому 80 год — вось уся мая сям'я. Хто-ж за мяне працаваць будзе? А ў іх у колгасе ўсе такія працавітыя. Праца ў руках гарыць.

І жанчына плакала.

На парозе стаяла Марта і ўхмыляючыся глядзела на адзінага прадстаўніка паміраючай вёскі.

— Арына, кінь! Разам працаваць будзем. Дзеці ўясьлях будуць гуляць. У мяне таксама дзеці. Глупства! Ідзі да нас...

Арына праціпала заплаканыя вочы і яе твар расплываўся ў радаснай ухмылцы.

* * *

Так памерла вёска Кляпчаны.

* * *

— Мала пасеяць, трэба захаваць ураджай, глядзець за ім, ахоўваць—гаварыў Васіль Іванавіч брыгадзірам.

Ураджай ахоўваецца. Ідуць прапалачныя работы. Працуюць ударныя брыгады жанчын. Складзены пляны ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі, даведзены да кожнай брыгады, да кожнага колгасьніка.

„Уборку на бальшавіцкія рэйкі, на ўдарныя тэмпы“ — гаворыць плякат над дзьвярыма праўленьня колгасу.

* * *

Гляджу на Цімоха Саргаўца, бязвусага энтузыяста — ён мажа калёсы — і прыпамінаю, як некалькі дзён таму назад ён выступаў на сходзе і прапанаваў паслаць у колгас „1 Мая“ буксірную брыгаду. Тады ўстаў яго бацька, старэнькі і сівы дзядуля, паглядзеў на сына спадлоб'я і павольна слова за словам пачаў гаварыць.

— Табе, сынок, угамону няма. Свае працы мала значыць! Людзі і коні замораны, а табе буксір. Яшчэ што выдумаеш...

І дзядуля закашляўся. Цімох і ўсе колгасьнікі спачатку ўважліва слухалі старога Саргаўца і зараз чакалі, пакуль ён адкашляецца.

— Што яны плаціць будуць? Самім тады будзе нечага жраць... Буксір!.. Гультаі, таму ў іх і работа на полі. Маё слова за тое, каб не пасылаць ніякага буксіру. Непатрэбная гэта штука. Лепш няхай адпачнуць коні і людзі. Ён, сам Цімох, замардаваўся больш як хто, а, пляцець... буксір...

Апошнія словы бацькі, як шылам укалолі Цімоха. Ён сарваўся з лаўкі.

— Бацька! Замаўчы!..

Потым схамянуўся, зьнізіў голас і гаварыў больш спакойна.

— Сядзеў-бы ты на печы, ды ня сунуў свайго носу туды, куды трэба і ня трэба. Калі ты змарыўся — адпачывай! Кладзіся на печы і кармі прусакоў, а нам не перашкаджай. Адкуль ты, бацька, ведаеш, што я змарыўся, што я табе гаварыў?..

— Ведаю — і стары Саргавец пачаў аб нечым гаварыць суседу, шэптам у бараду, такому-ж сіваму, як і сам.

— Мы пойдзем заўтра ў „1 Мая“, каб паказаць ім і навучыць іх, як трэба змагацца за высокія тэмпы сяўбы, каб перанесьці на іхную гаспадарку наш героічны вопыт. Прапаную зьняць прапанову майго бацькі!

— Зьняць! — падхапілі Цімоха маладыя загарэлыя хлопцы і за імі падцягнуліся старыя колгасьнікі. І стары Саргавец ня ўстрымаўся.

— Ну, што-ж зьнімайце.

Сіла Васіля, Цімоха, Пётры, Міколы ў тым, што іх многа, у тым, што яны да канца пераканаsuccessfully ў перамозе сваёй справы, за якую так упарта змагаюцца.

Комбайнаўцы пад ганаровым пераходным чырвоным сьцягам ідуць і прыдуць да новых бліскучых перамог у справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

А. Мікуцкі.

# Колгас „Сіла“ Вульскага раёну ў другую бальшавіцкую вясну.

Вусая — сяло, на адлегласьці 14 кілёмэтраў ад раённага цэнтру, м. Вулы. У Вусаі ёсьць 2-комплектавая школа і царква, дзьве розных установы, якія стаялі на чале барацьбы дзьвёх розных клясавых сіл. Школа, на чале з настаўнікам Шчарбаковым, вяла барацьбу за лінію партыі, за мерапрыемствы савецкай улады, за колектывізацыю, арганізоўваючы батрацтва, беднату і сераднякоў; царква, на чале з папом, організоўвала кулацкія сілы і іншыя клясава-варожыя элемэнты.



Мал. 1. Батрак Арцём Якімёнак, 57 год, ударнік-брыгадзір.

У момант асабліва вострага разгару клясавай барацьбы, пры дапамозе раённага партыйнага актыву (парт‘ячэйкі на месцы няма, зараз ёсьць кандыдацкая група) 14 лістапада 1929 году ў вёсцы Вусаі была атрымана першая нязначная перамога: быў створаны колгас пад назваю „Сіла“, у які ўваходзіла 2 бядняцкіх гаспадаркі і 12 серадняцкіх, частка з якіх потым атрымала цьвёрдыя заданьні, як заможныя гаспадаркі.

Колгас „Сіла“ яшчэ быў слабым колгасам, як і ўсе маладыя колгасы Вульшчыны.

Пэрыод організацыі колгасу „Сіла“ на Вульшчыне адзначаўся асабліва яскрава выражанай формай „галавакружэньня ад посьпехаў“. У гісторыі разьвіцьця колгасу „Сіла“ Вусайскага сельсавету, памятным днём гэтага галавакружэньня ад посьпехаў зьяўляецца 23 студзеня 1930 году.

У гэты дзень з раёну зноў прыехалі мацнейшыя таварышы-партыйцы.

Перш-на-перш быў скліканы жаночы сход. Трэба сказаць, што ў пэрыод 100 процантнай колектывізацыі 1929-30 году праца з жанчынамі праводзілася лепш, чым цяпер.

На парадку дня стаяла пытаньне аб колектывізацыі і задачах жанчын.

Таварыш Ражкоўскі (старшыня РВК), здольны працаўнік, добры аратар, рабіў даклад.

Сам з сялян беднякоў, жанчыну вясковую ведаў добра і знаў, дзе яе закрануць.

Пачаў з дарэволюцыйных гвалтаў і эксплёатацыі жанчын, з беднасьці і бяспраўя, перайшоў да рэволюцыі, удзелу жанчын у бойках, ахарактарызаваў правы жанчын пры савецкай уладзе і вызначыў конкрэтныя задачы жанчын наогул і па колектывізацыі—у прыватнасьці.

Жанчыны рэагавалі з чуласьцю, прамова многіх пераканала, частка нават заплакала.

Жанчыны адобрылі мерапрыемствы па колектывізацыі і абяцалі падтрымаць на агульным сходзе. Гэта было 22 студзеня 1930 г.

23 студзеня адбыўся агульны сход. Зноў даклад рабіў тав. Ражкоўскі. Даклад кароткі, ясны, чоткі: колектывізацыя — адзіны шлях, другія — шляхі ворага.

Абгаварвалі даклад. Шумелі большасьцю дзьве жанчыны; астатнія выступалі мала.

Замест рэзолюцыі агульнаму сходу былі паднесены два сьпісы.

Вось зьмест першага „За“ колгас:

Праўленьню колгасу „Сіла“
*ад грам. в. Вусая.*

З а я в а

„Мы, грамадзяне в. Вусая, ніжэйпадпісаўшыяся, абмеркаваўшы пытаньне на сваім агульным сходзе аб політыцы партыі па рэконструкцыі ўсяе народнай гаспадаркі і ў прыватнасьці сельскай гаспадаркі і аб 100% колектывізацыі Вульскага раёну да вясеньняй сяўбы, адабраючы політыку ўлады, знаходзім, што перад сельскай гаспадаркай маецца адзіны шлях у яе разьвіцьці — гэта социялістычная форма гаспадараньня — колектывізацыя, на падставе чаго просім прыняць нас у с/г. арцель з нашымі зямельнымі надзеламі, рухомай і нярухомай маемасьцю.

Адначасова кляймім пазорам іншых нашых аднавяскоўцаў, якія ідуць супроць мерапрыемстваў улады ў справе колгаснага руху, трымаюцца чакаючай політыкі, чым дапамагаюць кулаком і іншым варожым элемэнтам у барацьбе з уладаю, якая праводзіць практычна працу па выкарчоўваньні карэньняў капіталізму ў нашай краіне“.

І далей — дзьве графы: „Прозьвішча, імя і імя па бацьку“ і „подпісы“.

На гэтай заяве падпісалася 75 гаспадарак.

Другая заява таксама была зрэдагавана прадстаўніком з РВК, у ёй значылася ўсё адваротнае і на ёй „Супроць“ падпісаліся толькі дзьве жанчыны.

Зразумела, гэта—тыповая форма перагібаў у часе галавакружэньня ад посьпехаў.

Пачалося абагульненьне.

Спачатку — сход. На сходзе гаварылі аб абагульненьні.

Асабліва востра і заўзята выступала батрачка Сьвяжынская Арына.

Настаўнік Шчарбакоў кінуў рэпліку: „Тут кулацкая вудачка, натравілі“.

З залі пачуўся голас вядомай усяму раёну заможніцы Клемяціхі Піскуновай.

— А хто натравіў?

Нечаканы адказ батрачкі:

— Ты-ж мяне ўгаварвала.

Зноў спрэчкі і пастанова:

„Адкласьці да вясны абагульненьне“.

Зрабілі другі сход праз дзень і там дабіліся: рабіць падрыхтоўку да абагульненьня кароў і іншай жывёлы. Коні ўжо былі абагулены.



Мал. 2. Брыгада па раскарчоўцы брыгадзіра батрака-ўдарніка Якімёнка Арцёма.

Калі разгортвалася падрыхтоўка да абагульненьня ўсёй жывёлы, разьнесьліся чуткі аб лісьце т. Сталіна.

Настаўніку доўга не пападала газэта. Нарэшце папала „Савецкая Беларусь“.

Кожны стаў патрабаваць:

— „Шчарбакоў, сход!“

Шчарбакоў адсылае да старшыні, старшыня — да Шчарбакова.

Зрабілі сход. Сход быў ціхі, як ніколі.

Ішло абгаварэньне новага статуту і артыкулу т. Сталіна.

Абгаварэньне да канца не адбылося, бо ўсе добра вывучылі і артыкул, і статут.

На пытаньне з прызыдыуму аб тым: ці заставіць стары статут, ці прыняць новы, заможнік Шопа Трахім заяўляе:

— Не, мы, мусіць, у кусты.

— Ну, няхай ты, а астатнія?

— Дык гэта ўсе так, — зноў голас заможніка.

Выказвацца — ніхто.

Прапановы?..

Сталі выпісвацца.

У некаторых заявы былі падрыхтаваны раней, некаторыя пісалі на сходзе.

На другі-трэці дзень пасыпаліся асобныя заявы. Кулак скарыстоўваў перагібы. Вялася кулацкая апрацоўка мас пад лёзунгам:

— Усё раздаць!

Вула шле парады:

— Трымацца! Утрымаць колгас!

Настаўнік Шчарбакоў прымаў усе меры, каб утрымаць; яму дапамагалі працаўнікі сельсавету, коопэрацыі.

Старшыня колгасу, былы самагоншчык, вёў політыку развалу колгасу. Сам пісаў заявы аб выхадзе, сам агітаваў за раздачу і абагуленага стада, набытага колгасам на сродкі, атрыманыя ад дзяржавы. Кіраўніцтва колгасу не організавала масы на выпраўленьне перагібаў.

Раніцай пачуўся шум, крык.

Вязьлі калёсы, інвэнтар.

Склікалі сход, пастанавілі: раздаць насеньне па ордэрах. Поўным парадкам раздалі. Бяз шуму, непарадкаў.

Раздалі ўсім і засталася экономія ў 120 пудоў.

Прадалі гэтую экономію і 4 беднякам заплацілі па 30 руб. за нягодных коняй, якія былі забіты пры абагуленым карыстаньні. За кармы і то разьлічыліся. Абагуленае стада разабраць не далі: з цяжкасьцямі, але захавалі 12 кароў, 7 авец і 8 сьвіней, 5 коняй і 1 жарабя.

Інвэнтару ня было амяль ніякага.

Такія былі вынікі галавацяпства, адміністраваньня; „Гігант“-колгас разваліўся, заставіўшы маленькае абагуленае стада жывёлы, якая была набыта на крэдытныя сродкі.

Разваліўся хворы „Гігант“, але засталося здаровае невялічкае ядро — колгасік з 11 гаспадароў, з іх 7 батракоў, 1 серадняка і 3 служачых.

Цяжкі момант перажываў колгас. Настаўнікі самі рабілі ўсю чорную работу: авечак даглядалі, сьвіньням гарадзілі агарожы і г. д.

———

Былі заняткі ў школе. Прыходзіць вучаніца IV групы Гэрцык Вера, батрачка, і заяўляе: „Жанчыны з Дубравак просяць прыйсьці і організаваць колгас“.

На другі дзень быў адпачынак. Накіраваўся ў в. Дубраўку настаўнік Шчарбакоў.

Зрабілі сход. Аднагалосная пастанова: „Уліцца ў Вусайскі колгас „Сіла“, але цэнтар перанесьці ў Дубраўкі“.

Улілося 8 гаспадарак, з іх беднякоў 4 і батракоў 4.

У колгасе стала 19 гаспадароў.

У гэты-ж дзень з хутароў Ягадкі ўлілося 3 гаспадаркі, а разам з імі і астача ад былога тут колгасу ў 160 руб. грошай.

22 гаспадаркі прыступілі да веснавой сяўбы 1930 году. І гэтыя гаспадаркі былі сапраўдным дасягненьнем у справе колектывізацыі, бо яны былі жывымі, а ня мёртвымі душамі ў колгасе.

Прыліў даў 8 коняй, купілі 6, а разам стала 19 коняй. Коні слабыя.

Мужчынскіх рабочых рук не хапала: усяго было 11 чалавек. Сталі складаць жаночыя брыгады. Жанчыны працавалі заўзята. А аднаасобнікі крычалі: „Прапаў Шчарбакоў з сваім колгасам“.

Шчарбакоў разам з колгасьнікамі змагаўся з цяжкасьцямі росту, паказваючы прыклад энтузыязму, вытрыманасьці і ўпартай працы.

Зямля была раскінута ў розных мясцох на адлегласьці ад 2 да 5 кілёмэтраў. Землепаказаньне колгасу было зроблена, але з зямлёй была блытаніна.

Праводзячы контрактацыю, аднаасобнікам гаварылі: „Сей на вольнай зямлі".

Колгас з працай не спраўляўся, зямля заставалася неаранай, аднаасобнікі лезьлі на колгасную зямлю, аралі. Колгасьнікі напружвалі



Мал. 3. Змазка касілкі перад выездам на сенажаць.

ўсе сілы, каб засеяць сваю зямлю. Уставалі да сонца, засявалі сеялкай і запахвалі зямлю, якую ўзаралі на колгаснай плошчы аднаасобнікі, а ім потым аралі ў другім месцы. З цяжкасьцямі, але засеялі.

Вось першы плянавы пасеў з упорам на лёнаводзтва:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Лёну . . . | 20 га | Вікі . . . | 5 га |
| Бульбы . . | 10 „ | Буракоў . . | 1 „ |
| Аўсу . . . | 15 „ | Капусты . . | 0,5 „ |
| Ячменю . . | 12 „ | Пшаніцы . | 0,5 „ |
| Гароху . . | 2 „ | | |
| | | Разам | 66 га. |

Яравы клін на кожную гаспадарку складаў 3 га. Большая-ж палова гаспадарак была батрацкіх, якія раней нічога ня мелі. Ня гледзячы на гэта, цяжкасьці севу ў 1-ю бальшавіцкую вясну былі пераможаны: плян севу выканалі.

Уборка патрабавала большай напружанасьці сіл. Без дапамогі ня справіліся-б. Дапамагалі брыгады служачых, рабочых з Вулы, вучні ШКМ.

Ураджай сабралі.

Колгас „Сіла" ў першы год існаваньня дзяржаве здаў 1.800 пудоў бульбы і іншыя культуры. Плян здачы лёну выканалі толькі на 50 проц., у гэтым недахоп колгасу.

Першы год існаваньня быў годам цяжкасьцяй, цяжкасьцяй росту і пераломным годам.

Ужо ўвосень 1930 г. ўлілося 5 гаспадарак, а зімою 1931 году — 21 гаспадарка, а разам веснавую сяўбу 1931 г. праводзіла 48 гаспадарак.

Зямлі колгас мае 350 га. Яравы клін гэтага году па пляну — 157,5 га.

Вось выкананьне гэтага пляну:

| | Па пляну | Засеяна |
|---|---|---|
| Аўсу | 25 | 15 |
| Ячменю | 13 | 11 |
| Гароху | 16 | 19 |
| Лёну | 30 | 35 |
| Канапель | 1.5 | 1 |
| Бульбы | 15 | 25 |
| Вікі насен. | 9 | 4 |
| „ на зялёны корм | 20 | 11 |
| Сілос | 1 | 5 |
| Гарод | 6 | 6 |
| Капусты | 1 | 0.5 |
| Канюшыны | 20 | 24 |
| Разам | 157,5 | 156,5 |

Колгасьнікі выкарысталі ўсю зямлю, якую токькі можна было, і плян недавыканалі на 1 га. Пашырэньне плошчы па Вульскаму раёну, згодна плянавых меркаваньняў, у некаторых сельсаветах складала 48 проц.

Перавыкананьне пляну сяўбы пайшло за лік скарачэньня зерневых і павялічэньня тэхнічных.

Цягавай сілы і ў гэтым годзе ў колгасе недастаткова: рабочых коняй 28, жарабят — 1.

Абагуленае стада кароў — 18 шт, быкоў — 2, цёлка (трацячка) — 1, пярэзімкаў — 24, сяголетак — 10. За гэты год ва ўсім раёне мала зьвернута ўвагі на барацьбу за захаваньне маладняка. У аднаасобным карыстаньні кароў — 22, цялят няма зусім.

Характэрна разьвіцьцё ў колгасе „Сіла“ стада сьвіней. Мелася летась адна добрая сьвінаматка. Сёлета ўжо 7 маладых сьвінаматак паросных, а ўсё абагуленае таварна-продукцыйнае стада — 21 галава. Утрыманьне сьвіней прыкладнае.

16 авечак маецца ў абагуленым стадзе.

З машын колгас таксама мае наступнае:

| | |
|---|---|
| Касілка | 1 |
| Жатка | 1 |
| Сеялка | 1 |
| Плугоў 2-конных Сака | 2 |
| Плугоў 2-лямеш. | 2 |
| Лушчыльнікаў | 2 |
| Лушчыльн. 4-лямешн. | 1 |
| Лугавых барон | 1 |
| Культыватараў | 1 |

| | |
|---|---|
| Барон Зіг-Заг 3-зьвеньн. | 5 |
| „ „ 2 „ | 2 |
| Палольнікаў конных | 2 |
| Сеялка-Планэт ручная | 1 |
| Акучнікаў | 2 |
| Калёс 2-конных | 2 |
| „ 1 „ | 10 |

Ёсьць веялка, малатарня і іншае, як саламарэзка, жмыхадрабілка.

Пры колгасе добра абсталяваны зьліўны малочны пункт, дзе перарабляецца малако.

З крэдытамі колгас разьлічваецца пасьпяхова. Летась датэрмінова ўнесена ў Банк 7.500 руб.

У гэтым годзе ўзята 2.500 руб.

Засталося доўгатэрм. 1.800 „

Разам 4.300 руб.

У гэтым годзе колгас з крэдытамі разьлічыцца поўнасьцю.

Соцыяльны склад колгасу на сёнешні дзень наступны:

| | |
|---|---|
| Батракоў | 11 |
| Беднякоў | 23 |
| Сераднякоў | 9 |
| Служачых | 5 |

Разам 48 гаспадарак

Пры колгасе ёсьць ячэйка ЛКСМБ, якая складаецца з 27 камсамольцаў. У ячэйку ўваходзіць 18 чалавек-колгасьнікаў з колгасу „Сіла“.

Трэба сказаць, што вялікую ролю ў справе правільнага і пасьпяховага разьвіцьця колгасу, асабліва ў барацьбе за поўнае выкананьне пляну веснавой сяўбы, мела насьценгазэта пры колгасе „Сіла“ пад такой-жа назвай. Рэдактар яе — настаўнік Якубоўскі — прэміяваны за добрую працу.



Мал. 4. Настаўнік Якубоўскі, прэміяваны за добрую працу, рэдактар насьценгазэты.

У гаспадарчым росьце і нагул росьце вялікую ролю адыграў настаўнік Шчарбакоў, які зьяўляўся намесьнікам старшыні колгасу, а зараз і старшынёй (часова). За сваю працу атрымаў прэмію ў 200 руб.



Мал. 5. Настаўнік Шчарбакоў, ударнік, прэміяваны, намесьнік старшыні колгасу, зараз старшыня.

Батракі колгасу ўступаюць у партыю. Гэта — залог далейшых посьпехаў. Цяжкасьці ў асноўным пераражыты, зараз ёсьць грунт для далейшага хуткага разьвіцьця.

Зьдзельшчына ў колгасе ўведзена, выданы працоўныя кніжкі, запісы робяцца рэгулярна.

Колгасьнікі працуюць з энтузыязмам.

Ідзе пашырэньне плошчы за лік раскарчовак. Брыгады жанчын паказваюць прыклад у працы.

Колгас „Сіла“ ідзе па правільным шляху, змагаючыся з цяжкасьцямі росту, пасьпяхова ідзе да новых перамог.

Клясавы вораг стараецца пашкодзіць. У веснавую сяўбу гэтае шкодніцтва было выяўлена: у хамуцінах хамутоў для араньня знойдзены цьвікі, якія забіты туды з мэтаю папсаваць коняй. Частка коняй была на некаторы час выведзена з строю.

Але наўкола гэтай вылазкі клясавага ворага колгасьнікі яшчэ больш мобілізавалі сваю клясавую пільнасьць, з большым энтузыязмам змагаюцца з кулацтвам і яго агентурай.

У гэтым змаганьні колгас будзе расьці і атрымоўваць усё новыя й новыя перамогі.

---

Яз. Мацюкевіч.

# Колгас імя тав. Чарвякова ў другую бальшавіцкую вясну.

*(Мсьціслаўскі раён).*

Мсьціслаўская раённая партыйная організацыя дабілася за апошні год вялізарнейшых посьпехаў у галіне социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. У мінулым годзе колгасамі было ахоплена 810 сялянскіх гаспадарак, што складала ўсяго 8 проц. ад усіх гаспадарак раёну, а на 10 чэрвеня бягучага 1931 году колгасамі ўжо ахоплена 5,558 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, што складае 62 проц. сялянскіх гаспадарак раёну. Грунтуючыся на рэальных паказчыках перавагі колектыўных гаспадарак перад аднаасобнымі і ў сувязі з гэтым на бязупынным прыліве бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у колгасы, апошні пленум РК КП(б)Б, які адбыўся 13-15 чэрвеня г/г., пастанавіў да канца асеньняй сяўбы ў асноўным скончыць колектывізацыю сельскай гаспадаркі ў раёне.

У раёне зараз налічваецца 120 колгасаў. У сэнсе організацыі працы, гаспадарчага ўзмацненьня, росту продукцыйнасьці працы, нагогул росту матар'яльна-тэхнічнай базы ёсьць розныя колгасы па якасьці. Аднак, калі запытаеш у любой раённай установе ці організацыі, які ў вас самы лепшы ў раёне колгас, дык адразу пачуеце адказ—Колгас Шамаўшчына імя тав. Чарвякова. Колгас Шамаўшчына гігант у параўнаньні з іншымі колгасамі, „краса і гордость“ раённых організацый і ўстаноў.

Колгас знаходзіцца ў пяці кілёмэтрах ад гораду Мсьціслаўля ў надзвычайна прыгожай мясцовасьці. 2861 гектарам лёсавай ураджайнай глебы карыстаецца колгас. 338 бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак аб'ядналіся, каб агульнымі сіламі ўздымаць ураджайнасьць палёў, будаваць колгасную гаспадарку, стаць сапраўднымі продуктарамі социялістычнага грамадзтва.

Цікава гісторыя організацыі колгасу. У мінулым годзе ў час галавакружэньня ад посьпехаў Старасельскі сельсавет, у якім знаходзіцца колгас Шамаўшчына, зьяўляўся суцэльнай комунай з цэнтрам кіраўніцтва ў в. Старое Сяло. Гэтая комуна, як і шэраг іншых комун і колгасаў, створаных у выніку галавакружэньня ад посьпехаў, у выніку перагібаў, адміністраваньня — распалася. Сярод „комунараў“ гіганцкай комуны, аднак, быў актыў, было здаровае ядро, якое паставіла перад сабою задачу ўтварыць колгас, усямерна замацаваць яго і шляхам рэальнага паказу перавагі колгасных форм працы над аднаасобнаю, колгаснай гаспадаркі над індывідуальнаю, шляхам агітацыі,

пропаганды, сыстэматычнага растлумачэньня сярод бядняцка-серадняцкіх мас сялянства задач партыі і савецкае ўлады ў галіне перабудовы сельскай гаспадаркі распачаць сапраўдную барацьбу за колгаснае будаўніцтва, за соцыялістычную перабудову вёскі. Цэнтар колгасу быў перанесены з в. Старое сяло ў Шамаўшчыну, сядзібу былога маёнтку. У колгас увайшло 152 бядняцка-серадняцкія сялянскія



Мал. 1. Трактары на палёх колгасу Шамаўшчына.

гаспадаркі. З гэтымі сіламі было распачата змаганьне за новае жыцьцё, за соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі.

Гадавая праца колгасьнікаў, ня гледзячы на рад непаладак організацыйнага характару, дала нядрэнныя вынікі. Валавы даход колгасу складаў у мінулым годзе звыш 120.000 рублёў. У сувязі з тым, што колгас існаваў першы год, што было параўнальна шмат організацыйных выдаткаў, што трэба было значную частку валавога даходу накіраваць на далейшае пашырэньне і ўзмацненьне гаспадаркі—падлягала разьмеркаваньню паміж колгасьнікамі 62.380 руб. звыш 50 проц. валавога даходу колгасу. Кожны колгасьнік атрымаў на 400 рублёў продуктаў па цьвёрдых цэнах, што значна перавышала даходнасьць аднаасобных сялянскіх гаспадарак.

Гаспадарчае ўзмацненьне колгасу, правільная расстаноўка рабочай сілы і скарыстаньне яе, рашучая барацьба з лодарніцтвам, з нядбайнасьцю ў адносінах да маемасьці стварае магутны стымул прыліву бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак у колгасы. Стара-

сельскі сельсавет колектывізаваны на 10 чэрвеня бягучага году на 86 процантаў. Гэты процант колектывізацыі дасягнуты ў значнай ступені дзякуючы таму, што колгас Шамаўшчына сваім паказам працы, сваім актыўным удзелам у барацьбе за колектывізацыю садзейнічаў павароту бядняцка-серадняцкіх мас сялянства на шлях социялістычнай перабудовы вёскі. У пачатку чэрвеня м-ца ў колгасе было 338 гаспадарак. Прыліў у колгас ідзе бязупынна. На кожным пасяджэньні праўленьне колгасу разглядае 20-30 заяў аб прыёме аднаасобнікаў. Ёсьць імкненьне невялікіх колгасаў уліцца ў колгас Шамаўшчына, але праўленьне колгасу баіцца зараз так шырока разрастацца, тлумачачы немагчымасьцю ў сучасны момант як-сьлед органікаваць такую буйную гаспадарку і наладзіць у ёй працу. Аднак, колгас Шамаўшчына не адмаўляецца ад дапамогі маладым, нядаўна організаваным колгасам. Пад яго агульным кіраўніцтвам і наглядам знаходзіцца тры самастойныя гаспадарчыя адзінкі, тры фактычна самастойныя колгасы, якім праўленьне колгасу Шамаўшчына дапамагае парадамі ў наладжаньні працы, вядзеньні гаспадаркі і г. д.

Колгас Шамаўшчына мае ўхіл у гаспадарцы на сьвінагадоўлю. Добрая, сугліністая глеба спрыяе росту зернавых культур і разьвіцьцю садоўніцтва.

Яравы клін колгасу ў бягучым годзе досыць вялікі. Колгасам засеяна 97 га яравой пшаніцы, вікі 189 га, аўсу 215 га, бульбы 171,5 га, лёну 188 га, канапель 17,5 га, ячменю 27,5 га, канюшыны 62 га, грэчкі 52 га, буракоў 31 га, гароху 3 га, сачыўкі 1 га, гародніны 6 га, тутуню 0,5 га.

Апрача гэтага самымі колгасьнікамі засеяна на прысядзібных вучастках: бульбы 45 га, гародніны 15 га і сілосных культур 3 га. Такім чынам, колгасам асвоена пад яравы клін усяго 1.059 га. У сувязі з тым, што ў колгасе зямлі пад яравы клін не хапала, а насеньня было ў дастатковай колькасьці, прышлося значную колькасьць папару апрацаваць пад ярыну. Усяго занята 20 проц. папару пад яравыя пасевы. Колгас вялікую ўвагу зьвяртае на ўгнаеньне глебы. Апрача скарыстаньня ўсяго гною, колгасам укладзена пад пасевы: супэрфосфату 92 тоны, фосфарытнай мукі 97 тон і каля 166 тон попелу.

Зіма ў гэтым годзе надзвычай зацягнулася, але затое вясна прышла бурна. З прычыны зацяжкі зімы тэрміны ворыва і сяўбы сталі вельмі кароткімі. Дзеля таго, каб пасьпяхова і своечасова правесьці вясеньнюю пасеўную кампанію, выканаць цалкам і поўнасьцю плян сяўбы, трэба было ўшчыльняць да максымуму працоўныя дні, расстаўляць мэтазгодна на паасобных вучастках працы ў гаспадарцы наяўную рабочую сілу і інвэнтар і самым рацыянальным спосабам скарыстаць усё гэта. Колгас распачаў ворыва пад ярыну толькі 10 мая. Раней нельга было араць, бо зусім была сырая зямля. Да 10 чэрвеня, значыцца ў месячны тэрмін, колгас скончыў сяўбу. Тэмпы работы ў паасобных брыгадах былі сапраўды баявымі, ударнымі тэмпамі. Гэтых тэмпаў колгас дасягнуў у выніку вялікай падрыхтоўчай работы да сяўбы, у выніку мобілізацыі колгасьнікаў вакол задач выкананьня плянаў вясеньняй пасеўнай кампаніі. Колгас Шамаўшчына ня толькі правёў добра сяўбу ў сябе, але значна дапамог у сяўбе і саўгасу Лютня-Бобрыкі.

Як вядома, кожны колгасьнік пры сядзібе мае $^1/_2$ ці $^1/_4$ га зямлі, на якой ён для сваіх першачарговых патрэб садзіць трохі бульбы, сее гародніну і г. д. Трэба адзначыць, што гэтыя вучасткі зямлі

вельмі многа адрываюць працоўнай сілы і часу ад агульнаколгаснай гаспадаркі. У апрацоўцы гэтых невялікіх вучасткаў-сядзібаў вельмі ярка выяўляецца яшчэ нязжытая, індывідуалістычная, уласьніцкая псыхолёгія селяніна-колгасьніка. Многія колгасьнікі стараюцца ў першую чаргу апрацаваць прысядзібныя вучасткі, хаця пасеў культур на гэтых вучастках не зьяўляецца першачарговым. Праўленьню і актыву колгасу прыходзіцца весьці вялікую, цярплівую, растлумачальную



Мал. 2. Будаўніцтва сталоўкі ў колгасе Шамаўшчына.

выхаваўчую работу сярод колгасьнікаў, каб кожны колгасьнік зразумеў і ўсьвядоміў, што добрасумленныя адносіны да працы, колгаснай маемасьці зьяўляюцца неабходнаю ўмоваю ня толькі для гаспадарчага ўзмацненьня агульнаколгаснай гаспадаркі, але ад гэтых адносін залежыць і дабрабыт кожнага колгасьніка паасобку. У гэтым напрамку і праводзіць работу праўленьне колгасу Шамаўшчына.

Вось характэрны выпадак. У часе шырока разгорнутага севу аўсу адзін з старэйшых брыгадзіраў зьвярнуўся ў праўленьне колгасу з просьбаю зьняць некаторую частку коняй для апрацоўкі гародных вучасткаў. Гэтаму брыгадзіру было растлумачана, што зараз ні ў якім разе нельга гэтага рабіць, бо трэба абавязкова ў вызначаны тэрмін скончыць сяўбу гатунковага аўсу. Калі ўсё-ж брыгадзір настойваў на сваім, а з боку старшыні колгасу тав. Сьцефанцова былі вычарпаны

ўсе магчымасьці перакананьня брыгадзіра ў неабходнасьці севу аўсу, а не апрацоўкі прысядзібных гародаў, старшыня колгасу заявіў:

— Умры, а скарэй засей колгасны авёс. Пасадка бульбы на сядзібных вучастках трохі пачакае. Бульбу садзіць яшчэ ня позна.

І сапраўды, калі-б старшыня колгасу тут дапусьціў мяккацеласьць—сяўба гатунковага аўсу ў гэтай брыгадзе сарвалася-б. Што цэнна ў гэтых адносінах у рабоце праўленьня колгасу? Цэнна растлумачальная, выхаваўчая работа сярод колгасьнікаў, устанаўленьне першачарговасьці сельска-гаспадарчых работ і выкананьне гэтай першачарговасьці, цэнна злучэньне гібкасьці ў рабоце праўленьня з цьвёрда правадзімым курсам на выкананьне рабочых праграм і плянаў.

Колгас уладае досыць значнаю колькасьцю абагуленай маемасьці і інвэнтару. Сьвіней у колгасе: 32 маткі, 5 кныроў, подсьвінкаў да аднаго году 143. Кароў 82, цялят да 1 году 40, подцелкаў 11, быкоў 15, коняй рабочых 135, жарабцоў 3, маладняку коняй да 3 год 9 штук, да 2-х год 21, да аднаго году 23 шт. Авец колгас мае 28 штук. Апрача гэтага амаль кожная колгасная сям'я мае ў сваім асабістым уладаньні па адной карове і некалькі штук сьвіней.

Абагуленых памяшканьняў колгас мае: для жыльля 5, гумен 69, хлявоў 29, сьвірнаў 5.

Сельска-гаспадарчы інвэнтар у колгасе маецца наступны: плугоў 120, барон 95, хамутоў 288, калёс 144, саней 98, малатарняў 3, прычым адна складаная, веялак 14, саламарэзак 8, карнярэзак 2, мялак 3, распашнікаў 9, сеялак 4, жатак 2.

У колгасе распачата вялікая будоўля. Пабудавана ўжо памяшканьне пад дзіцячыя яслі-пляцоўку на 70-80 чалавек, канчаецца пабудова сталоўкі, распачынаецца будаўніцтва стайні, скотнага двара, сьвінарніку і ізолятару для хворых сьвіней.

Пытаньне організацыі працы ў колгасе надзвычай важнае і разам з гэтым складанае і цяжкае пытаньне. Гэтаму пытаньню праўленьне колгасу аддае максымум увагі. Трэба адзначыць, што інструктажу з боку органаў колгаснай сыстэмы амаль ніякага няма. Праўленьне колгасу заяўляе, што адзінаю, сапраўднаю, рэальнаю дапамогаю ў справе організацыі працы ў колгасах зьяўляецца пэрыодычны друк, у прыватнасьці газэты. Жывы інструктаж адсутнічае. Інструктары Белколгасцэнтру прыяжджаюць на 2-3 гадз. у колгас і, зразумела, конкрэтнай дапамогі ў наладжаньні працы не аказваць. Справаю вывучэньня практыкі організацыі працы ў колгасах, справаю пераносу ва ўсе колгасы лепшых форм практыкі ў гэтай галіне павінны заняцца больш сур'ёзна органы колгаснай сыстэмы. Вялікую работу ў гэтым напрамку павінны разгарнуць навукова-дасьледчы Інстытут соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, Інстытут экономікі Беларускай Акадэміі Навук, Цэнтральнае бюро краязнаўства і рад іншых навуковых і навучальных устаноў. Разам з гэтым трэба паставіць у парадак дня пытаньне і аб перападрыхтоўцы колгаснага актыву. Тыя формы, якія зараз існуюць, яны ў самай мінімальнай ступені не забясьпечваюць перападрыхтоўку камандзіраў паасобных зьвеньняў нашага соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі. Поруч з стацыянарнымі і часовымі курсамі па перападрыхтоўцы колгаснага актыву, трэба шырока разгарнуць завочнае навучаньне, скарыстаць радыё і г. д. Словам, пытаньне організацыі праца ў колгасах, пытаньне перападрыхтоўкі колгаснага актыву зьяўляюцца актуальнейшымі

пытаньнямі сёнешняга дня і на вырашэньне гэтых пытаньняў павінна быць зьвернута асаблівая ўвага.

Як-жа арганізавана праца ў колгасе Шамаўшчына? Усе колгасьнікі па апрацоўцы зямлі разьбіты на 10 брыгад. У залежнасьці ад велічыні брыгада падзяляецца на групы — ад 3 да 5 груп. На чале брыгад і груп стаяць вылучаныя старэйшыя брыгадзіры і групаводы. Брыгады выконваюць розныя земляробчыя работы, праводзяць вучот і матар'ял перадаюць у кантору колгасу. Маюцца таксама брыгады па паасобных галінах жывёлагадоўлі, арганізавана брыгада цесьляроў, сталяроў. Колгас мае свайго шорніка і каваля.

Брыгады паміж сабою заключылі дагаворы па соцспаборніцтву. У дагаворы ўваходзяць наступныя абавязацельствы, якія ўзялі на сябе колгасьнікі для выкананьня: а) поўнае і сваечасовае выкананьне плянаў пасеўнай кампаніі; б) адрамантаваньне і наогул прывядзеньне ў парадак інвэнтару, які знаходзіцца ў карыстаньні брыгады; в) зьнішчэньне лодырніцтва; г) беражлівыя адносіны да колгаснай маемасьці; д) добраякасная работа па выкананьні плянаў пасеўнай кампаніі і наогул усіх сельска-гаспадарчых работ; е) разгортваньне крытыкі і самакрытыкі. Вось у асноўным пункты дагавору па соцспаборніцтве. Кожнаю брыгадаю вылучаны тройкі, якія праз вядомы час узаемна правяраюць выкананьне дагавораў.

Дзеля таго, каб актыў колгасу, а таксама кожны колгасьнік ведалі сваё месца ў гаспадарцы, ведалі правы і абавязкі распрацаваны пры ўдзеле шырокіх мас колгасьнікаў праўленьнем колгасу правілы ўнутранага распарадку. Сутнасьць гэтых правіл у наступным. Старшыня колгасу цалкам адказвае за становішча ўсіх галін гаспадаркі. Згодна пастановы агульнага сходу колгасу, тэрыторыя колгасу разьбіваецца на брыгадныя гаспадаркі. На чале брыгаднай гаспадаркі стаіць брыгадзір, вызначаны з ліку асоб, абраных у праўленьне колгасу. На брыгадзіраў ускладаюцца абавязкі весьці сталы падлік працоўнай і цягавай сілы, інвэнтару, кармоў, разьбіваць працоўную і цягавую сілу на групы, весьці табель-нарад брыгады і сваечасова даваць патрэбныя весткі канторы колгасу.

Для правільнага ўліку і арганізацыі працы, сваечасовага выхаду на работу, брыгадзіры ў сваёй брыгадзе разьбіваюць працоўную сілу на групы, вызначаючы ў кожнай групе старэйшага групавода. Групаводы кіруюць групай членаў колгасу, выконваючых спэцыяльную работу па тэй ці іншай галіне гаспадаркі (ворыва, сяўба, уборка, карменьне буйнай рагатай жывёлы, дойка кароў, догляд сьвіней і г. д.). Групаводы выконваюць фізычную работу, як і ўсе члены групы. Групаводы павінны ведаць добра тую работу, якая даручана групе. Яны павінны быць прыкладнымі ў рабоце для астатніх членаў групы сваімі сумленнымі і сьвядомымі адносінамі. З членамі колгасу групаводы павінны абыходзіцца па-таварыску, растлумачваючы ім як патрэбна выконваць работу. Асаблівую ўвагу групаводы павінны зьвяртаць на працуючых падлеткаў у групе. Абавязак групаводаў, як старэйшых таварышоў, навучыць працаваць, добра выконваць даручаную справу. Групаводы працуюць пад непасрэдным кіраўніцтвам загадчыкаў паасобных галін гаспадаркі і брыгадзіраў.

Правілы ўнутранага распарадку прадугледжваюць абавязкі радавых колгасьнікаў і колгасьніц.

У абавязкі брыгадзіраў і групаводаў уваходзіць штодзенны нагляд за рабочай жывёлай і інвэнтаром. Брыгадзіры і групаводы аб усякім выпадку захворваньня жывёлы, паломцы і наогул зьнішчэньні

інвэнтару і г. д. павінны тэрмінова паведамляць праўленьне колгасу. Правілы ўнутранага распарадку прадугледжваюць замацаваньне інвэнтару за паасобнымі колгасьнікамі. Даручаныя колгасьніку плуг, калёсы, хамут і г. д. павінны заўсёды быць у спраўным выглядзе. За ўсякую нядбайнасьць у адносінах да інвэнтару, за сьвядомае папсуцьцё колгасьнік нясе адказнасьць. Даручаную рабочую жывёлу колгасьнік павінен добра даглядаць, карміць, паіць і не дапушчаць ні ў якім разе



Мал. 3. Жарабец $3^1/_2$ год колгасу Шамаўшчына.

пабояў. Брыгадзіры і групаводы павінны сыстэматычна інфармаваць праўленьне колгасу аб становішчы гаспадаркі. За несваечасовае паведамленьне аб усялякіх стратах у гаспадарцы брыгадзір і групавод нясуць адказнасьць.

У сыстэме гаспадаркі маецца палявод. На палявода ўскладаюцца вялікія абавязкі. Палявод абавязаны весьці ўлік і разьмеркаваньне рабочай сілы, кіраваць работаю на полі, наглядаць, каб выконвалася рабочая праграма палявых работ, весьці ўлік ураджаю. Палявод павінен весьці работу ў цеснай сувязі з брыгадзірамі і групаводамі.

Загадчык гаспадарчаю часткаю, ён-жа кладаўшчык, павінен мець сталы ўлік наяўнасьці насеньня кожнай культуры паасобку. Ён адказвае за 100 проц. ачыстку і пратручваньне насеньня. Ён сочыць за становішчам усёй гаспадаркі колгасу, а іменна: за правільным даглядам жывёлы, за скарыстаньнем інвэнтару, ён выдае колгасьнікам продукты і г. д.

Загадчык жывёлагадоўчай і ў прыватнасьці сьвінагадоўчай гаспадаркі складае каштарысы кармоў для жывёлы, сочыць за рацыянальным скарыстаньнем кармоў, за нормамі выдачы кармоў жывёле. У абавязкі загадчыка жывёлагадоўлі ўваходзіць сачыць, каб даглядчыкі жывёлы своечасова давалі корм, паілі і падсьцілалі. Ён назірае і за вырашчваньнем маладняку. Аб нядбайнасьцях, злачынствах, калі яны ёсьць, тэрмінова паведамляе праўленьне колгасу.

У сувязі з шырока разгорнутым будаўніцтвам у колгасе вылучаны спэцыяльна старэйшы брыгадзір па будаўнічай частцы. Ён вядзе будаўнічыя работы, расстаўляе вызначаную яму рабочую сілу, разьбіўшы яе на групы ў адпаведнасьці з об'ектамі будаўніцтва.

Адказным у колгасе па садова-гароднай частцы зьяўляецца вызначаны праўленьнем колгасу загадчык, які з данай яму рабочай сілай вядзе гэтую галіну гаспадаркі. Абавязкі загадчыка садова-гароднай часткі наступныя: рацыянальна скарыстоўваць вызначаную яму рабочую сілу, мець сталы ўлік расходаў і даходаў ад ураджаю гэтай галіны гаспадаркі, пашыраць плошчу садова-гародных культур.

Правілы ўнутранага распарадку абавязваюць кожнага колгасьніка аб усякіх злачынствах, нядбайнасьці ў рабоце, безгаспадарчасьці, якія могуць праяўляцца з боку членаў праўленьня колгасу, загадчыкаў галінамі гаспадаркі, брыгадзіраў і групаводаў паведамляць агульнаму сходу, рэвізійнай камісіі і асьветляць праз друк. Правіламі ўнутранага распарадку цэлы рад абавязкаў ускладаюцца і на працаўнікоў канторы.

Зьдзельшчына ў колгасе Шамаўшчына адно з самых „вузкіх“ месц у сыстэме вядзеньня гаспадаркі. Праўда, з формальнага боку справа з здзельшчынай як-быццам і ня дрэнна абстаіць. Вось прыкладныя некаторыя нормы зьдзельных работ, якія распрацаваны праўленьнем колгасу і зацьверджаны агульным сходам:

Апрацоўка глебы.

| | Разрад. | Норма. |
|---|---|---|
| Ворыва 1-лямешным плугам | 3 | 0,50 га ў дзень |
| Ворыва 2-лямешным плугам | 4 | 0,80 га |
| Лушчэньне і ворыва лушчыльнікам | 3 | 1,50 га |
| Баранаваньне ў два сьляды | 3 | 1 га |
| „ скарынкі на пасеў | 3 | 2,50 га |
| „ спружыннаю 9-зуб. бар. | 3 | 1,50 га |
| Укатваньне засеву катком | 2 | 4 га |

Возка гною.

| | | |
|---|---|---|
| Возка гною на адлегласьці $^1/_2$ км | 1 | 15 ваз. |
| „ „ 1 „ | 1 | 10 „ |
| Накідваньне гною на вазы | 3 | 15 „ |
| Скідваньне гною з возу | 3 | 50 „ |
| Раскідваньне гною на полі | 3 | 30 „ |
| Раскідваньне штучнага ўгнаеньня | 4 | 1 га |

Сяўба.

| | | |
|---|---|---|
| Сяўба насеньня рукамі | 4 | 3 га |
| „ 8-радк. сашніковаю сеялкаю | 3 | 2 „ |
| „ 14 „ „ „ | 3 | 4 „ |
| „ траў планэтам | 3 | 1, 60 „ |
| „ канюшыны рукамі | 3 | 3 „ |

Нормы зьдзельных работ маюцца па ўсіх абсолютна відах гаспадаркі. Сяўба і ўборка гародніны, касьба і возка сена, уборка пасеваў, малацьба, догляд за жывёлаю і г. д., усё гэта прадугледжана ў нормах выпрацоўкі. Тыя работы, якія не прадугледжаны ў нормах выпрацоўкі, ацэньваюцца праўленьнем колгасу ў працаднёх і зацьвярджаюцца агульным сходам колгасьнікаў. Трэба адзначыць, што зьдзельшчына зьяўляецца самым лепшым стымулам зацікаўленасьці колгасьніка ў працы, узьняцьця продукцыйнасьці яе. Многія колгасьнікі нормы выпрацоўкі перавышаюць, асабліва ў галіне тых работ, дзе магчымы беспамылковы падлік працы. Вось, напрыклад, узяць возку гною. Тут звычайна на 50 проц. нормы выпрацоўкі большыя ў параўнаньні з нормамі, зацьверджанымі праўленьнем колгасу і агульным сходам колгасьнікаў. Вось чаму старшыні колгасу прыходзіцца іншы раз затрымоўваць імкненьні колгасьнікаў у справе максымальнай выпрацоўкі, бо апошняя дрэнна адбіваецца на стане цягавай сілы. Праўленьне колгасу разважае так: трэба ўсямерна форсаваць продукцыйнасьць працы, дабіцца максымальных норм выпрацоўкі, але гэта не павінна зьнішчаць цягавую сілу. Разважаньні праўленьня ў гэтых адносінах маюць рацыю.

У чым сутнасьць „вузкіх“ месц у ажыцьцяўленьні зьдзельшчыны, якія недахопы маюцца ў гэтай галіне работы? Асноўнае — гэта пытаньне ўліку працы, а між тым улік працы праводзіць вельмі цяжка. Справа ў тым, што зямля ў колгасе яшчэ не абмерана, у паасобных вучастках вельмі многа „абаркаў“, зарасьляй, ёсьць шмат кліноў, няправільных плошчаў, якія сіламі колгасу абмераць проста немагчыма. Колгасная зямля не разьбіта яшчэ на плодазьмены, на палі пад паасобныя культуры. Ёсьць шмат выпадкаў, калі сярод азімых сустракаюцца палоскі пасеваў ярыны і наадварот. Усё гэта надзвычай ускладняе пытаньне ўліку працы, пытаньні зьдзельшчыны.

Праўленьне колгасу Шамаўшчына шмат працуе над вырашэньнем задачы зьдзельшчыны. Ідуць гарачыя спрэчкі, як праводзіць абмер зямлі, хто гэтую работу павінен выконваць, даваць дакладна акрэсьленыя заданьні брыгадам загадзя, ці толькі вызначаць вучастак работы нагул, а потым рабіць улік працы. Калі вучастак нельга абмераць па тэй ці іншай прычыне, дык як рабіць улік працы — па колькасьці высеянага насеньня, ці якім-небудзь іншым шляхам.

Нельга не адзначыць яшчэ адной галіны гаспадаркі ў колгасе Шамаўшчына — гэта садоўніцтва. У бліжэйшы пэрыод удзельная вага садоўніцтва ў гаспадарцы колгасу будзе досыць значная. Колгас уладае 9 гектарамі старога саду. Гэты сад яшчэ 10-15 год пры належным даглядзе будзе даваць досыць добры ўраджай. Сад колгас атрымаў у мінулым годзе. Ён на працягу 12 год бязупынна арандаваўся мсьціслаўскімі нэпманамі. Арандатары сад давялі „да ручкі“. Ён быў такім запушчаным, што падлягаў выкарчоўцы. Атрымаўшы сад, колгас узяўся за культываваньне яго, за амаладжэньне. Праведзена была абрэзка сухога сучча, зьнята старая кара, узорана глеба, паложаны пад кожнае дрэва гной, праведзена вапнаваньне глебы, укладзена ўсяго каля 60 тон вапны. У гэтым годзе праведзены таксама работы па культываваньні саду. У выніку ўсяго гэтага сад у гэтым годзе дасьць даходу колгасу звыш 12 тысяч рублёў, ды і колгасьнікі атрымаюць некаторую частку фруктаў. Цьвіценьне саду паказвала, што гэты даход ня толькі рэальны, але ён будзе значна большым. Колгас апрача гэтага саду мае малады сад. Увосень мінулага году колгасам пасаджана 900 дрэў, на плошчы 15 га. Дзякуючы таму, што пасадка была пра-

ведзена добра, быў сыстэматычны дагляд зімою і вясною, дрэвы ўсе прыняліся і добра разьвіваюцца. Дагляд выратаваў сад ад марозаў і грызуноў. Плошча, на якой пасаджаны сад, у гэтым годзе скарыстоўваецца пад караньплоды. Колгас мяркуе плошчу саду ў бягучым і наступным годзе давесьці да 50 гэктараў.

Яшчэ адну галіну гаспадаркі можна значна разьвіць у калгасе Шамаўшчына—гэта пчалярства. Восеньню колгас меў 38 калод пчол. З прычыны нядбайных адносін пчаляра да сваіх абавязкаў, недагляду 10 калод пчол загінула ад марозаў. Справа з прыцягненьнем да адказнасьці пчаляра яшчэ ня скончылася. Трэба адзначыць, што калі сад у колгасе культываваны, дык пчалярства ў колгасе пастаўлена дрэнна. Гэтая галіна гаспадаркі вядзецца яшчэ барбарскім спосабам. Так пастаўлена пчалярста і ў другім вялікім колгасе Мсьціслаўскага раёну—Бязводзішча-Сапулова. Падставы для разьвіцьця пчалярства ўсе ёсьць і колгасы павінны зрабіць усё магчымае, каб разьвіць належным чынам гэтую галіну гаспадаркі.

Бязумоўна, гаспадарчае замацаваньне колгасу, рост продукцыйнасьці працы, укараненьне мэтодаў соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, беражныя адносіны да колгаснай маемасьці ў значнай ступені залежаць ад пастаноўкі політыка-выхаваўчай, культурна-асьветнай работы сярод колгасьнікаў. Гэтая галіна работы горш вядзецца, мае значна больш недахопаў, чымся іншыя галіны работы ў колгасе. Праўда, у колгасе ёсьць некаторыя дасягненьні ў галіне разгортваньня політычнай, культурна-асьветнай работы, аднак, гэтыя дасягненьні зусім нязначныя ў параўнаньні з тым, што можна было-б зрабіць, прымаючы пад увагу спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця гэтай работы.

Колгас мае нядрэнны клюб. Памяшканьне пабудавана пад клюб яшчэ ў мінулым годзе. У клубе можа зьмясьціцца больш за 300 чалавек. Памяшканьне клюбу сьветлае. Пабудавана ў клюбе добрая сцэна. Ёсьць радыё, гучнагаварыцель. Сьцены клюбу ўпрыгожаны плякатамі. Паміж плякатамі, дыяграмамі росту колгасу, фотоздымкамі з жыцьця і працы колгасу разьвешаны портрэты правадыроў рэволюцыі. У вочы кідаюцца лёзунгі, якія адбіваюць клясавую барацьбу, колгаснае жыцьцё, змаганьне за ўзьняцьце продукцыйнасьці працы.

Сапраўныя колгасьнікі і колгасніцы, ганеце з сваіх радоў лодыраў, разгільдзяеў, спэкулянтаў кулакоў!

Працоўная дысцыпліна — залог узмацненьня колгасу!

За зьдзельшчыну! Супроць зьдзельшчыны падкулачнікі і лодыры.

Старшыня колгасу тов. Сьцефанцаў, любоўна аглядаючы клюб, які пабудаваны з вялікімі цяжкасьцямі, кажа:

Клюб нам у рабоце па колектывізацыі вельмі дапамог. Мы тут з аднаасобнікамі сучаснымі колгасьнікамі праседжавалі дні і ночы, вядучы цярпліва політычную, растлумачальную работу сярод іх аб задачах партыі і савецкай улады па соцыялістычнай перабудове бядняцка-серадняцкай сялянскай гаспадаркі.

Пры клюбе маецца бібліотэчка, але большасьці кніжак ўстарэлых. Бібліотэка амаль што не папаўняецца новымі кнігамі. Колгас мяркуе ў хуткім часе ўстанавіць кіно-стацыянарку ў клюбе. Пры клюбе працуе драм-гурток, які складаецца з колгаснай моладзі. Драм-гурток досыць часта робіць пастаноўкі ў клюбе для колгасьнікаў, таксама оранізоўвае выезды ў суседнія колгасы. Пры клюбе ёсьць оркестар, які складаецца з гармошак, скрыпак і барабанаў. Ёсьць свае сьпевакі.

Трэба адзначыць, што райполітасьвет нічым не дапамагае колгасу ў разгортваньні культ-асьветнай работы. Ёсьць па раённым каштарысе

пасада хатніка для колгасу. Райполітасьветы хатніка не дае. Бібліотэка не папаўняецца кніжкамі. Настаўніцтва, якое знаходзіцца на тэрыторыі колгасу, таксама вельмі слаба прымае ўдзел у культурнамасавай рабоце. Між тым умовы для разгортваньня палітыка-выхаваўчай, культурна-асьветнай работы ў колгасе вельмі спрыяючыя. Члены праўленьня колгасу кажуць, што ў мінулым годзе можна было назіраць сярод колгасьнікаў, асабліва моладзі, частае п'янства, выпадкі хуліганства і г. д. У гэтым годзе такіх зьявішч не назіраецца Гэтыя дасягненьні ў галіне культурна-асьветнай работы зьяўляюцца вынікам самадзейнасьці самых колгасьнікаў. А між тым, калі-б райполітасьвет, настаўніцтва праявілі належную ініцыятыву і дапамаглі колгасу ў культмасавай рабоце, гэтыя вынікі былі-б у многа раз большымі.

Пры клюбе сыстэматычна выдаецца насьценная газэта. У газэце асьвятляецца ход палявых работ, выкрываецца кулацкая агітацыя, бічуецца лодырніцтва, разгільдзяйства. Ёсьць чырвоная і чорная дошкі.

Колгасьнікі надзвычай зацікаўлены сваёю газэтаю і на кожную заметку жыва рэагуюць.

Так жыве, працуе і разьвіваецца колгас Шамаўшчына.

---

Д-р З. К. Магілеўчык

# Зрухі і задачы санітарнага аздараўленьня вёскі ў сувязі з соцыялістычнай яе рэконструкцыяй.

## I.

Соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі зусім мяняе твар вёскі. „Место малопроизводительного, мелкого и отсталого единоличного крестьянского хозяйства занимает крупное, об'единенное коллективное хозяйство, вооруженное новой техникой и дающее высокую производительность. Наша страна, страна мелкого крестьянского хозяйства, разоренного до нищенства помещиками и кулаками, становится страной самого крупного, самого передового сельского хозяйства в мире“. (З пастановы VI Зьезду Саветаў СССР).

Санітарныя паказальнікі, як захворваньні, скажам, на эпідэмічныя і соц.-бытавыя хваробы, шчыльна зьвязаны з культурна-экономічнымі паказальнікамі вёскі. Зусім зразумела, што толькі соцыялістычная сыстэма сельскай гаспадаркі дае шырокія магчымасьці аздараўленьня працы і быту селяніна-бедняка і батрака. Організацыя сіл і сродкаў, пасьпяховы рост колектыўнай гаспадаркі, плянавасьць у вытворчасьці і разьмеркаваньні сіл і сродкаў зьяўляюцца той падставай, якая вырашае і дае магчымасьці практычнага ажыцьцяўленьня раду санітарных задач, якія былі зусім не пад сілу ва ўмовах індывідуальнай гаспадаркі, як, напрыклад, сапраўднае аздараўленьне ўмоў працы, хатня-бытавых умоў, харчаваньня, вадазабесьпячэньня і інш. Нават дзяржаўныя асыгнаваньні сродкаў на аздараўляючыя мерапрыемствы ў сыстэме старой вёскі, як паказала практыка мінулых гадоў, не маглі даць належных вынікаў,—сродкі драбіліся, распыляліся і часта не давалі эфэкту. Зусім іншае мы наглядаем у сыстэме організаванай соцыялістычнай гаспадаркі.

У сыстэме соцыялістычнай гаспадаркі мы зараз наглядаем, як організацыя ўсіх галін вытворчасьці сельскай гаспадаркі дае экономічна-культурны рост яе і зьмяняе нездаровы быт і прымітыўныя цяжкія формы працы.

Аднак, для правільнага вырашэньня санітарных задач у соцыялістычнай перабудове вёскі неабходна, каб пытаньні санітарнага парадку зьяўляліся неад'емнай часткай усіх галін соцыялістычнага будаўніцтва. Вывучэньне санітарнага стану колгасаў, сельска-гаспадарчых комун і саўгасаў у процэсе іх разьвіцьця будзе зьяўляцца грунтам для распрацоўкі конкрэтных плянаў аздараўляльных мерапрыемстваў, у па-

асобных конкрэтных выпадках. Натуральныя ўмовы і багацьці зьяўляюцца базай для разьвіцьця вытворчасьці і социяльна-экономічнага росту сельскай гаспадаркі, а з апошнім зьвязаны посьпех ажыцьцяўленьня санітарных мерапрыемстваў. Апрача гэтага, натуральныя ўмовы самі па сабе могуць зьяўляцца і адмоўнымі і дадатнымі санітарнымі фактарамі, а гэта значыць, што іх патрэбна прыстасоўваць і скарыстоўваць да патрэб і інтарэсаў здароўя колгасьнікаў. Галоўнымі і непасрэднымі об'ектамі санітарнага вывучэньня колгасаў, с.-г комун і саўгасаў зьяўляюцца: 1) пытаньні санітарнага рэгуляваньня, плянаваньня будаўніцтва і агульнага дабрабыту (вадазабесьпячэньне і інш.); 2) кватэрна-бытавыя ўмовы і кватэрнае будаўніцтва абагуленага быту; 3) харчаваньне; 4) санітарны быт колгасьнікаў і месцы санітарна-бытавога карыстаньня (лазьні, пральні); 5) санітарныя ўмовы працы і санітарнае становішча прадпрыемстваў, у прыватнасьці харчовых; 6) культурна-асьветная і мэдычна-санітарная справа ў сэнсе задавальненьня адпаведных патрэб колгасьнікаў і практычнай дзейнасьці іх у галіне аздараўленьня працы і быту і, урэшце, паказальнікі захворваньня, у прыватнасьці на эпідэмічныя і соцыяльна-бытавыя хваробы, якія адбіваюць сабой санітарнае становішча ўмоў, у якіх адбываецца праца і быт колгасьнікаў.

Трэба мець на ўвазе, што побач са зьменай старых форм вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы мяняецца форма і зьмест культурна-бытавога будаўніцтва вёскі, якое набліжаецца да будаўніцтва соцыялістычных гарадоў. Розьніцы ў гэтых адносінах (упарадкаваньне залюдненых месц, вадазабесьпячэньне, кватэрнае будаўніцтва і інш.) паміж соцыялістычным залюдненым прамысловым месцам і агро-індустрыяльным ня будзе. Зрухі культурна-бытавога парадку на вёсцы, якія маюць вялікае санітарнае значэньне, мы ўжо наглядаем; узяць, напрыклад, будаўніцтва грамадзкіх лазьняў, палепшаньне вадазабесьпячэньня, абагульненьне харчаваньня і выпадкі абагульненьня хатняга быту. Наяўнасьць рухавікоў і іншых сілавых установак дае магчымасьць зараз-жа ставіць пытаньне аб палепшаньні некаторых галін санітарна-комунальнага абслугоўваньня, як, напрыклад, мэханізаванай падачы вады ў аграмаджаных сэктарох і месцах санітарна-бытавога карыстаньня (лазьні і пральні) і інш. Але адзначанае будаўніцтва патрабуе пэўных санітарных норм рэгуляваньня яго і адпаведнай сувязі паасобных відаў будаўніцтва на данай тэрыторы (распляноўваньне).

На жаль, у гэтых адносінах зусім мала дакладных матар'ялаў і спэцыяльнай практыкі. Існуючыя старыя нормы і абгрунтаваньні патрабуюць вялікіх зьмен. Але без вывучэньня справы на месцы, без скарыстаньня жыцьцёвай практыкі высунутыя задачы цяжка выращыць. Дадатныя бакі і практыка, выяўленыя ў выніку вывучэньня, скарыстаем у далейшай практычнай нашай рабоце па організацыі здаровых форм культурна-бытавога будаўніцтва.

З санітарнымі ўмовамі свайго быту і працы павінен быць знаёмы кожны колгасьнік. Санітарны стан колгасу, сельска-гаспадарчай комуны і саўгасу павінен быць у цэнтры ўвагі ўсяго колектыву разам з доктарам пры вызначэньні конкрэтных аздараўляльных мерапрыемстваў і плянаваньня іх разам з іншымі галінамі будаўніцтва. Зьніжэньне і поўная ліквідацыя захворваньня, у прыватнасьці на эпідэмічныя і соцыяльна-бытавыя хваробы, зьяўляецца асноўнай нашай задачай у справе пабудовы новага соцыялістычнага быту.

Выходзячы з усяго вышэйадзначанага, і складзена паданая ніжэй плян-програма санітарнага вывучэньня колгасаў, сельска-гаспадарчых

комун і саўгасаў, якая зьмяшчае асноўныя моманты санітарнай характарыстыкі працы і быту данага колектыву ў сувязі з тымі асноўнымі момантамі социяльна-экономічнага парадку, з якіх вынікае сучаснае санітарнае становішча і далейшыя аздараўляльныя мерапрыемствы. Програма разьлічана ня толькі на знаёмых ужо з данай галіной працы, але і на шырокія масы колгасьнікаў. З гэтай прычыны кожнае пытаньне больш-менш дэталізавана, чаму і сама програма, якая па сутнасьці зьяўляецца програмай-інструкцыяй, выглядае быццам „вялікай“ і непасільнай. Па некаторых пытаньнях у паасобных выпадках магчыма і ня будзе яшчэ матар'ялаў, але выпусьціць іх з програмы нельга было.

## II

## Інструкцыйныя заўвагі да програмы.

1. Ня трэба думаць, што ў I і II разьдзелах програмы (натуральныя ўмовы і социяльна-экономічная база) мы ставім сабе задачу спэцыяльнага вывучэньня гэтых надзвычайна вялікіх галін. Мы тут закранаем толькі тыя паасобныя моманты (ужо нам вядомыя з іншых крыніц), без якіх немагчымы аналіз сучаснага санітарнага становішча і вызначэньне далейшых санітарных мерапрыемстваў.

2. Вельмі пажадана, каб цяперашняе становішча таго ці іншага парадку азначалася ў процэсе ходу разьвіцьця яго ў параўнаньні з папярэднім часам, умовамі разьвіцьця і інш.

3. Найбольшую каштоўнасьць будзе мець матар'ял тады, калі ў ім будзе больш конкрэтных даных; напрыклад, там, дзе стаіць пытаньне „колькасьць, разьмеры, велічыня і г. д.“—азначыць дакладнымі альбо хаця-б прыблізнымі лічбамі, а не абмяжоўвацца „многа, мала, вялікі і г. д.“.

4. Там, дзе гаворыцца аб якасьці, не абмяжоўвацца словамі—„добры, дрэнны і інш.“, а паказаць на конкрэтны прыклад, які-б сам гаварыў аб якасьці.

5. Усе ўказаньні разьмераў і вагі па магчымасьці азначаць прынятымі зараз мерамі (гектары, мэтры, кілёмэтры, грамы, кілёграмы і інш.).

6. Пры выкарыстаньні гатовых матар'ялаў, асабліва статыстычных, абавязкова ўказваць крыніцы іх (літаратура, даныя сельсавету, даныя колгасу і інш.).

7. Вельмі пажадана пры апісаньні санітарнага становішча жылых дамоў, прадпрыемстваў і інш. дадаваць іх схэматычны чарцёж.

8. Пры апісаньні некалькіх залюдненых пунктаў колгасу разам,—указваць сувязь іх паміж сабой і ў агульнай характарыстыцы азначаць паасобныя, найбольш характэрныя моманты, якія вынікаюць з асаблівасьцяй кожнага з іх.

9. Можна браць для вывучэньня і асобныя тэмы альбо разьдзелы програмы, толькі трэба ўвязаць іх з социяльна-экономічнымі момантамі і азначыць сувязь іх з іншымі пытаньнямі культурна-бытавога будаўніцтва.

10. Пад пунктамі ў програме „іншыя моманты санітарнай характарыстыкі“ трэба разумець тыя пытаньні, якія вынікаюць у процэсе працы з мясцовых асаблівасьцяй.

11. Лепш за ўсё працу праводзіць колектывам, які на месцы складаецца з актыву колгасьнікаў, мэдычных працаўнікоў, агрономаў,

тэхнікаў, настаўніцтва і інш., папярэдне абгаварыўшы кожны пункт програмы і даючы крытычную ацэнку ў процэсе ўсяе працы.

12. Апрацаваны або „сыры“ матар'ял дасылаць у адпаведныя часопісы для друку, напрыклад, у „Савецкую Краіну“ (Ц. Б. Кр.), зьмяшчаць асобнымі артыкуламі ў газэтах, насьценгазэтах і інш.

---

## Плян і програма санітарнага вывучэньня колгасаў, сельска-гаспадарчых комун і саўгасаў.

### НАЗВА КОЛГАСУ.

### I Санітарна-экономічная характарыстыка натуральных умоў.

1. Занятая колгасам *тэрыторыя* (агулам) і апісаньне рэльефу яе (раўніны, узвышшы, горы, нізіны, балоты, рэкі, азёры і г. д.) з азначэньнем яе географічнага палажэньня (лепш за ўсё ў адносінах да вядомага бліжэйшага залюдненага пункту).

2. Апісаньне пашыраных *парод глебаў*, парадку напластаваньня вядомых ваданосных горызонтаў (па нагляданьнях стромкіх берагоў рэк, глыбокіх ям, студняў, сьвідравальных шчылін і інш.).

3. *Натуральныя багацьці*, як база разьвіцьця сельскай гаспадаркі, прамысловасьці (мясцовай і агульнага значэньня) і аздараўляючых мерапрыемстваў:

Карысныя выкапні і іншыя крыніцы сыравіны для сельскай гаспадаркі і прамысловасьці (мінэральнае штучнае ўгнаеньне, гліны, пяскі, торф і лес прамысловага і будаўнічага значэньня, рыбныя багацьці, лекавыя расьліны, крыніцы мінэральных вод і інш.).

Увага: У апісаньні натуральных багацьцяў азначаецца месцазнаходжаньне іх на данай тэрыторыі, калі і кім былі заўважаны, колькасьць і занятая імі тэрыторыя, парода (лес) альбо склад (выкапні), мэта, спосаб і інтэнсыўнасьць скарыстаньня да і пасьля рэволюцыі, мерапрыемствы ў далейшым і інш. Пры гэтым трэба паказаць крыніцы, на якіх даны матар'ял грунтуецца (уласныя нагляданьні, са слоў іншых і каго, літаратурныя крыніцы і інш.).

4. *Характарыстыка клімату* па даных бліжэйшай мэтэоролёгічнае станцыі:

а) Колькасьць чыстых сонечных дзён, колькасьць дзён западкамі і характарападкаў (град, залевы), колькасьць падкаў (даныя па сэзонах году).

б) Абсолютная і адносная вільготнасьць (максымум, мінімум і сярэдняя па месяцах).

Увага: Пры адсутнасьці паблізу мэтэоролёгічнай станцыі можна даць прыблізную характарыстыку з уласных нагляданьняў, нагляданьняў школы, колгасу, саўгасу і інш., як, напрыклад, пачатак зімы, пачатак вясны, зьмены пагоды, характар ападкаў, месяцы з найбольшымі марозамі, гарачынёй і інш.

5. Іншыя моманты характарыстыкі натуральных умоў. Дадатныя і адмоўныя бакі натуральных умоў (глеба, клімат і інш.) у разьвіцьці паасобных сельска-гаспадарчых культур і жывёлагадоўлі (харчовага і прамысловага значэньня). Дадатныя і адмоўныя бакі для здароўя.

### II Гісторыя разьвіцьця колгасу і социяльна-экономічная база яго.

1. *Час узьнікненьня колгасу і організацыйныя моманты:*

а) Пачатак колгаснага руху і час організацыйнага аформленьня **данага колгасу**; б) клясавая барацьба пры організацыі колгасу, кіраўніцтва працай колгасу; в) барацьба з варожымі праявамі ў колгасе і па-за колгасам.

2. З якіх залюдненых пунктаў (назва іх) склаўся колгас. Процант колектывізаваных гаспадарак да агульнага ліку ўсіх гаспадарак паасобных вёсак на тэрыторыі данага колгасу. Соцыяльныя адзнакі колектывізаваных і неколектывізаваных індывідуальных гаспадарак (бядняцкія, батрацкія, серадняцкія і кулацкія — па даных с/савету). Рост колгасу за кошт новых прыліваў.

3. Колькасьць *абагуленай* зямлі з азначэньнем паасобку пахаці, сенажаці, гародаў, няўжыткаў і інш. Суседнія колгасы і адлегласьць іх.

4. Спэцыялізацыя колгасу (зернавы, жывёлагадоўчы, садова-гародны, мяшаны). *Таварнасьць* колектыўнай гаспадаркі ў параўнаньні з індывідуальнай.

5. Колькасьць і від абагуленай жывёлы і прырост за час існаваньня колгасу. Жывёла індывідуальнага карыстаньня (агулам і ў сярэднім на 1 сям'ю).

6. Абагуленыя і набытыя за час існаваньня колгасу сродкі вытворчасьці: сельска-гаспадарчы інвэнтар, трактары і інш. машыны (колькасьць найбольш каштоўных і кошт усяго разам).

7. Абагуленыя і навапабудаваныя будынкі колектыўнага прызначэньня і карыстаньня — культурна-бытавыя і гаспадарчыя (колькасьць і кошт усіх разам).

8. Валавы і чысты прыбытак колгасу па галінах вытворчасьці і ад іншых паступленьняў.

9. Месцы збыту альбо скарыстаньня лішкаў сельска-гаспадарчай продукцыі (здача дзяржаўным і коопэрацыйным організацыям, пераапрацоўка на месцы і інш.).

10. Наяўнасьць у колгасе *прадпрыемстваў* (і якіх) па апрацоўцы і пераапрацоўцы сельска-гаспадарчых продуктаў і натуральных багацьцяў, валавая продукцыя (у грошах), месцы збыту продукцыі і прыбытак.

11. *Колькасьць* колгаснага *насельніцтва*: агульная, па полу, узросту, нацыянальнаму складу, колькасьць сем'яў. Наяўнасьць працаздольных і непрацаздольных (апрача дзяцей). Недахват і лішкі рабочай сілы, папаўненьне недахвату рабочай сілы і скарыстаньне лішкаў.

12. *Прынцыпы і формы разьмеркаваньня* прыбыткаў: па едаках, па прынцыпу зьдзельшчыны, мяшаны. Максымальны, мінімальны і сярэдні прыбытак (выпрацоўка) на працаздольнага і сям'ю ў грошах і натурай (у грашовай суме).

13. Пабочныя заработкі колгасьнікаў: якія (адыходныя, саматужныя промыслы і інш.), іх характарыстыка, колькі сем'яў займаецца імі, прыбытак у сярэднім на адну сям'ю, адлічэньні ў прыбытак колгасу, формы рэгуляваньня пабочных заработкаў кіраўніцтвам колгасу.

14. *Перавагі колектыўнай формы сельскай гаспадаркі* (у даным колгасе) у параўнаньні з індывідуальнай: экономія сіл, сродкаў і працоўнага часу, палепшаньне ўмоў працы, экономічны эфэкт (прыбытак на душу раней і цяпер), палепшаньне культурна-бытавых умоў і інш.

15. Вытворчы і фінансавы плян разьвіцьця колгасу (контрольныя лічбы па асноўных галінах вытворчасьці, на культурна-бытавое будаўніцтва і аздараўляючыя мерапрыемствы.

16. Іншыя моманты характарыстыкі соцыяльна-экономічнага становішча колгасу, з якімі зьвязаны санітарны стан і мерапрыемствы па аздараўленьні працы і быту (дасягненьні, недахопы і пэрспэктывы).

## III Агульнае санітарнае ўпарадкаваньне залюдненых месц колгасу

### А. Агульнае ўпарадкаваньне і дабрабыт.

1. *Назва* залюдненага пункту і характарыстыка *рэльефу тэрыторыі* яго (узвышшы, нізіны, схілы і інш.); абарона ад вятроў, адлегласьць ад адкрытых вадазбораў і балот (назва іх), ад лясоў, ад бліжэйшых шляхоў зносін, адміністрацыйных і культурных пунктаў.

2. Характарыстыка глебы залюдненага пункту (пяшчаная, глінiстая і інш.), вільготнасьць глебы, ровень і хістаньні глебавых вод (глыбіня да першага пласта вады па назіраньні ў студнях).

3. *Схэма плянаваньня.* Жылая зона і іншыя спэцыяльнага прызначэньня (адміністрацыйная, гаспадарчая, прамысловая і інш.). Адлегласьць і сувязь паасобных зон між сабой. Пляцы агульнага карыстаньня і спэцыяльнага прызначэньня (школьныя, для фізкультуры, адпачынку і інш.), разьмеры іх і разьмяшчэньне. Шырыня вуліц і завулкаў, іх кірунак адносна бакоў сьвету і ў схэме расплянаваньня.

Увага: Гэты пункт датычыцца пераважна новапабудаваных альбо перабудаваных старых вёсак. Вёска старога ладу ў сваім плянаваньні вельмі прымітыўна.

4. Характарыстыка дабрабыту вуліц і пляцоў грамадзкага карыстаньня (дрэванасаджэньні і пароды дрэваў, кветкі, брук, насьціл, канавы, ямы, лужыны і інш.).

5. *Характарыстыка перабудовы* (пераплянаваньня) старых вёсак, выходзячы з соцыялістычных форм і патрэб сельскай гаспадаркі і соцыялістычнага быту колгасьнікаў (што зроблена, што намячаецца і хто прапрацоўвае).

6. *Блізасьць гаспадарчых будынкаў* (жывёльных двароў і якіх) і ўплыў іх на забрудненьне жылой зоны.

7. Меры і способы *падтрыманьня чыстаты* вуліц, пляцоў грамадзкага карыстаньня (зьбіраньне і выдаленьне нячыстот і адкідаў).

8. Способы вывазу нячыстот і адкідаў, ужываныя для гэтага прылады, час і дакладнасьць вывазу паасобных нячыстот. Способы і месцы абясшкоджаньня ці скарыстоўваньня нячыстот (для ўгнаеньня палёў і інш.) Недахопы і патрэбныя мерапрыемствы.

Увага: Пры наяўнасьці каналізацыі апісаць схэму пабудовы каналізацыі і карыстаньне ёю паводле пункту аб вадаправоднай сетцы (гл. ніжэй) з дадаткам способаў ачысткі і абясшкоджаньня сточных вод (ачыстка праз глебу, адстойнікі, фільтры, спуск у вадаёмы і інш.). Характарыстыка зьбіраньня і выдаленьня нячыстот і адкідаў з паасобных месц карыстаньня даецца разам з іншай характарыстыкай санітарнага становішча іх.

### Б. Вадазабесьпячэньне і вадакарыстаньне.

1. Характар вадазбораў для карыстаньня піцьцёвай вадой, для гаспадарчых і вытворчых патрэб: адкрытыя (рэкі, азёры, крыніцы і інш.), закрытыя (студні).

2. Характарыстыка адкрытых вадазбораў: а) напрамак рэк, шырыня, глыбіня, хуткасьць цячэньня іх, характар берагоў і дна; б) азёры, плошча іх, зьмена вады, глыбіня, характар берагоў і дна; в) палажэньне адносна залюдненых пунктаў; способы дастаўваньня вады; д) прычыны забруджаньня вады (мыцьцё бялізны, могілкі, вулічныя сьцёкі і г. д.).

3. Характарыстыка студняў: а) якія (тыпы) і колькасьць; б) час пабудовы; в) месца, дзе знаходзяцца студні (двары, вуліцы і г. д.); г) адлегласьць аднае студні ад другой (максымальн., мінімал., і сярэдняя);

д) будаўнічы матар'ял і тэхніка пабудовы; і) спосаб даставаньня вады (вочап, чарпак, калаўрот, агульнае вядро і інш.); к) прычыны забруджаньня (дрэнная пабудова, няспраўнасьць зрубу, хлявы, вадапой, вулічныя сьцёкі і г. д.), л) спосабы абароны ад забруджаньня (накрыўкі, брук, схілы ад студні); м) глыбіня студняў у мэтрах (ад роўню глебы да дна); н) апісаньне пластоў глебы, праз якія выкапаны студні, таўшчыня іх (са слоў жыхароў, якія бачылі капаньне студні); о) колькасьць вады, прычыны недастачы (выбіраньне, высыханьне, замярзаньне).

4. *Сьвідравальныя студні.* Глыбіня, тып (артэзіянскія, абісінскія), характарыстыка вадакарыстаньня імі (хто, на якія патрэбы, спосаб разбору вады і інш.).

5. Характарыстыка іншых вадазбораў, з якіх карыстаюцца піцьцёвай вадой паводле пунктаў 2 і 3.

6. Магчымасьці пабудовы *вадаправоду і скарыстаньне пры гэтым наяўных рухавікоў* (трактара і інш.), электраэнэргіі і сілы ветру. Сучаснае скарыстоўваньне рухавікоў для мэханізаванай падач вады (накачкі) у лазьні, пральні, для вадапою аграмаджанай жывёлы і інш. грамадзкіх і вытворчых патрэб.

Увага; Пры наяўнасьці вадаправоду адзначыць: а) крыніцу, з якой набіраецца вада; б) спосаб падачы (набіраньне і пад'ёма вады) і пабудовы для гэтага; в) вадаправодная сетка (матар'ял труб, працяжэньне, укладка іх і інш.), г) об'екты, якія абслугоўваюцца вадаправодам (вытворчасьць, дамы, скотныя двары і інш.); д) спосаб вадакарыстаньня (унутраныя ўводы, надворныя вадаразборныя краны,— іх месца і колькасьць); е) ступень задавальненьня вадаправоднай вадой; ж) эксплёатацыя, тэхнічны і санітарны нагляд; з) недахопы, меры палепшаньня, пашырэньня і інш.

7. Прыгоднасьць *вадазабясьпечнай сыстэмы для гашэньня пажараў* у сэнсе колькасьці і здабычы вады.

8. *Санітарная ахова* крыніц вадазабесьпячэньня (мерапрыемствы і нагляд). Якасьць вады на спробу (колер, пах, смак, празрыстасьць, тэмпэратура і іншыя адзнакі), а калі вада дасьледуецца лябораторна, дадаць характарыстыку паводле аналізаў.

9. Колькі літраў вады ў сярэднім ужываецца на душу ўзімку і ўлетку на хатня-бытавыя, на гаспадарчыя і вытворчыя патрэбы.

10. Ужытыя колгасам меры і далейшыя мерапрыемствы па палепшаньні вадазабесьпячэньня (што зроблена, што намячаецца па пляну і што трэба зрабіць).

## IV Кватэрна-бытавыя ўмовы.

### А. Кватэрныя ўмовы.

1. Характарыстыка сядзібных *жылых вучасткаў* паводле: а) колькасьці і размераў іх; б) тыпу забудоўлі, колькасьці будынкаў і іх прызначэньня; в) колькасьці вольных пляцоў і іх прызначэньня; г) санітарнага дабрабыту і захаваньня супроць-пажарных мерапрыемстваў (меры для захаваньня сухасьці сьцёку вод, дрэванасаджэньні, разрывы паміж будынкамі, нагляд за чыстатой і парадкам і інш.); д) іншых момантаў санітарнага становішча і недахопаў.

Увага: Характарыстыка сядзіб даецца паасобку абагуленага і індывідуальнага карыстаньня (у вёсках яшчэ не перабудаваных у хатня-бытавых адносінах). Гэта самае трэба мець на ўвазе і ў іншых пытаньнях кватэрна-бытавых умоў.

2. *Палепшаньне* санітарнага стану *старых двароў* у сувязі з абагульненьнем жывёлы і вытворчых гаспадарчых працэсаў. Час і пара-

дак будаўніцтва паасобных об'ектаў *абагуленага быту:* жылых будынкаў, будынкаў агульна-бытавога прызначэньня—сталовай, дзіцячых садоў, ясьляў, пральняў, лазьняў і інш.

3. *Тыпы* будынкаў паводле пабудовы іх (конструкцыі) і разьмяшчэньня адносна старонак сьвету, будаўнічага матар'ялу (дрэва, цэгла, гліна, гальлё, саман, бэтон і інш.) Наяўнасьць мясцовых будаўнічых матар'ялаў. Тэхніка пабудовы і матар'ял паасобных конструкцый: а) падмурак і цокаль (глыбіня, адтуліны для праветрываньня); б) сьцены (таўшчыня, ізоляцыя ад глебавай вільгаці і інш.); в) столь (шчытнасьць насьцілу, ацяпленьне і інш.); г) падлога (падвойная ордынарная, характарыстыка насьцілу і інш.); д) падпадложжа (вышыня, ацяпленьне, праветрываньне і інш.); е) страха (матар'ял). Знадворнае аздабленьне будынку (тынкаваньне і інш.), абарона сьцен ад прамаканьня мэтэорнымі (дажджавымі і сьнегавымі) водамі. Трываласьць і спраўнасьць будынку і апошні рамонт.

4. Унутранае *плянаваньне* жылых будынкаў па колькасьці кватэр альбо жылых ячэек, пакояў у іх і прызначэньне; характарыстыка ўнутраных перагародак (матар'ял, гукаправоднасьць і інш.); наяўнасьць корыдораў і іх характарыстыка (бакавыя, сьветлыя, унутраныя, шырыня і даўжыня іх і інш.). Іншыя памяшканьні ў жылых будынках і іх прызначэньне ў умовах абагуленага быту: сталоўкі, ясьлі, бібліотэка, чытальня і інш.; разьмяшчэньне іх і ўмовы карыстаньня. Унутраныя прыбіральні. Характарыстыка іх паводле пабудовы (вадзяныя, натраныя), разьмяшчэньня і ўмоў карыстаньня. Характарыстыка дзьвярэй знадворных і ўнутраных.

5. Разьмеры: унутраная агульная плошча паасобных памяшканьняў па прызначэньні; унутраная вышыня сьцен (ад падлогі да столі) і знадворная.

6. Унутраная аздоба і стан яе (тынкаваньне, пабелка, шпалеры і інш.).

7. *Натуральнае асьвятленьне:* адносіны агульнай сьветлавой плошчы акон да плошчы падлогі, форма акон, наяўнасьць падвойных і ордынарных акон, наяўнасьць і колькасць фортак для зімняга карыстаньня. *Штучнае* асьвятленьне, від, прылады для гэтага і недахопы.

8. *Ацяпленьне*: характарыстыка прылад ацяпленьня (печак) і інш. паводле іх тыпу, пабудовы, матар'ялу, разьмяшчэньня, занятай плошчы і кубатуры, расходу апалу (і якога) ў зімнія месяцы. Захаваньне цяплыні ў зімовы час; сутачныя хістаньні цяплыні, прычыны хатняга холаду і хістаньняў цяплыні (дрэннае ацяпленьне і няспраўнасьць будынку—сьцены, падмурак і інш, ордынарныя вокны, няспраўнасьць печак, недахват апалу, прамярзаньне сьцен і інш.).

9. Спосабы *праветрываньня* (форткі, печы і характарыстыка карыстаньня імі ўзімку для праветрываньня).

10. Вільготнасьць, дзе, у якія часы году, ступень яе і прычыны (вялікая залюдненасьць, вільгаць глебы і адсутнасьць ізоляцыі сьцен, ордынарныя вокны, адсутнасьць праветрываньня, мыцьцё бялізны, дрэнны догляд за памяшканьнем і інш.). Наяўнасьць грыбка дрэвазьнішчальніка і барацьба з ім.

11. *Залюдненасьць*: залюдненасьць паасобных дамоў і кватэр, жылая плошчы і кубатура на душу.

### Б. Санітарны быт насельніцтва.

1. *Абсталяваньне кватэры*: форма, назва і якасьць паасобных рэчаў, іх прызначэньне і разьмяшчэньне.

2. Вытворчая і гаспадарчая праца ў кватэры, характарыстыка яе (хатняе рамяство, мыцьцё бялізны, догляд жывёлы і інш.) і ўплыў на жыльлёвыя ўмовы. Вызваленьне кватэры ад вытворчых і гаспадарчых процэсаў у сувязі з абагульненьнем сельскай гаспадаркі.

3. *Сон і ўмовы для гэтага*: характарыстыка месц для спаньня, якасьць, разьмеры, формы іх і інш. Сталыя месцы спаньня ці выпадковыя. Спэцыяльныя пасьцельныя рэчы, дастатак іх, як часта мяняецца пасьцельная бялізна. Паколькі асоб дзяцей, дарослых разам сьпяць. Колькі, з якога і па які час сьпяць узімку і ўлетку дарослыя і дзеці. Іншая характарыстыка ўмоў сну.

4. *Падтрыманьне асабовай чыстаты.* Характарыстыка штодзеннага ўмываньня (раніцою, увечары, перад ядой і інш.), частата, месцы і спосаб умываньня (рукамыйнікі, міскі і інш.). Рушнікі і карыстаньне імі (агульныя, паасобныя). Абмываньне ўсяго цела дарослымі і дзецьмі ў розныя часы году, частата, месца і спосаб мыцьця (лазьня, душы, рэчка ўлетку і інш.). Якасьць нацельнай бялізны (матар'ял, фасон і інш.), частата зьмены бялізны ў розныя часы году. Ужываньне мыла, колькасьць мыла параўнаўча з патрэбнасьцю.

5. *Догляд за чыстатой і парадкам*: а) способы прыбіраньня і падтрыманьня чыстаты і парадку паасобных кватэр і памяшканьняў агульнага карыстаньня (корыдораў, прыбіральняў і інш); б) способы і месцы зьбіраньня нячыстот і адкідаў: дваровыя прыбіральні, сьмяцьцёвыя скрынкі, памыйніцы, выграбныя ямы, кампосныя кучы і інш. Характарыстыка месц зьбіраньня паводле пабудовы іх, сувязі з жылымі памяшканьнямі і крыніцамі вадазабесьпячэньня, спраўнасьці, ачысткі і інш. Меры барацьбы з распладжэньнем мух у месцах скапленьня нячыстот. Зьбіраньне ўтыльсыравіны.

6. *Наяўнасьць блох, клапоў, прусакоў, тараканаў і ншых паразытаў*. Наяўнасьць мышэй і пацукоў. Меры барацьбы з мухамі і іншымі паразытамі, пацукамі і мышамі.

7. *Санітарныя звычаі жыхароў у хатнім побыце* (выціраньне брудных ног, адносіны да чыстаты і парадку і інш.). Захаваньне цішыні і наогул узаемаадносіны паміж жыльцамі ў дамох абагуленага быту. Скарыстаньне вольнага часу ў хатнім і грамадзкім быце моладзьдзю і дарослымі.

8. Іншыя моманты ў характарыстыцы санітарнага быту.

9. Дасягненьні ў аздараўленьні кватэрна-бытавых умоў у выніку колектывізацыі сельскай гаспадаркі (у прыватнасьці ў выніку абагульненьня быту), недахопы, намечаныя плянам колгасу мерапрыемствы, неабходныя і магчымыя для сапраўднага аздараўленьня ўмоў працы і быту.

### В. Харчаваньне.

1. Характарыстыка харчаваньня (індывідуальнае, грамадзкае, мяшанае). Колькасьць жыхароў, аб'яднаных грамадзкім харчаваньнем і якімі відамі (сьнеданьне, абеды, вячэра, цалкам), колькасьць ва ўмовах індывідуальнага харчаваньня. Організацыйныя прынцыпы грамадзкага харчаваньня і недахопы (пастаноўка падліку, кадры, абсталяваньне і інш.).

2. Крыніцы атрыманьня харчовых продуктаў для грамадзкага і індывідуальнага харчаваньня (колгас, коопэрацыя, неабагуленая частка гаспадаркі — малако, дробная жывёла, гародніна). Сыстэма і спосаб загатоўкі харчовых продуктаў, у прыватнасьці для грамадзкага харчаваньня, месцы і ўмовы хаваньня харчовых продуктаў і ў сувязі з гэтым якасьць іх.

3. Характарыстыка ўжываных продуктаў па іх паходжаньні (расьлінныя і жывёльныя) і колькасьці (на душу ў дзень па порах году, выходзячы з падліку за два тыдні ўжытых продуктаў у лютым, маі, жніўні і кастрычніку). Вызначаныя нормы харчаваньня і продукты, з якіх яны складаюцца.

4. Асноўныя гатункі стравы па порах дня (сьнеданьне, абед, і вячэра) і па порах году. Спажыўнасьць і смак страў. Якасьць хлеба. Ужываньне сьвежай гародніны і фруктаў.

5. Час яды ўранку, удзень і ўвечары (выпадковы, пэўна ўстаноўлены), якасьць ўжываных прылад харчаваньня і карыстаньня ім (агульнае, паасобку), утрыманьне прылад у чыстаце (спосаб мыцьця, месца і ўмовы хаваньня) і інш.

УВАГА: Плян і програма спэцыяльнага абсьледваньня сталоўкі грамадзкага харчаваньня дадаецца ніжэй.

6. Організацыя, якасьць і ўмовы харчаваньня на палявых работах (прыгатаваньне гарачае стравы на месцы працы, дастаўка ў тэрмосах, умовы прыёму — захаваньне чыстаты, прылады, месца і інш.).

7. Характарыстыка ўмоў і якасьці дзіцячага харчаваньня (дашкольнага і школьнага ўзросту).

8. Дасягненьні ў палепшаньні якасьці і ўмоў харчаваньня з часу колектывізацыі, недахопы і далейшыя плянавыя мерапрыемствы, у прыватнасьці па лініі вытворчасьці сельска-гаспадарчых продуктаў жывёльнага і расьліннага паходжаньня і організацыі грамадзкага харчаваньня (будаўніцтва, абсталяваньне і інш.). Перавагі харчаваньня ў умовах колектывізацыі ў параўнаньні з умовамі індывідуальнай гаспападаркі, у прыватнасьці бядняцкай.

9. *Іншыя* моманты ў характарыстыцы харчаваньня колгасьнікаў.

### Г. Месцы санітарна-бытавога назначэньня і карыстаньня.

1. Наяўнасьць *лазьняў* і *пральняў*. Карыстаньне імі (супольнае, індывідуальна-сямейнае), месцазнаходжаньне, час пабудовы, конструкцыя (тып і матар'ял), унутранае распляніраваньне і разьмеры, агульныя і паасобныя памяшканьні па прызначэньні, абсталяваньне (мэбля, спэцыяльныя прылады); мэханізацыя вытворчых процэсаў (падача вады і інш.). Асьвятленьне, ацяпленьне і інш.

2. Характар эксплёатацыі і прапушчальная здольнасьць. *Утрыманьне* ў чыстаце і спраўнасьці. *Задавальненьне* адпаведных патрэб колгасьнікаў, недахопы і якія ўжыты меры ў даным напрамку. Неабходныя *мерапрыемствы* па палепшаньні існуючага і новае будаўніцтва; патрэбныя мерапрыемствы ў плянах колгасу па будаўніцтву новых месц санітарна-бытавога карыстаньня.

3. *Іншыя* моманты.

## V Умовы працы.

### А. Сельская гаспадарка.

1. *Організацыйныя формы і падлік працы* (працадні, норма выпрацоўкі, зьдзельшчына і інш.). Ужываньне социялістычных мэтодаў працы (мэтод брыгаднай працы, соцспаборніцтва і ўдарніцтва). Харак-

тарыстыка паасобных форм і мэтодаў працы па галінах (палявыя работы, малацьба, работы на гародзе, на сенажаці, работы па жывёлагадоўлі і інш.). Прынцыпы разьмеркаваньня рабочай сілы па паасобных галінах працы.

2. Максымальны і мінімальны працоўны дзень і розныя поры году ў паасобных галінах працы, мужчын і жанчын.

Сувязь з месцам палявых работ (адлегласьць ад жыльля, транспорт і інш.). Іншая характарыстыка санітарных умоў працы ў асноўнай вытворчасьці (працяжнасьць працоўнага дня, адпачынкі, умовы харчаваньня і інш.). Характарыстыка ўдзелу дзяцей у працы.

3. Ступень *машынізацыі і мэханізацыі* паасобных вытворчых процэсаў. Сельска-гаспадарчы траўматызм [1]), які пераважна, прычыны гэтаму (няўмелае і неасьцярожнае карыстаньне машынамі, нядбайнасьць у часе працы, цесната, брак асьвятленьня і інш.).

4. Характарыстыка організацыі ўмоў працы жанчын цяжарных, жанчын з груднымі дзецьмі, хворых і дзяцей.

5. *Бытавое абслугоўваньне* колгасьніц у часе летняй працы: дзіцячыя, сады, ясьлі і інш., задавальненьне існуючых патрэб.

6. *Вынікі колектыўнай працы* і ўжываньня соцыялістычных мэтодаў у ёй (палепшаньне ўмоў працы, экономія часу, павышэньне продукцыйнасьці і інш.). Існуючыя організацыйныя і іншыя недахопы і далейшыя мерапрыемствы па іх ліквідацыі.

Б. Прамысловасьць.

1. Існуючая прамысловасьць (прадпрыемствы, якія), пэрспэктывы пашырэньня і новага будаўніцтва, выходзячы з наяўнасьці натуральнай сыравіны і разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

2. Санітарны стан прадпрыемстваў і ўмовы працы (паводле праграмы ўмоў працы ў сельскай гаспадарцы і прыложанага пляну санітарнага дасьледваньня прадпрыемстваў (гл. дадатак).

## VI Культурна-асьветная справа

1. Пісьменнасьць і культурна-політычны ровень колгасьнікаў раней і цяпер. Ахоп школай дзяцей школьнага ўзросту. Праца школы і іншых культурна-асьветных устаноў па популярызацыі санітарна-гігіенічных звычак сярод дзяцей і дарослага насельніцтва. Наяўнасьць санітарна-асьветнай літаратуры і карыстаньне ёю.

2. Віды *грамадзкай культурна-масавай працы* (гурткі і якія, кіно, радыё, лекцыі і інш.). Удзел у грамадзкай працы паасобных груп колгасьнікаў. Роля шэфаў у культурна-асьветнай працы сярод колгасьнікаў. Галоўныя моманты і зьмест культурна-масавай працы. Наяўнасьць рэлігійнасьці, п'янства і хуліганства, прычыны гэтага і меры змаганьня з імі.

3. *Фізкультура* ў школе і сярод дарослых, віды яе, месца, час і ўмовы правядзеньня.

4. *Санітарны стан культурна-асьветных устаноў*: школ, хат-чытален, клюбаў, сельсаветаў і інш. Характарыстыка іх пабудовы, абсталяваньня, утрыманьня ў частаце і інш.

5. *Школьны рэжым*: працоўны час, перапынкі і адпачынкі, бытавыя ўмовы далёкіх вучняў і інш. Фізычны стан школьнікаў па даных мэдагляду.

[1]) Пашкоджаньні.

6. Уплыў культурнага росту на перабудову быту (паказаць найбольш яскравыя прыклады).

7. Пэрспэктывы культурна-асьветнага будаўніцтва (школьнага і іншага).

## VII Мэдычна-санітарная справа.

1. Забесьпячэньне мэдыка-санітарнай дапамогі раней і цяпер. Патрэбы і задавальненьне паасобнымі відамі дапамогі (лячэбна-профіляктычнай, акушэрскай, дзіцячымі консультцыямі, зубной, санітарнай і інш. спэцыяльнымі відамі). Мэдыка-санітарныя ўстановы па абслугоўваньні данага колгасу і месцазнаходжаньне іх (мэд. пункты, дыспансэры, консультацыі, ясьлі, больніцы, санітарныя ўстановы і інш.). Праца мэдыка-санітарных устаноў па аздараўленьні колгасьнікаў (зьмест, мэтод працы і недахопы). Матар'яльнае і санітарнае становішча мэдыка-санітарных устаноў і галоўныя недахопы. Наяўнасьць шаптуноў і барацьба з імі.

2. *Грамадзкія організацыі па аздараўленьні працы і быту колгасьнікаў* (санітарныя камісіі, саветы соцыяльнай дапамогі, камісіі аховы працы, ячэйкі чырвонага крыжу і інш.); іх дзейнасьць (зьмест і об'екты дзейнасьці, мэтод працы, матар'яльная база і недахопы). Удзел і самадзейнасьць шырокіх мас колгасьнікаў у галіне аздараўляльных мерапрыемстваў. Сродкі на аздараўляльныя мерапрыемствы, крыніцы іх і мэты прызначэньня (на санітарную ахову працы, на лазьні, пральні, вадазабесьпячэньне, санітарнае ўтрыманьне месц грамадзкага карыстаньня і інш.). Кіраўніцтва грамадзкімі санітарнымі організацыямі з боку мэдыка-санітарных устаноў.

3. *Эпідэмічныя захворваньні* (сыпны і брушны тыфус, крываўка і інш.) і соцыяльна-бытавыя хваробы (сухоты, сыфіліс, трахома, кароста) па даных мэдыка-санітарных устаноў. Галоўныя прычыны гэтых хвароб. Агульная ацэнка захворваньня ў параўнаньні з мінулымі гадамі і даваенным часам.

4. *Інваліднасьць, калецтвы* і прычыны гэтага. Агульны лік непрацаздольных рабочага ўзросту (па даных сельсавету, праўленьня колгасу і мэдычнай установы).

5. Дасягненьні ў разьвіцьці аздараўляльных мерапрыемстваў (галоўныя галіны і моманты) з часу організацыі колгасу і ў сувязі з гэтым палепшаньне ўмоў працы, бытавых умоў і фізычнага стану колгасьнікаў. Пэрспэктывы разьвіцьця мэдыка-санітарнага абслугоўваньня і аздараўляльных мерапрыемстваў на бліжэйшыя гады і адбітак гэтага ў плянах колгасу.

## VIII Агульныя вывады.

У агульных вывадах адзначаюцца галоўныя моманты росту соцыяльна-эканомічнай базы колгасу і на грунце гэтага дасягненьні ў паасобных галінах і момантах аздараўленьня працы і быту. Адначасова адзначаюцца дадатныя і адмоўныя бакі організцыйных форм і мэтодаў працы, ажыцьцяўленьня аздараўляльных мерапрыемстваў, з чым зьвязаны вынікі і посьпех апошніх. І, урэшце, выходзячы з пэрспэктыў разьвіцьця колгасу, сельска-гаспадарчай комуны, саўгасу і сучаснага дабрабыту іх, — адзначыць найбольш важныя і неабходныя моманты разьвіцьця аздараўляльных мерапрыемстваў.

*Дадатак.*

I

**Прыкладны плян абсьледваньня санітарнага стану прамысловага прадпрыемства.**

1. *Месцазнаходжаньне* прадпрыемства і час узьнікненьня.

2. *Разьмеры* і характар тэрыторыі (рэльеф, схілы і інш.). РаспляНаваньне двара з вызначэньнем паасобных будынкаў (службаў) данай вытворчасьці. Дабрабыт двара (брук, сьцёкі, праезды і інш.). Акаляючая мясцовасьць.

3. Аб'ём вытворчасьці па колькасьці рабочых і па месячнай прадукцыі (з паказаньнем якой).

4. Апісаньне паасобных вытворчых і дапаможных будынкаў у парадку ходу вытворчасьці.

а) Унутраная распляноўка,

б) Квадратура і кубатура (агульная і паасобных цэхаў), вышыня сьцен.

в) Характарыстыка сьцен, падлогі і страхі (матар'ял, становішча і г. д.).

г) Асьвятленьне натуральнае (коэфіцыент сьветлавой плошчы акон да плошчы падлогі). Штучнае асьвятленьне, недахопы.

д) Вэнтыляцыя (спосаб і недахопы).

е) Апал (сыстэма і недахопы).

ж) Вадазабесьпячэньне і санітарная ацэнка яго.

з) Абсталяваньне і вытворчыя процэсы (мэханізацыя, недахопы і інш.).

і) Месца і ўмовы хаваньня сыравіны і гатовых вырабаў (у харчовай прамысловасьці).

к) Захаваньне чыстаты і парадку ў вытворчых процэсах: спэцвопратка санітарныя звычаі рабочых, зьбіраньне і выдаленьне вытворчых нячыстот і адкідаў, спосабы падтрыманьня чыстаты, забесьпячэньне санітарнымі прыладамі (рукамыйнікі, мыла, рушнікі, плявальніцы). Прыбіральні: сыстэма і ізоляванасьць іх ад вытворчых процэсаў асабліва харчовых продуктаў), недахопы.

Увага: Гаспадарчыя будынкі, ня зьвязаныя непасрэдна з вытворчасьцю, могуць быць толькі пералічаны з паказаньнем прызначэньня іх.

5. Сыстэма дваровага зьбіраньня, выдаленьня і абясшкоджаньня гаспадарчых і прамысловых адкідаў і нячыстот; недахопы ў гэтым.

6. Забесьпячэньне вытворчасьці сыравінай і месцы збыту прадукцыі. Транспорт і санітарныя хібы ў ім. Якасьць продукцыі па даных досьледаў і водзываў (гэты пункт датычыцца харчовай вытворчасьці).

7. Умовы і рэжым працы: харчаваньне, зьмены, перапынкі і ўмовы для адпачынку (рабочае памяшканьне) і інш.

8. Санітарны нагляд за данай вытворчасьцю: наведваньні доктара, яго заўвагі і выкананьне іх. Выкананьне даным прадпрыемствам існуючых санітарных правіл. Палепшаньні ў апошнія часы (капітальныя рамонты, пашырэньне і да т. п.); намечаныя на бліжэйшыя часы палепшаньні.

9. Іншыя адзнакі.

10. *Вывады.*

## II

## Плян санітарнага абсьледваньня сталоўкі.

1. Месцазнаходжаньне сталоўцы і час пабудовы яе.

2. Разьмеры і характар тэрыторыі (рэльеф, схілы і інш.). Распляваньне двара з вызначэньнем паасобных будынкаў (службаў). Дабрабыт двара (брук, сьцёкі, праезды інш.). Акаляючая мясцовасьць.

*Прапушчальная здольнасьць* па норме і фактычная нагрузка. Тып будынку і будаўнічыя матар'ялы. Распляваньне па прызначэньні (вытворчая часьць, дапаможная і абслугоўваючая). Разьмеры паасобных памяшканьняў па прызначэньні і санітарна-тэхнічны стан іх (падлога, сьцены, столь і інш.).

4. *Асьвятленьне,* ацяпленьне, вэнтыляцыя і вадазабесьпячэньне: сыстэма і яе недахопы.

5) *Абсталяваньне* паасобных памяшканьняў па прызначэньні і якасьць яго. Кухонная і сталовая пасуда і інш. прылады, якасьць і дастатак. Забесьпячэньне рэчамі і прыладамі непасрэдна санітарнага значэньня для карыстаньня працаўнікамі сталоўкі і наведвальнікамі (рукамыйнікі, рушнікі, мыла, спэцвопратка, плявальніцы і інш.).

6. Забесьпячэньне продуктамі, якасьць продуктаў і ўмовы хаваньня іх (склеп, лязнік, каморкі і інш., абсталяваньне і стан іх).

7. Прыгатаваньне страў: контроль за выдачаю продуктаў, апрацоўка сыравіны, способы і якасьць кулінарнага гатунку, умовы для гэтага і інш.

8. Нормы раскладак, рознастайнасьць страў (мэню), іх пажыўнасьць (калёрыйнасьць). Смакавыя і іншыя ўласьцівасьці страў. Сабекошт і адпускныя цэны.

9. Сыстэма выдачы страў і контроль. Час выдачы. Умовы для яды. Умовы для культурнага абслугоўваньня наведвальнікаў. Чыстата пасуды і іншых прылад, способы мыцьця і хаваньне іх.

10. Астачы стравы і кухонных адкідаў, способы зьбіраньня, хаваньня, выдаленьня і скарыстоўваньня іх.

11. Захаваньне чыстаты і парадку ў паасобных памяшканьнях па прызначэньні, способы ачысткі. Санітарная сьвядомасьць працаўнікоў сталоўкі.

Прыбіральні (сыстэма, ізоляванасьць ад сталоўкі і месц хаваньня продуктаў, недахопы). Сыстэма зьбіраньня і выдаленьня дваровых нячыстот і адкідаў.

12. Наяўнасьць і способы барацьбы з пацукамі, мышамі, мухамі, і інш. шкоднікамі.

13. Штат сталоўкі і ўмовы працы.

14. Іншыя адзнакі.

15. *Вывады.*

## Санітарная літаратура для шырокага карыстаньня.

**В. С. Соловьев** — Самодеятельность колхозников в деле охраны здровья,— Госиздат, 1930.
**Чистяков и Керчинер** — Бани, прачешные и дезинсекторы в колхозах, — Госмедиздат.
**А. Н. Сысин** — Санитарный минимум, — Госмедиздат, 1930.
**Р. Басс** — Навоз и мухи, — Госмедиздат, 1930.
**С. Степанов** — Задачи здравячеек в колхозах, — Госмедиздат, 1930.
**К. Дробинский** — Санитарный минимум промышленного предприятия, — Госмедиздат, 1931.
**Г. Солонович** — Санитарный минимум в школе, — Госмедиздат, 1931.
Труд детей и подростков в колхозе, — Госмедиздат, 1930.
**З. К. Магілеўчык** — Санітарная памятка „За здаровы соцыялістычны быт у сельскай гаспадарцы" — Выданьне Ц. К. Чырвонага Крыжу Бел.
**З. К. Магілеўчык** — Становіша і пэрспэктывы санітарнага аздараўленьня БССР, — Бел. Дз. Выд. 1931.
**В. Н. Рябов** — Колхозы и совхозы Владимирской губ. в санитарном отношении. Журнал „Гигиена и эпидемиология", № 10, 1930 г. Госмедиздат.

В. Самцэвіч.

# Як арганізаваць монографічнае вывучэньне раёну.

*(Аб складаньні пашпарту раёну).*

## I. Неабходнасьць вывучэньня раёну для раённых устаноў і арганізацый.

У мэтах пасьпяховага разгортваньня социялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне надзвычайна вялікае значэньне мае правільнае правядзеньне пастаўленай партыяй задачы гаспадарчага раёнаваньня СССР. Неабходнасьць да канца праведзенага раёнаваньня асабліва яскрава выявілася ў сувязі з соцыялістычнай рэконструкцыяй сельскай гаспадаркі і шпаркім разьвіцьцём колгаснага руху. „Ня можа быць сумненьня,—казаў на XVI партзьезьдзе т. Сталін,—што мы ня здолелі-б узьняць вялізарную работу па перабудове сельскай гаспадаркі і разьвіцьці колгаснага руху, калі-б не правялі раёнаваньня... Мэта раёнаваньня... — наблізіць партыйна-савецкі і гаспадарча-коопэрацыйны апарат да раёнаў і сяла для таго, каб атрымаць магчымасьць сваечасова вырашыць набалеўшыя пытаньні сельскай гаспадаркі, яе ўздыму, яе рэконструкцыі". І далей: „Зараз цэнтар цяжару колгаснага будаўніцтва перанесены ў раённыя організацыі. Сюды сьцякаюцца ніці колгаснага будаўніцтва і ўсякай іншай гаспадарчай работы на вёсцы і па лініі коопэрацыі, і па лініі загатовак" [1]). Пасьля ліквідацыі акруг і ўзмацненьня раёнаў партыя і савецкая ўлада дасягнулі вялікіх посьпехаў у набліжэньні партыйна-савецкагаа апарату да мас, да колгасу і вёскі; раён зьявіўся „асноўным зьвяном соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы". У раёне зараз сконцэнтравана ўся непасрэдная праца па соцыялістычнаму будаўніцтву ў вёсцы: пляніваньне, гаспадарчае і культурнае будаўніцтва, правядзеньне ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній і г. д.

Пасьпяховае правядзеньне соцыялістычнага будаўніцтва ў раёне патрабуе ад усіх працаўнікоў раёну (савецкіх, партыйных, гаспадарчых, коопэрацыйных, культурна-асьветных і інш.) дасканалага веданьня ўсіх асаблівасьцяй раёну: яго прыродных багацьцяў, энэргетычных рэсурсаў, экономічных і соцыяльна-бытавых умоў, бо толькі добрае веданьне гэтых умоў дасьць магчымасьць раённым установам і організацыям і іх працаўніком поўнасьцю выкарыстаць усе рэсурсы раёну для пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва краіны. Тым часам

---

[1]) І. Сталін—Політычная справаздача ЦК XVI зьезду УсеКП(б).

практыка нашага соцыялістычнага будаўніцтва паказвае, што нават „нашы плянавыя і рэгулюючыя органы ня ведаюць добра раёнаў“ [2]).

Аб тым-жа слабым веданьні экономікі раёнаў савецкімі і гаспадарчымі працаўнікамі гаварыў і т. Хацкевіч: „мы да гэтага часу яшчэ ня ведаем, у якім становішчы зараз, у зьвязку з пераходам на раённую сыстэму, знаходзіцца мясцовая прамысловасьць, хто ёю кіруе, хто дапамагае, якія пляны яе разьвіцьця ў БССР“ [3]). І далей: „нашае кіраўніцтва да гэтага часу *не дыфэрэнцыявана, праводзіцца бяз улічваньня гаспадарчых асаблівасьцяй таго ці іншага раёну* (курсіў дакладчыка). Нашы загатоўчыя органы дагэтуль часта ня ведаюць, дзе лес, дзе лён, дзе каменьні, дзе бульба, дзе грыбы, дзе капуста. Мы часамі ня ведаем, дзе што ёсьць, і дзе што можна ўзяць, праводзячы загатоўкі, дзякуючы таму, што мы яшчэ *не давялі да канца экономічнага вывучэньня раёнаў, не прарабілі да канца сталай гаспадарчай кваліфікацыі таго ці іншага раёну з пункту погляду яго гаспадарчай сутнасьці і ўхілу; мы нават ня маем яшчэ звычайнага экономічнага справачніка, які характарызуе раён*“ (курсіў аўтара) [4]). Прыведзеныя вытрымкі з дакладаў адказьнейшых савецкіх працаўнікоў (т. т. Галадзеда і Хацкевіча) на сэсіі ЦВК з усёй сур'ёзнасьцю падкрэсьліваюць нявывучанасьць нашых раёнаў (у першую чаргу з экономічнага боку), няведаньне ўмоў і экономікі раёнаў працаўнікамі плянуючых, гаспадарчых і загатоўчых органаў, што шкадліва адбіваецца на пасьпяховым вырашэньні нашых практычных задач соцыялістычнага будаўніцтва, на тэмпах гэтага будаўніцтва, на выкананьні плянавых заданьняў партыі і савецкага ўраду. Будаваць соцыялістычную гаспадарку без навуковых падстаў, ня ведаючы прыродна-географічных і соцыяльна-экономічных умоў паасобных раёнаў немагчыма. Між тым брыгада РСІ па вывучэньні працы Койданаўскага райпляну выявіла, што „райплян ня ведае, колькі ў раёне насельніцтва, гаспадарак, плошчы зямлі пад паасобнымі ўжыткоўнасьцямі; ня ведае наяўнасьці ў раёне каштоўных выкапняў, глебавага стану пахаці; ня ведае энэргетычнага становішча гаспадаркі раёну, і наогул (у райпляне) адсутнічае рад іншых паказьнікаў аб экономіцы раёну. Адсутнасьць гэтых вестак востра адбіваецца на абгрунтаваньні плянавых меркаваньняў, не дае магчымасьці поўнасьцю скарыстаць усе гаспадарчыя магчымасьці хуткага разьвіцьця раёну“. („Роля райпляну і яго бліжэйшыя задачы“, „Савецкая Беларусь“, № 115, 1931 г.). І зусім правільна ставіць пытаньне т. Хацкевіч, гаворачы, што „нам трэба як найхутчэй вырашыць задачу вывучэньня экономічнага і гаспадарчага становішча кожнага раёну. Трэба... *ўдасканаліць вывучэньне экономічнага становішча раёнаў, кірунак разьвіцьця гаспадаркі і экономікі ў мэтах паглыбленьня спэцыялізацыі гаспадарчага і экономічнага разьвіцьця кожнага раёну, правільна прыстасоўваць загатоўчыя пляны ня толькі да кожнага раёну, а нават да кожнага сельсавету*“ [5]) (курсіў т. Хацкевіча). Экономічнае раёнаваньне (мікрараёнаваньне) у нас яшчэ канчаткова ня скончана, „гэтую работу трэба ўдасканаліць, паглыбіць з тым, каб кожны райвыканком

---

[2]) М. Галадзед—„Контр. лічбы народн. гасп. БССР на 31 г.“ Даклад на III сэсіі ЦВК БССР. IX склік. Выд. БДВ. Менск, 1931 г., стар. 21.

[3]) А. І. Хацкевіч—„Аб мерапрыемствах да пераходу ад акруг. сыстэмы кіраўн. на раённую“. Дакл. на III сэсіі ЦВК БССР, IX склік. Выд. БДВ. Менск, 1931 г., стар. 15.

[4]) Тамсама, стар. 23-24.

[5]) Тамсама, стар. 25.

ведаў характарыстыку свайго раёну, свае гаспадарчыя задачы. Трэба даць месцам кіруючую літаратуру" [6]). Такім чынам, у сувязі з пераняseньнем цэнтру цяжкасьці работы па соцыялістычнай рэконструкцыі ў раёны, з усёй вастратой паўстае пытаньне аб вывучэньні кожнага раёну ў мэтах паглыбленьня гаспадарча-экономічнай спэцыялізацыі раёнаў, у мэтах больш шпаркага будаўніцтва соцыялістычнае гаспадаркі ў раёнах, пасьпяховага правядзеньня загатоўчых опэрацый і г. д.

Політэхнізацыя нашай школы настойліва патрабуе ад кожнай школы, ад усяго настаўніцтва вывучэньня і дасканалага веданьня свайго раёну. Спэцыялізацыя раёну, характар яго гаспадаркі, пэрспэктыўны плян будаўніцтва соцыялістычнай гаспадаркі ў раёне павінны абумоўліваць у значнай меры і выбар вытворчасьці, на аснове якой будзе праводзіцца політэхнізацыя школ данага раёну. Краязнаўчая праца школы, вывучэньне школай раёну сваёй дзейнасьці, яго прыродна-вытворчых сіл, экономікі і быту насельніцтва зьяўляецца выходным пунктам усёй далейшай і match рознастайнай працы політэхнічнай школы. Вучні нашай політэхнічнай школы павінны аўладаць у школе ня толькі політэхнічнымі навыкамі, але і добра ўявіць сабе асновы і процэсы нашага соцыялістычнага будаўніцтва ў конкрэтных умовах данага раёну; павінны ўявіць сабе асновы гаспадарчага плянаваньня, уразумець значэньне і набыць навыкі вядзеньня масавай дасьледчай працы, якая неразрыўна павінна быць зьвязана з практыкай нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Масавая праца політасьветных установаў (хат-чытальняў, клюбаў і г. д.) зараз павінна быць цалкам падпарадкавана задачам соцыялістычнага будаўніцтва, задачам барацьбы за выкананьне і перавыкананьне плянавых заданьняў, а гэта зноў-жа вымагае добрага веданьня мясцовых умоў, прыродна-вытворчых і соцыяльна-экономічных умоў раёну.

Адсюль з усёй відавочнасьцю выцякае неабходнасьць для савецкіх, партыйных, гаспадарчых і культурна-асьветных працаўнікоў кожнага раёну вывучаць і ведаць свой раён для пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва краіны. Для раённых працаўнікоў, установаў і організацый неабходна мець монографічныя апісаньні паасобных раёнаў, якія-б давалі характарыстыку гэтых раёнаў з боку іх гаспадарчай спэцыялізацыі, экономікі, прыродна-вытворчых сіл і культурнага будаўніцтва.

## II. Мэтавая ўстаноўка і організацыя вывучэньня раёну.

Вывучэньне і апісаньне раёну павінна мець зусім конкрэтную і практычную задачу—дасьледваць раён для выкарыстаньня ўсіх яго рэсурсаў для пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва, даць для працаўнікоў раёну, рабочых і працоўных мас, усіх актыўных будаўнікоў соцыялізму фактычны справачнік аб вытворчых сілах раёну, яго экономіцы і культурным будаўніцтве.

У вывучэньні раёну павінны прыняць актыўны ўдзел усе ўстановы і організацыі раёну (навукова-дасьледчыя, бязумоўна), а таксама самыя шырокія масы рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкія масы вёскі, вучні школ. Асноўную ролю ў організацыі вывучэньня раёну павінна адыгрываць плянава-статыстычная частка РВК і раённае бюро краязнаўства (пры актыўным удзеле і іншых установаў і організацый). Плянава-статыстычная частка РВК сумесна з райбюро края-

[6]) А. І. Хацкевіч—„Аб мерапрыемствах да пераходу ад акруговай сыстэмы кіраўніцтва на раённую", стар. 26.

знаўства распрацоўваюць і дэталізуюць плян вывучэньня раёну, арганізуюць сілу для дасьледваньня (брыгады, групы), намячаюць мэтоды дасьледваньня, папулярызуюць неабходнасьць вывучэньня раёну для мэт соцыялістычнага будаўніцтва сярод шырокіх працоўных мас, арганізуюць прапрацоўку паасобных пытаньняў у камісіях, спэцыяльных нарадах і інш., наладжваюць абгаварэньне задач, пляну і мэтодаў дасьледваньня на шырокіх нарадах прадстаўнікоў савецкіх, партыйных, профсаюзных і інш. арганізацый і на сходах рабочых, колгасьнікаў, настаўніцтва і г. д. У часе гэтых абгаварэньняў могуць быць унесены розныя корэктывы ў выпрацаваныя пляны і дадаткі да іх.

У вывучэньні раёну павінны прыняць удзел розныя ўстановы і організацыі раёну ў адпаведных галінах: зямельны аддзел райвыканкому, райколгассаюз і сэкцыя соцыялістычнай сельскай гаспадаркі бюро краязнаўства—па вывучэньні клімату, глебы, расьліннасьці і сельскай гаспадаркі раёну (сіламі агрономаў і настаўнікаў прыродаведаў), плянава-статыстычная частка РВК, прамысловая сэкцыя бюро краязнаўства і працаўнікі мясцовай прамысловасьці — па вывучэньні прамысловасьці раёну; культурна-бытавая сэкцыя бюро краязнаўства, райпрофсаюз, школы і інш. — па вывучэньні культурнага будаўніцтва ў раёне і г. д. Абавязковы ўдзел у вывучэньні раёну павінны прыняць усе краязнаўчыя організацыі і ячэйкі, дасьледчыя станцыі ў раёне, школы, прамысловыя прадпрыемствы, саўгасы і колгасы, брыгады рабселькораў.

Краязнаўчая праца політэхнічнай школы зьяўляецца неабходнай сустаўной часткай усяе працы школы. Кожная савецкая школа, як частка, як зьвяно ўсёй савецкай сыстэмы, павінна вывучаць навакольнае жыцьцё ў мэтах соцыялістычнай яго перабудовы. Асаблівае вялікае значэньне і конкрэтны зьмест набывае школьная краязнаўча-дасьледчая праца ў сувязі з політэхнізацыяй школы. Ужо цяпер настаўніцтва і інспэктура асьветы ў некаторых раёнах ставяць перад сабой конкрэтную задачу—складаньне для школ раёну монографічнага апісаньня раёну (Заслаўскі раён і інш.), патрабуючы, аднак, мэтодычнай дапамогі. Пераход школы на проектны мэтод працы яшчэ ў большай меры, чым да гэтага часу, вымагае ўсебаковага вывучэньня свайго раёну кожнай школай.

Для кожнай школы патрэбен мясцовы краязнаўчы матар'ял двая кага характару: а) матар'ял, які характарызуе раён непасрэднага абслугоўваньня і непасрэдных сувязяй з школай (раён у вузкім значэньні слова—фабрычна-заводзкі раён, раён колгасу і бліжэйшых вёсак) і б) раён больш шырокага маштабу, з якім школа ў сваёй працы непасрэднай поўнай сувязі ня мае (адміністрацыйна-экономічны раён) і зьвязана толькі часткова. Вывучэньне раёну ў вузкім сэнсе слова зьяўляецца справай і абавязкам кожнай школы, усяго школьнага колектыву, у парадку яе штодзеннай плянавай працы. Вывучэньне пазаплянавых пытаньняў, якія не ўваходзяць у програмы школы, магчыма і неабходна праводзіць праз школьныя краязнаўчыя ячэйкі і спэцыяльныя брыгады. Такія матар'ялы аб паасобных школьных раёнах, калі яны будуць старанна сабраны, праверапы і сыстэматызаваны, будуць вельмі каштоўнымі матар'яламі пры складаньні монографічнага апісаньня адміністрацыйна-экономічнага раёну.

### III Дзе можна атрымаць краязнаўчы матар'ял.

Пры вывучэньні раёну трэба выкарыстаць усе літаратурныя крыніцы (друкаваныя працы ў зборніках, часопісах, газэтах), матар'ялы

савецкіх і грамадзкіх устаноў і організацый (РВК і сельсаветаў, райколгассаюзу, прамысловых прадпрыемстваў, коопэрацыйных організацый, колгасаў і саўгасаў, партыйных і профсаюзных організацый, лячэбных і культасьветных устаноў, дасьледчых станцый, краязнаўчых організацый і г. д.), мясцовыя архівы і матар'ялы музэяў. У розных установах і організацыях з году ў год зьбіраецца багацейшы матар'ял па розных пытаньнях нашага социялістычнага будаўніцтва, які там ляжыць мёртвым капіталам. Будучы-ж належным чынам сыстэматызаваны і апрацаваны, ён зьявіцца фактарам, дапамагаючым нашаму социялістычнаму будаўніцтву. Наш пэрыодычны друк (часопісы і асабліва газэты) дае вельмі багаты матар'ял па паасобных раёнах. Раённыя газэты ў сучасны пэрыод зьмяшчаюць вельмі многа фактычнага матар'ялу по розных галінах социялістычнага будаўніцтва (зводкі, праверкі выкананьня плянаў, справаздачы, паасобныя конкрэтныя факты і інш.). Газэты абавязкова трэба выкарыстаць, як адну з багацейшых крыніц пры складаньні апісаньня раёну. Але нават самае добрасумленнае выкарыстаньне ўсіх пералічаных крыніц яшчэ ня дасьць усіх патрэбных матар'ялаў для сталага апісаньня раёну. Трэба організаваць яшчэ спэцыяльнае дасьледваньне паасобных пытаньняў і фактаў непасрэднага жыцьця ў пэўных конкрэтных социяльных умовах, ва ўмовах разгорнутага социялістычнага наступленьня па ўсяму фронту і абвостранай клясавай барацьбы. Мэтодамі вывучэньня жыцьця зьяўляецца—мэтод стацыянарных нагляданьняў і экскурсійна-экспэдыцыйны мэтод.

## IV Схэма монографічнага вывучэньня раёну[7]).

### 1. Агульная характарыстыка раёну.

а) Кароткая экономічная характарыстыка раёну і яго месца ў агульнай гаспадарцы рэспублікі; гаспадарчая спэцыялізацыя раёну і ўдзельная вага паасобных галін (прамысловасьць, сельская гаспадарка і г. д.) ва ўсёй гаспадарцы раёну.

Кароткая гісторыя раёну; гісторыя рэволюцыйнага руху ў раёне.

Кароткая характарыстыка разьвіцьця народнай гаспадаркі ў раёне ў гістарычным разрэзе.

б) Складаньне дыяграм удзельнай вагі розных галін гаспадаркі раёну і ўсёй БССР (параўнальна) і дынамікі валавой продукцыі прамысловасьці, сельскай і лясной гаспадаркі, пасеўнай плошчы і жывёлы (выкананьне пяцігодкі).

### 2. Прыродна-вытворчыя сілы.

а) Географічнае палажэньне і тэрыторыя раёну.

б) Рэльеф робіць вялікі ўплыў на характар рэк, на ўтварэньне глебаў, расьлінных згуртаваньняў, на характар гаспадарчай дзейнасьці людзей і інш., і таму трэба вывучыць:

агульны характар рэльефу; вадападзелы, узвышшы, узгоркі, даліны, нізіны, балоты; разьмяшчэньне на тэрыторыі раёну і гаспадарчае значэньне розных форм і відаў рэльефу.

Скласьці карту рэльефу раёну.

---

[7]) Пры складаньні гэтай схэмы выкарыстаны: матар'ялы і конкрэтныя прапановы (тэмы) Дзяржпляну, навукова-дасьледч. і гаспадарчых устаноў БССР; „наметкі па генпляну электрыфікацыі БССР; тыповая схэма монографіі раёну, зложаная Н. Карбоўцам („Нижегородское краевед." № 3, 1931 г.), узятая ў аснову данае схэмы, і інш.

в) Геолёгічнае мінулае раёну (каротка) паводле літаратурных крыніц і спэцыяльных досьледаў (геолёгічныя абгаленьні на абрывах рэк і глыбокіх равоў).

г) Карысныя выкапні (вапнякі, фосфарыты, гліны, крэйда, руды, каменьне і інш.); месцы і разьмеры заляганьняў. Гаспадарчае выкарыстаньне карысных выкапняў у даны момант і іх далейшыя пэрспэктывы.

Злажыць карту, колекцыі і сьпіс дасьледваных карысных выкапняў у раёне.

„Забесьпячэньне разьвіцьця народнай гаспадаркі высоўвае неабходнасьць прыдаць такія тэмпы геолёга-разьведачнай справе, якія павінны значна выперадзіць тэмпы разьвіцьця прамысловасьці ў мэтах сваечасовай падрыхтоўкі мінэральнай сыравіны" (з рэзол. XVI зьезду ЎсеКП(б).

д) Энэргетычныя рэсурсы раёну; запасы торфу, вадзяных рэсурсаў, дрэва; месцы і разьмеры заляганьняў торфу; існуючыя і проектаваныя электрастанцыі; тарфяныя распрацоўкі.

Злажыць тарфяную карту.

е) Клімат раёну зьяўляецца адным з важнейшых фактараў рэльефу і ўтварэньня глебаў раёну; ён робіць уплыў на характар расьліннасьці і жывёльнага сьвету і на гаспадарчую дзейнасьць насельніцтва, і таму трэба вывучыць:

сярэднія тэмпэратуры: гадавую, студзеня і ліпня (паводле даных мэтэоролёгічных станцый). Колькасьць атмосфэрных ападкаў за год і па месяцах; адкуль пераважна дзьмуць вятры (па месяцах) і сіла іх. Мясцовыя прычыны, якія робяць уплыў на клімат (уплыў вышыні данай мясцовасьці, яе лясістасьці і інш.). Уплыў кліматычных асаблівасьцяй на характар рэльефу данага раёну (ручаі, равы і г. д.). Награваньне і вільготнасьць глебы да моманту пасеву; забясьпечанасьць розных сельска-гаспадарчых культур патрэбнай колькасьцю цяпла і вільгаці ў часе іх росту і пасьпяваньня; ахова расьлін ад замярзаньня сьнегавым акрыцьцём у зімовы час; вымярзаньне азімых, замаразкі, засухі, пачатак і канец сельска-гаспадарчых работ у раёне і працяг вэгетацыйнага пэрыоду.

Барацьба насельніцтва з засухамі і лішняй вільгацьцю (затрыманьне таяньня сьнегу, розныя спосабы апрацоўкі глебы, асушка забалочаных месц і інш.).

Злажыць табліцы тэмпэратур (па месяцах), колькасьць атмосфэрных ападкаў (па месяцах), ясных дзён і інш. і кліматычную карту раёну.

ж) Гідрографія: агульная характарыстыка рэчнай сыстэмы; азёры; балоты; рэкі сплаўныя і судаходныя і іх працяжнасьць; рэкі як крыніцы энэргіі, багацьце рэк і азёр рыбай; уплыў рэк і азёр на характар заняткаў мясцовага насельніцтва.

Зьвярнуць увагу на вывучэньне магчымасьцяй выкарыстаньня рэк, як транспортных шляхоў ва ўмовах суцэльнай колектывізацыі раёну і водных басэйнаў для разьвіцьця рыбнай гаспадаркі.

з) Глебы зьяўляюцца вельмі важным фактарам, які ў значнай меры абумаўляе вытворчасьць сельскай гаспадаркі. Вывучаць трэба глебы розных месцаў, розных форм рэльефу (нізіны, схілы, высокія месцы) розных расьлінных згуртаваньняў (лес, луг, пахаць) і розных геолёгічных адкладаў (пясок, гліна, лёэс, маргель). Узоры браць з верхняга пласту (больш-менш аднолькавай афарбоўкі), ніжняга (адрозьніваецца ад верхняга афарбоўкай, структурай) і падглебавага пласту.

Пры апісаньні ўказаць структуру глебы, яе фізычныя ўласьцівасьці і хэмічны склад.

Даць агульную характарыстыку глеб раёну і разьмеркаваньне іх па раёне. Злажыць карту і колекцыю глебавых монолітаў у раённы краязнаўчы музэй [8]).

і) Расьліннасьць і жывёлы; разьмеркаваньне расьліннасьці і жывёл у залежнасьці ад рэльефу, абвадненьня і інш. Выдзеліць расьліннасьць экспортнага і лекавага значэньня; расьліны тэхнічныя (цяпер і ў будучым), кармовага значэньня (для сілосу і інш.); паляўнічую фаўну і шкоднікаў у сельскай гаспадарцы (шкоднікі палёў, гародаў садоў). Якія ўмовы выклікаюць павялічэньне ці памяншэньне шкоднікаў і меры барацьбы з імі. Злажыць табліцу: пералік расьлін, месца пашырэньня, гаспадарчае і наогул экономічнае значэньне расьлін; такую-ж табліцу жывёл. Злажыць геоботанічную, карту і гербарый.

### 3. Насельніцтва раёну.

а) Абсолютны лік насельніцтва і гушчыня расьсяленьня (па сельсаветах). Вельмі кароткі этнографічны нарыс.

б) Нацыянальны і соцыяньны склад насельніцтва (вясковага і гарадзкога).

в) Склад насельніцтва па роду і асноўных узросных групах (да 11 г; 12 — 16 г.; 17 — 55 г. і вышэй); злажыць табліцы.

г) Профэсіянальны склад насельніцтва: рабочыя прамысловых прадпрыемстваў (па асноўных галінах вытворчасьці), транспортныя, будаўнічыя, сельскагаспадарчыя (з выдзяленьнем батракоў), леса-прамысловыя і іншыя рабочыя; сельска-гаспадарчае насельніцтва (з падзелам на колгасьнікаў і аднаасобнікаў); служачыя, саматужнікі і г. д. Склад насельніцтва паказаць з падзелам на гарадзкое і вясковае. Дыяграмы нацыянальнага, соцыяльнага і профэсіянальнага складу насельніцтва.

д) Натуральны рост насельніцтва; дынаміка міграцыйных процэсаў.

Лік насельніцтва к канцу пяцігодкі.

Злажыць табліцу руху насельніцтва (гарадзкога і вясковага); натуральны, мэханічны рух, міграцыя.

### 4. Прамысловасьць.

„Важнейшай умовай форсаванага разьвіцьця прамысловасьці і ўсяе народнае гаспадаркі ў цэлым зьяўляецца ўзмацненьне і пашырэньне энэргетычнай базы Саюзу да такіх разьмераў, пры якіх забясьпечвалася-б бесьперабойнае разгортваньне прамысловасьці народнай гаспадаркі ва ўсіх раёнах краіны“ (з рэзол. XVI зьезду ЎсеКП(б).

а) Агульная характарыстыка ўмоў разьвіцьця прамысловасьці; рэсурсы апалу і сыравінная база (у пэрспэкцыйным пляне); магчымасьці павялічэньня апалу і сыравіны.

Скласьці табліцы: а) здабываньня, спажываньня і вывазу з раёну розных відаў апалу; б) здабываньня, скарыстаньня і вывазу розных відаў сыравіны (драўніна, лён, пянька, скуры і г. д.).

б) Энэргаўзброенасьць раёну і пэрспэктывы разьвіцьця энэргетычнай гаспадаркі і электрыфікацыі; запасы торфу, як энэргетычнай базы раёну.

в) Агульная характарыстыка прамысловасьці ў раёне і асноўных капіталаў: колькасьць прамысловых прадпрыемстваў, лік рабочых,

---

[8]) У кожнай школе павінна быць карта і колекцыя глеб свайго колгасу.

каштоўнасьць выпуску продукцыі (у дынаміцы). Прамысловасьць дзяржаўная, коопэрацыйная, прыватная.

Табліцы: а) рост прамысловых прадпрыемстваў і рабочых (па розных галінах вытворчасьці); б) дынаміка продукцыі прамысловасьці (па галінах).

г) Пяцігадовы плян разьвіцьця прамысловасьці, новага будаўніцтва, рэконструкцыі прамысловых прадпрыемстваў, тэхнічнага пераўзбраеньня, росту асноўных капіталаў і рабочых (дыяграмы, табліцы); характарыстыка галоўнейшых об'ектаў прамысловага будаўніцтва.

Злажыць карту разьмяшчэньня прамысловасьці ў раёне, з паказаньнем паасобных цэнтраў і раёнаў.

### 5. Дробная саматужная прамысловасьць.

а) Кароткая агульная характарыстыка, значэньне і ўдзельная вага саматужнай прамысловасьці ў экономіцы раёну; віды прамысловасьці, разьмяшчэньне па тэрыторыі раёну; сувязь з цэнзавай прамысловасьцю.

„Дробная мясцовая і саматужная прамысловасьць, асабліва коопэраваная, разьвіваючы вытворчасьць рыначных вырабаў, павінна разам з тым зьяўляцца дапаўненьнем да буйнай прамысловасьці, вырабляючы па яе заданьнях рад дэталяй і паўфабрыкатаў і вызваляючы тым самым абсталяваньне буйнай прамысловасьці ад такіх вытворчых опэрацый, якія могуць быць зроблены ў дробных саматужных і рамесьніцкіх прадпрыемствах" (з рэзол. XVI зьезду ЎсеКП(б).

б) Кароткая гісторыя разьвіцьця саматужнай прамысловасьці ў раёне (у дарэволюцыйныя часы, у часы імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны, у часы аднаўленчага і рэконструкцыйнага пэрыоду), процэсы абагульненьня ў дробнай саматужнай прамысловасьці.

в) Пэрспэктыва разьвіцьця саматужнай прамысловасьці; нараджэньне новых і адміраньне старых галін прамысловасьці (у сувязі з індустрыялізацыяй і колектывізацыяй краіны), рынкі збыту.

Табліцы е) лік прадпрыемстваў (па галінах); б) саматужнікаў (па галінах); в) велічыня продукцыі (па галінах вытворчасьці).

### 6. Сельская гаспадарка.

Пры арганізацыі вывучэньня сельскай гаспадаркі БССР трэба выходзіць з намечанай Наркамземам БССР спэцыялізацыі яе ў жывёлагадоўча-ільняным напрамку з перавагай ільняна-малочнай вытворчасьці ў паўночнай частцы рэспублікі і інтэнсыўна-прамысловай жывёлагадоўлі (малочная жывёлагадоўля, сьвінагадоўля)—у астатняй частцы і разьвіцьця канапель у некаторых паўночных раёнах БССР. У адпаведнасьці з устаноўленым раёнаваньнем павінна быць праведзена рэзкая сцэцыялізацыя саўгасаў і колгасаў.

а) Агульная характарыстыка сельскай гаспадаркі раёну; спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі раёну; удзельная вага сельскай гаспадаркі ва ўсёй гаспадарцы раёну; удзельная вага паасобных сельска-гаспадарчых галін (галоўных) ва ўсёй сельскай гаспадары раёну.

Карта спэцыялізаваных галін сельскай гаспадаркі.

б) Паляводзтва: а) разьмеркаваньне зямлі па ўжыткоўнасьцях (дыяграмы); б) рост пасеўнай плошчы і разьмеркаваньне яе па культурах (табліцы ў дынаміцы); рэсурсы для далейшага пашырэньня пасеўнай плошчы (хмызьнякі і інш.); в) дасягненьні і пэрспэктывы палепшаньня гатункаў збожжавых культур; г) разьвіцьцё тэхнічных культур (лён, каноплі); д) пашырэньне пасеву караньплодаў і кармовых траў; плошча

пасеву; е) рост тэхнікі і забясьпечанасьці машынамі і прыладамі вытворчасьці (у аграмаджаным і індывідуальным сэктарох); ж) рост ужываньня мінэральных і зялёнага ўгнаеньняў; пашырэньне агрыкультурных мерапрыемстваў; павялічэньне ўраджайнасьці па розных культурах у (аграмаджаным і індывідуальным сэктарох); з) пяцігадовы плян разьвіцьця палявой гаспадаркі.

Даць табліцу дынамікі пасеўных плошчаў па асноўных сельскагаспадарчых культурах.

в) Жывёлагадоўля: а) агульная характарыстыка жывёлагадоўлі ў раёне; б) мерапрыемствы і дасягненьні па палепшаньні пароды жывёлы; в) пагалоўе (паасобных відаў жывёлы ў аграмаджаным і індывідуальным сэктарох); г) малочная гаспадарка, сьвінагадоўля, птушніцтва, разьвядзеньне авечак, трусагадоўля, конягадоўля; продукцыйнасьць розных парод жывёл; д) мерапрыемствы і дасягненьні па падвядзеньні кармовай базы пад жывёлагадоўлю; е) ажыцьцяўленьне програмы зоо- і вэтмінімуму, вэтдапамога; ж) далейшыя пэрспэктывы разьвіцьця жывёлагадоўлі; кароткая характарыстыка буйнейшых жывёлагадоўчых саўгасаў, колгасаў і фэрмаў.

Злажыць табліцу дынамікі пагалоўя розных відаў жывёлы ў аграмаджаным і індывідуальным сэктарох.

г) Спэцыяльныя галіны сельскай гаспадаркі: садоўніцтва, гародніцтва, пчалярства; агульная характарыстыка сучаснага становішча (у параўнаньні з мінулым), найлепшыя гатункі садавіны, гародніны ў раёне; удзельная вага паасобных галін па ўсёй сельскай гаспадарцы; пэрспэктывы.

д) Вытворчасьць сельскай гаспадаркі: валавая і таварная продукцыя палявой гаспадаркі, жывёлагадоўлі і інш.

Злажыць табліцу дынамікі продукцыі ў натуры па аграмаджанаму і індывідуальнаму сэктарох: па паляводзтву (збожжавыя культуры, тэхнічныя, караньплоды і інш.); жывёлгадоўлі (мяса, сала, малако, масла, скуры, яйцы); па садоўніцтву, гародніцтву, пчалярству і такую-ж табліцу ў грашовым выражэньні.

е) Процэсы соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай-гаспадаркі: рост саўгасаў, МТС, колгасаў, сельска-гаспадарчай коопэрацыі. Пяцігадовы плян саўгасна-колгаснага будаўніцтва. Табліцы: а) дынамікі пасеўнай плошчы па саўгасах, колгасах і індывідуальнаму сэктару; б) павялічэньне ліку гаспадарак, ахопленых колектывізацыяй.

### 7. Лясная гаспадарка.

Лясная гаспадарка ў БССР мае вялікае значэньне (экспорт лесу, лесабудаўнічы матар'ял, апал і інш.) і таму на вывучэньне яе трэба зьвярнуць належную ўвагу.

а) Агульная плошча пад лесам і разьмеркаваньне яе па пародах.

б) Організацыя лясной гаспадаркі.

в) Лесакультурныя мерапрыемствы і пэрспэктывы (мэліорацыйныя работы, засеў, ачыстка лесу і г. д.)

г) Рэсурсы драўніны: лесабудаўнічага матар'ялу, дрэва для апалу; экспортнае значэньне лясной гаспадаркі ў раёне.

д) Лесаэксплётацыя: скарыстаньне драўніны для мясцовых патрэб; наяўнасьць прадпрыемстваў па мэханічнай і тэхнічнай перапрацоўцы драўніны; збыт драўніны (у якой колькасьці і куды), здабываньне смалы і інш.; продукцыя лясной гаспадаркі (па відах), прыбыткі.

е) Рэконструкцыя тэхнікі лесараспрацовак і палепашаньне лесатранспортных шляхоў.

ж) Становішча і пэрспэктывы лясной і лесахэмічнай прамысловесьці (паводле пэрспэктыўнага пляну).

### 8. Коопэрацыя, контрактацыя, таваразварот.

а) Агульная характарыстыка коопэрацыі раёну; коопэраванасьць насельніцтва рознымі відамі коопэрацыі (паасобна аграмаджаны і індывідуальны сэктар).

б) Спажывецкая, коопэрацыя: лік і разьмеркаваньне коопэрацыйных устаноў па раёну; рост капіталаў; організацыя працы коопэрацыі; абслугоўваньне коопэрацыяй рабочых і вясковага насельніцтва (аграмаджанага і ідывідуальнага сэктару); запатрабаваньні і рух тавараў розных відаў.

в) Контрактацыя розных продуктаў сельска-гаспадарчай вытворчасьці па сельсаветах у аграмаджаным і ідывідуальным сэктарох (табліца дынамікі контрактацыі продуктаў збожжавых, тэхнічных культур, жывёлагадоўлі і г. д.)

г) Розьнічны гандлёвы зварот—дзяржаўны, коопэрацыйны.

### 9. Грузазварот, шляхі зносін, транспорт.

а) Грузазварот асноўных масавых грузаў па ўсіх відах шляхоў зносін (па сухапутных дарогах, водных і чыгуначных шляхох); дынаміка грузазвароту і складу яго па асобных відах шляхоў зносін (табліца).

б) Агульная характарыстыка шляхоў зносін і паасобных відаў; гужавыя, водныя, чыгуначныя шляхі зносін; працяжнасьць чыгуначных, вадзяных (суднаходных і сплаўных), сухапутных (грузавых, шосэ) шляхоў (у табліцы).

в) Недахоп транспортных сувязяй; нерацыянальныя перавозкі па гужавому транспорту, пэрспэктывы і магчымасьці павялічэньня суднаходных ліній і шосэйных дарог; магчымая роля аўтотранспорту ў водных і сухапутных перавозках; магчымасьці ўжываньня суднаў і лодак, як унутрыгаспадарчага транспорту ў галіне прамысловасьці, комунальнай і сельскай гаспадаркі (колгасы, саўгасы).

г) Гнёзды абознага і судна-лодачнага будаўніцтва; разьмеры гэтага будаўніцтва; магчымасьці рэконструкцыі гэтых промыслаў.

### 10. Комунальная гаспадарка.

а) Агульная характарыстыка камунальнай гаспадаркі ў раёне; будаўніцтва новых і палепшаньне старых гарадзкіх і сельскіх паселішч; паселішчы социялістычнага тыпу, новыя тыпы будынкаў; выкарыстаньне новых будаўнічых матар'ялаў.

б) Рабочае жыльлёвае будаўніцтва (социялістычныя гарадкі), праца жыльлёва-будаўнічай коопэрацыі.

в) Комунальная гаспадарка, жыльлёвае будаўніцтва ў колгасах і ў саўгасах; культурна-бытавыя зьмены ў сувязі з новым жыльлёвым будаўніцтвам.

г) Пяцігадовы плян комунальнага будаўніцтва ў раёне, плян будаўніцтва рабочых пасёлкаў і новых паселішч.

### 11. Народная асьвета.

а) Пісьменнасьць насельніцтва па полу, узросту (школьны, дарослыя да 50 г. і вышэй), нацыянальнасьці (у дынаміцы).

б) Ажыцьцяўленьне задач культурнай рэволюцыі; правядзеньне ўсеагульнага навучаньня; культпаходы і інш. масавыя мерапрыемствы.

в) Школьная сетка (масавай політэхнічнай школы); лік вучняў і настаўнікаў, ахоп дзяцей школьнага ўзросту школамі (даць табліцу); політэхнізацыя школ, новыя мэтоды працы, грамадзкая праца школ; дзіцячыя ачагі, сады, пляцоўкі і інш.; лік дзяцей у дашкольных установах і процант ахопу ўсіх дзяцей (табліца ў дынаміцы).

г) Політасьветныя школы, бібліотэкі, клюбы, хаты-чытальні і г. д.; рост сеткі і кліентаў.

д) Профтэхнічная адукацыя і школьныя курсы (рост па гадох), Мерапрыемствы па падрыхтоўцы кадраў, дасягненьні.

е) Мастацкае выхаваньне: кінофікацыя, радыёфікацыя, тэатры (табліцы ў дынаміцы.)

ж) Пяцігадовы плян культурнага будаўніцтва (даць дыяграму росту бюджэту на народную асьвету—абсолютныя лічбы і проценты ва ўсім раённым бюджэце).

з) Правядзеньне нацполітыкі партыі ў галіне культурнага будаўніцтва, беларусізацыя, школьныя, дашкольныя і політасьветныя ўстановы для нацменшасьцяй. Інтэрнацыянальнае выхаваньне.

і) Антырэлігійнае выхаваньне і рост ваяўнічага бязбожжа, рост ячэек і лік членаў ваяўнічых бязбожнікаў; лік розных рэлігійных організацый (царкоўнікаў, сэктантаў) у раёне і лік членаў; клясавы, нацыянальны і ўзросны склад членаў рэлігійных аб'яднаньняў і іх актыву; разгортваньне антырэлігійнага наступленьня.

### 12. Ахова здароўя.

а) Характарыстыка (кароткая) стану народнага здароўя ў сувязі з экономічнымі і бытавымі ўмовамі розных соцыяльных груп насельніцтва; найбольш пашыраныя эпідэмічныя і соцыяльныя хваробы (лічбовыя даныя); сьмяротнасьць (дзяцей, дарослых, сярод розных соцыяльных груп); непрацаздольнасьць ад хвароб.

б) Профіляктычныя мерапрыемствы (сан. і мэдасьвета, фізкультура і г. д.); санаторыі, дамы адпачынку (сетка і лік кліентаў), змаганьне з соцыяльнымі хворобамі.

в) Сетка лячэбных і профіляктычных устаноў: абслугоўваньне імі насельніцтва (табліца).

г) Соцыяльнае страхаваньне; разьмеры дапамогі, пасылка на курортнае лячэньне.

д) Пяцігадовы плян працы па ахове здароўя.

### 13. Сродкі сувязі.

а) Агульная характарыстыка (кароткая) сродкаў сувязі ў раёне.

б) Лік паштовых устаноў; кальцавая пошта; колькі атрымліваецца корэспондэнцый (у год, месяц), газэт, часопісаў.

в) Тэлефонная сувязь: лік установак, працяжнасьць лініі; тэлеграф і радыё.

### 14. Бюджэт раёну.

а) Характарыстыка крыніц раённага бюджэту (пры ажыцьцяўленьні клясавага прынцыпу); прыбыткі ад падаткаў, непадатковыя, агульна-дзяржаўныя; выдаткі па бюджэту; удзельная вага бюджэту раёну ў рэспубліканскім бюджэце.

б) Пэрспэктывы адшуканьня новых прыбытковых крыніц.

**15. Адміністрацыйны падзел раёну.**

Сельсаветы, тэрыторыя кожнага сельсавету, лік насельніцтва (фабрычна-заводзкага і вясковага) і вельмі кароткая характарыстыка асаблівасьцяй кожнага сельсавету, або паасобных груп сельсаветаў (з боку прыродных, экономічных, культурных і нацыянальных асаблівасьцяй).

## V Праца раённага краязнаўчага музэю.

У монографічным вывучэньні раёну вялікі ўдзел павінен прыняць раённы краязнаўчы музэй шляхам арганізацыі спэцыяльных экспэдыцый, арганізацыі сеткі добраахвотных супрацоўнікаў музэю (з рабочых фабрык і заводаў, колгасьнікаў, гаспадарчых працаўнікоў і інш.), зьбіраньне экспонатаў па адпаведных галінах соцыялістычнага будаўніцтва і г. д. Раённы краязнаўчы музэй павінен выявіць усе прыродныя багацьці і энэргетычныя рэсурсы, глебавы і батанічны склад раёну, усе галіны соцыялістычнага будаўніцтва і асноўныя этапы гэтага будаўніцтва ва ўмовах клясавай барацьбы.

У раённым краязнаўчым музэі павінны быць:

1) карты: карысных выкапняў, глебавая, разьмяшчэньня прамысловых цэнтраў, раёнаў спэцыялізаваных галін сельскай гаспадаркі, пісьменнасьці насельніцтва і інш.;

2) моноліты глебаў, узоры карысных выкапняў, гербарыі (асабліва расьлін экспортнага значэньня), колекцыі шкоднікаў сельскай гаспадаркі, прамысловых вырабаў і г. д.;

3) дыяграмы складу насельніцтва, дынамікі разьвіцьця прамысловасьці, процэсаў колектывізацыі, разьмеркаваньня тэрыторыі па ўжыткоўнасьцях, росту валавой і таварнай продукцыі ў розных сэктарох народнае гаспадаркі, рост бюджэту на народную асьвету і інш.;

4) табліцы, справачнікі.

Раённы краязнаўчы музэй павінен абслугоўваць задачы і запатрабаваньні соцыялістычнага будаўніцтва ў раёне; ён павінен весьці вялікую працу ў складаньні плянаў гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ў раёне, змагацца за форсаванае разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва на аснове дасьледчай працы, на антырэлігійным фронце і г. д. Зразумела, для такой вялікай працы раённы музэй павінен быць забясьпечаны хаця-б адным сталым працаўніком і мінімальнымі сродкамі па раённаму каштарысу. Кожны краязнаўчы музэй (раённы), а таксама і музэі на прамысловых прадпрыемствах, у колгасах, пры школах павінны актыўна выступіць і заняць пэўнае месца ў змаганьні за соцыялістычнае будаўніцтва, за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

## VI Апрацоўка матар'ялаў

Сабраныя матар'ялы павінны быць дакладна і старанна апрацаваны адпаведнымі брыгадамі, групамі (ці паасобнымі працаўнікамі): павінен быць складзены ў яснай і популярнай форме тэкст па кожнаму разьдзелу, карты, дыяграмы, табліцы. У спэцыяльных камісіях, на шырокіх сходах рабочых, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас,

савецкіх, партыйных і грамадзкіх працаўнікоў заслухаць вынікі дасьсьледваньня, колектыўна ўнесьці дадаткі, дакладна праверапыя папраўкі, пасьля чаго скласьці зводнае монографічнае апісаньне раёну, прычым тэкст пажадана не загружаць лічбовымі данымі і табліцамі, а даць толькі самыя агульныя лічбовыя даныя, а табліцы і ўвесь статыстычны матар'ял вынесьці і даць у дадатках да апісаньня.

Праведзеная такім чынам праца будзе мець вялікае і каштоўнае значэньне для ўсіх мясцовых працаўнікоў, установ і організацый для пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва нашае краіны.

# ХРОНІКА.

## За актыўны ўдзел краязнаўцаў у выяўленьні прыродных багацьцяў для складаньня другой пяцігодкі.

У 5 кілёмэтрах на поўдзень ад м. Лапічы Асіпавіцкага раёну рака Сьвіслач амаль пад простым кутом паварачвае на ўсход. З гэтага месца ў напрамку на О пачынаецца спачатку ніжняя морэнавая гліна (да Жужлянкі), потым сярэдняя (за в. Вярэйцы) і, урэшце, да в. Вязьзе—верхні морэнавы суглінак. Гэта мясцовасьць, як мы бачым, багата глінамі, якія магчыма было-б распрацоўваць.

У чэрвені м-цы г. г. краязнаўчы гурток пры школе ФЗС-І зрабіў сюды некалькі экскурсій з мэтаю больш падрабязнага знаёмства з глінамі. Як паказала праца на невялікім параўнальна вучастку, чырвоная гліна залягае тут пластам ад паверхні зямлі на 0,5 да 2 мэтраў; грубіня гэтага пласту на абгаленьні роўна ня менш 8-9 мэтрам. Гліна з правага боку перакідваецца на левы.

Кілёмэтрах у 2-х ад Жужлянкі ў верх па цячэньні ракі ляжыць пласт шэрай плястычнай гліны, якую можна скарыстать на выраб пасуды. Мэханічны аналіз гэтай гліны, зроблены ў Менску, паказаў што ў ёй маецца фізычнай гліны да 90 проц.

Краязнаўчы гурток зьвязаўся з Райкустпрамсаюзам па пытаньнях адчыненьня ў гэтай мясцовасьці заводу. Кустпрамсаюз, маючы асыгнаваньне на завод, спачатку ўхапіўся за гэтую ідэю, а зараз нешта астыў. Яго пужае далёкая параўнальна адлегласьць ад чыгункі (5-6 км) і адсутнасьць шляхоў зносін. Між тым у $^1/_2$ кілёмэтра ад гэтай мясцовасьці будуецца шосэ; акрамя таго, магчыма перавозку продукцыі рабіць па драўляных рэйках, якія трэба пралажыць да чыгункі.

А. Немцаў.

## Конская вош.

*(Haematopinus macrocephalus Burmeister).*

Увесну 1931 году наша лябораторыя паставіла сабе мэтай вывучэньне знадворных паразытаў свойскай жывёлы. Бліжэйшае выкананьне працы даручана асыстэнту Н. К. Навіцкай. Але дагэтуль мала сабрана матар'ялаў. Больш матар'ялаў маем мы толькі аб конскай вошы [1]).

Яна знойдзена намі на скуры коняй, галоўным чынам, на шыі. Велічыня паразытаў хістаецца ад 2,4 да 3,5 мм.

Гэты паразыт праколвае скуру каня і смокча кроў. Пры значным распладненьні паразытаў ад укусаў конь можа захварэць экзэмай, г. зн. запаленьнем скуры, з адпаданьнем жывых пластоў і заменай апошніх каростаю. Хворую жывёлу рэкомэндуецца пагаліць і мыць зялёным мылам, пасьля чаго карыстацца 2% крэозолавай эмульсіяй альбо мешанінай з роўных частак масла і бэнзыну, масла і нафты (газы); таксама можна карыстацца тутунёвым растворам.

Вядома, што пацуковая вош (Haematopinus spinulosus) пераносіць на пацукоў крывянога паразыта (Trypanosoma lewisii). Так сама вядома, што скураная хвароба сьвіней (impetig), якая выклікаецца бактэрыяй (Bacillus enteritidis), пераносіцца пры дапамозе названых відаў паразытаў (Haematopinus). Адсюль відаць, што вывучэньне названых паразытаў зьяўляецца справай досыць актуальнай. Зразумела, што вош больш лёгка нападае на тую жывёлу, якая кепска харчуецца і зьяўляецца слабай.

Названыя вошы (віды роду Haematopinus) сустракаюцца ў кожнай свойскай жывёлы, за выключэньнем кошкі, на якой яны не паразытуюць.

Пры зьбіраньні колекцыі трэба спробу з кожнай жывёлы браць паасобна ў прабірку (шкляначку) з сьпірытусам і дадаваць запіску звычайным алоўкам (але ня хэмічным!) з азначэньнем—месца, часу, жывёлы і прозьвішча зьбіральніка. Гэтыя колекцыі могуць быць навукова апрацаваны для вывадаў.

Краязнаўцы павінны зацікавіцца зьбіраньнем колекцый гэтага паразыту ад розных свойскіх жывёл.

Проф. Салаўёў.

---

[1]) Сабрана ў вёсцы Рэкатка пад Горкамі.

## Скураныя авады (Cuticolae) ў сельскай гаспадарцы.

За апошнія гады ў літаратуры зьявілася некалькі новых прац, якія прысьвечаны авадом (Hypoderma) і барацьбе з імі.

Згодна папярэдніх падлікаў Скурсындыкату ў СССР, страты на скурах, дзякуючы авадом, дасягаюць сумы ў 10 мільёнаў рублёў, ня лічачы яшчэ большых страт на малацэ ды мясе. Экспэдыцыі на Паўночным Каўказе, а таксама на Арэнбурскай сельскагаспадарчай дасьледчай станцыі ў 1929 годзе далі вынікі адносна авадоў, згодныя з тымі назіраньнямі, якія меліся ў амэрыканскіх і нямецкіх вучоных. Аказалася, што бычыны авадзень *(Hypoderma bovis* De Geer) і авадзень рагатае жывёлы *(Hypoderma lineatum* Villers) адкладаюць свае яйкі, прыклейваючы іх да кароткіх валаскоў на нагах жывёлы. Праз тры-чатыры дні пасьля гэтага абалонка яйка лопаецца і вядомая чарва, пакрытая шыпамі, спаўзае па валаску да скуры, якую пачынае сьвярдліць, і такім чынам, пераходзіць ў мяса і злучныя тканкі. Дзехцяроў на маскоўскай бойні знаходзіў на працягу лістапада і сьнежня чарву авадоў у вялікай колькасьці ў страваходзе. У канцы сьнежня чарва паўторна ліняла, а пасьля трэцяй ліньки пачынала далей рухацца ўніз па страваходу і ў канцы студзеня і лютага дасягала скуры сьпіны, дзе два разы зноў ліняла, пераходзіла ў ляльку (кукалку) і давала пасьпеўшых крылатай формы мух.

Цікавыя вынікі атрымалі Благавешчанскі і Памеранцаў пры вывучэньні бычынага аваднявіні (Hypoderma bovis) у Ноўгародзкай акрузе.

Было агледжана 628 галоў рагатае жывёлы, прычым аказаўся наступны процант і ступень паражэньняў:

| Узрост | Сярэдні % паражэньня | Сярэдняя колькасьць чарвы на галаву |
|---|---|---|
| 1—3 | 88,7 | 5,6 |
| 4—6 | 74,3 | 4,9 |
| 7—9 | 65,0 | 3,7 |
| 10—12 | 60,8 | 3,9 |
| 13—18 | 39,1 | 2,3 |
| 1—8 | 75,8 | 4,9 |

Процант і ступень паражэньня жывёлы зьніжаюцца з павялічэньнем ўзросту жывёлы. Найвялікшы процант паражэньня і найбольшая колькасьць чарвы на галаву прыпадае на 1 групу жывёлы ва ўзросьце ад 1 да 3 год.

Найменшы процант і ступень паражэньня мае 5 група ва ўзросьце ад 13 да 18 год. Крывая ступені паражэньня амаль што паралельна крывой проценту паражэньня. Як максымум адзначана 31 чарва (у першай групе) і як мінімум 1. Адносна топографічнага распаўсюджаньня чарвы паказана сьпінная частка жывёлы, як звычайнае месцо знаходжаньня дарослай чарвы; потым ужо ідуць зад, бакі і лапатка; у іншых частках цела капсул чарвы ня знойдзена. З агульнага ліку 2.330 капсул чарвы на сьпіне адзначана наяўнасьць 2.206, г. зн. 94,7 проц., але на заду — 73, на бакох—39 і на лапатцы—12.

Такім чынам *найбольш каштоўная частка скуры* жывёлы прасьвідроўваецца авадамі, чаму скура часта бракуецца.

Паўлоўскі звaрачае ўвагу на памяншэньне продукцыі малака кароў на 10—25 пр. і больш у залежнасьці ад умоў, і гэта памяншэньне зьвязана з пэрыодам міграцыі (вандраваньня) чарвы ў целе жывёлы. Зразумела, што траціць сваю каштоўнасьць мяса там, дзе маюцца вузлы з буйнай чарвой. Але сама скура, як ўжо раней была адзначана, досыць значна псуецца. З ліку ўсіх скур, якія былі пераапрацаваны Скуртрэстам за апошнія гады, каля 75 проц. былі папсуты, прычым 50 проц. усіх скур мелі адкрытыя дзіркі. Бракоўка скураной сыравіны робіцца а з улікам колькасьці дзірак нападставе наступнай табліцы:

| | 1 сорт | 2 сорт | 3 сорт |
|---|---|---|---|
| Вырастак | Зусім не павінна быць дзірак | Ня больш як 2 незарослых дзіркі або ня больш як 5 зарослых; расцэньваецца ніжэй 1-га сорту на 15% | Ня больш як 5 незарослых дзірак або ня больш як 10 зарослых; расцэньваецца ніжэй 1-га сорту на 40% |
| Бугай цяжкі ці асабліва цяжкі | Ня больш як 3 незарослых або 6 зарослых дзірак на плошчы ўсяе скуры | Ня больш як 5 незарослых дзірак па ўсёй плошчы скуры, але згрупаваных на плошчы ня больш як 400 кв. см або зарослых па ўсёй плошчы; расцэньваецца ніжэй 1-га сорту на 10% | Дзіркі незарослыя і зарослыя, якія займаюць ня больш як $^1/_4$ плошчы скуры; расцэньваецца ніжэй 1-га сорту на 25% |

Профэсар Фібігер адзначае штогодную страту рагатае жывёлы ад авадоў у Даніі ў 3 мільёны марак і лічыць выключна рэальным мэтодам барацьбы зьнічшэньне чарвы ў жалваках на скуры жывёлы. Такса-

ма професар Нэвё-Лемэр лічыць выключна рацыянальным лячэньнем экстырпацыю паразытаў. Професар Халадкоўскі выказваецца наконт бычынага авадня наступным чынам: „Для предохранения скота от откладки оводом яиц обмазывают животных ворванью, а для лечения втирают в опухоли керосин или серую ртутную мазь, которыя, как маслянистыя вещества, закрывают дыхальца личинок; последния умирают и выпадают или могут быть извлечены пинцетом".

Вынікі карыстаньня лекавымі сродкамі за апошні час далі наступнае: ін'екцыя чатыроххлёрыстага вугляроду пад скуру хворай жывёлы забівала чарву авадоў на 96 проц. Ін'екцыя газоліну і экстракту табачнага пылу забівала чарву на 90 проц. Моцны ўплыў на організм жывёлы даваў насычаны раствор мядзянага купаросу, прычым наглядаецца значнае запаленьне. Слаба дзейнічаюць дзёгаць, нафта (газа) і табачны пыл. У далейшым навукова-дасьледчыя ўстановы і краязнаўчыя організацыі павінны паставіць перад сабою задачу больш дэталёвага вывучэньня авадоў у сэнсе іх колькаснай распаўсюджанасьці ў данай мясцовасьці, у сэнсе дасканалага падліку тэй шкоды, якая наносіцца авадамі, а таксама ў сэнсе больш практычнага і канчатковага вырашэньня пытаньня аб мерах барацьбы як профіляктычных, так і лекавых.

Проф. Салаўёў.

---

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.

# Зьмест



## ХРОНІКА